# DUDAR

Альманах Дударскага клуба Беларусі
1/2012

# DUDAR

Альманах Дударскага клуба Беларусі

1/2012

## ГІСТОРЫЯ



## ЗНЕШНІЯ СУВЯЗІ



## АСЭНСАВАННЕ ТРАДЫЦЫІ



## КУЛЬТУРАЛОГІЯ



## ГУМАР



*На пярэдняй вокладцы* выкарыстаны партрэт Багдана Чыслава, *на задняй* – партрэт Алеся Сурбы (аўтар абодвух здымкаў – Алег Белавусаў).

Выданне другога нумара альманаха будзе адбывацца па меры складання падпіскі. Па падпіску звяртацца на пазначаныя вышэй каардынаты.



**Кантакты:**
**+375 (29) 3425791, zsasnouski@tut.by**





Альманах выдадзены пры садзейнічанні **Этнагістарычнага цэнтра “Явар”** і пры падтрымцы **Праграмы малых грантаў Амбасады ЗША ў Мінску.**



Павел Котаў



Стась Чавус



Жалейка дуды вырабу Т. Кашкурэвіча

Здымкі А. Белавусава



Дуды вырабу Т. Кашкурэвіча і З. Сасноўскага



Дуды вырабу Т. Кашкурэвіча і Ю. Панкевіча,
здымак З. Сасноўскага

Зміцер САСНОЎСКІ

# ГІСТОРЫЯ “крыўскай”-“ліцьвінскай”-“беларускай” ДУДЫ



## Першабытнасць

Традыцыя язычковых інструментаў сягае ў першабытнае грамадства. Менавіта там зараджаліся традыцыі імітавання галасоў жывёлаў з дапамогай пішчыкавых прыстасаванняў, менавіта там ляжаць карані нашай багатай і старажытнай традыцыі дударства.

Першыя музычныя практыкаванні былі сакральнымі дзеяннямі па імітацыі навакольных гукаў і ўпарадкаванню іх у мантрычныя меладычныя формулы. Таму вельмі важна коратка апісаць гукавое атачэнне, у якім “варыліся” эстэтычныя перакананні першабытных музыкаў. Гукавы свет насельнікаў Беларусі дахрысціянскага перыяду добра ілюструе кніга А. Багдановіча “Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов” (1895): зямля часам гудзе і дрыжыць, бо ў каменнай гары б’ецца прыкаваны цмок; гучны крык і грукат адпалохвае злых духаў; асаблівай сілай валодае рэха; гром грукоча ад трэння жорнаў Перуна; хада лесуна па лесе суправаджаецца трэскам і адначасовым выццём воўка і рыкам мядзведзя; сарока, крумкач, зязюля і сава носяць весткі і здольны прадказваць падзеі; у паветры лётаюць словы, замовы і праклёны; словы “пускаюць па ветры” ці ўкладаюць у хлеб і ваду; сваё імя ахоўваюць і не кажуць незнаёмым… [*Богданович А.* **Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов. Гродна, 1895**].

Музыкант у міфалагічнай традыцыі – вяшчун багоў. Паводле паданняў, вакол багамі абранага музыкі сыходзяцца жывёлы і злятаюцца птушкі, перад ім схіляюцца расліны, вакол яго раяцца пчолкі і таўкуцца дзеці. Паводле беларускіх казак, сапраўдны музыка здольны сваёй музыкай змяняць наваколле, уздзейнічаць на людзей і ўплываць на багоў. Гэтыя ўяўленні наслоены на кожны прадмет, у тым ліку на кожны музычны інструмент. Л. Салавей: “Нават умоўны гук прымітыўнага гукаўтвараючага інструмента значыў больш, чым проста сігнал” [**Міфалогія. Духоўныя вершы. Мн., 2003**].

Вяршыняй першабытнай інструментальнай культуры былі касцяныя духавыя інструменты. На тэрыторыі Беларусі знойдзена некалькі такіх інструментаў **эпохі неаліту**. На паселішчы Дубакрай (воз. Сенніца, мяжа Віцебскай і Пскоўскай абласцей) знойдзены дзве касцяныя прамыя адкрытыя жалейкі, якія маюць па 5 гукавых адтулін [*Зайкоўскі Э.* **Музычная культура першабытнага часу на тэрыторыі Беларусі // Из истории науки и техники Белоруссии : тезисы докладов конференции 26–27 мая 1988 г. Мн., 1988**]. Абломкі жалеек знойдзены таксама на неалітычных стаянках у Крывінскім тарфяніку (між в. Галоўск і в. Асавец Бешанковіцкага раёна). Усе яны зроблены з трубчатых птушыных костак [*Чарняўскі М.* **Ілюстраваная гісторыя старажытнай Беларусі. Мн., 2003**].

Унікальная жалейка з трыма іграваымі адтулінамі была знойдзена ў 2004 г. М. Чарняўскім на тым жа Крывінскім тарфяніку на стаянцы Асавец-7 [*Чарняўскі М. М.* **Тарфяніковая стаянка Асавец-7 – новыя даследаванні // Гісторыка-археалагічны зборнік. № 20. Мн., 2005**]. М. Чарняўскі: “Жалейка, знойдзеная ў гэтым годзе, з’яўляецца адзіным цэлым экзэмплярам музычнага інструмента такога тыпу на Крывінскім тарфяніку” [**там жа**]. Уся працягласць корпуса мае насечаныя рыскі. Часта іх вызначалі як арнамент, але даследаванні А. Фралова на вялікай колькасці археалагічнага матэрыялу паказалі, што насечкі на прадметах часта з’яўляюцца элементамі першабытнага ліку. Такія насечкі сустракаюцца на многіх касцяных трубачках, у тым ліку і на флейтах з іграваымі адтулінамі. Гэта сведчыць пра тое, што музычныя інструменты выкарыстоўваліся ў першабытным грамадстве ў разнастайных сферах дзейнасці [**там жа**].

На Крывінскім тарфяніку ў 1972 г. М. Чарняўскім пры раскопках помніка Асавец-2 быў выяўлены фрагмент касцяной жалейкі першай паловы 2-га тыс. да н. э [**Гісторыя Беларусі. Т. 1. Мн., 2000**]. Гэта тонкі касцяны флейтавы інструмент з маленькім унутраным дыяметрам, зроблены

з косткі дробнай птушкі (магчыма, чаплі).

На стаянцы Асавец-2 разам з жалейкай былі знойдзены таксама стоды і скульптурка птушкі **[там жа]**. На гэтай жа стаянцы М. Чарняўскі знайшоў выяву качкі на абломку гаршка і прадметы з іклаў дзіка, якія ён ідэнтыфікаваў як фігуркі птушак **[*Чарняўскі М.* Ілюстраваная гісторыя старажытнай Беларусі]**. Тое, што побач з жалейкамі, вырабленымі з птушыных костак, знойдзены фігуркі птушак і стоды, магчыма, сведчыць пра выкарыстанне жалеек у нейкіх абрадах, звязаных з птушкамі. Пастаянная прысутнасць птушак сярод рэчаў і малюнкаў можа сведчыць пра ўстойлівы культ птушак часоў неаліту.

На гарадзішчах **жалезнага веку** Беларусі выяўлена пяць касцяных жалеек з іграваймі адтулінамі. Адна жалейка знойдена на гарадзішчы днепра-дзвінскай і банцараўскай культур Дуброва (Верхнядзвінскі раён), дзве жалейкі – на гарадзішчы штрыхаванай керамікі Гарані (Смаргонскі раён) і адна на гарадзішчы мілаградскай і зарубінецкай культур Уваравічы (Буда-Кашалёўскі раён). Усе знаходкі выраблены з трубчатых костак птушак, ахайна абрэзаных з абодвух канцоў. Паверхня дбайна адпаліравана. Датыроўка знаходак вельмі шырокая, яна можа быць прывязана да ўсяго часу існавання паселішчаў. Гэта VII ст. да н. э. – VIII ст. н. э. **[*Дробушевский А. И.* Костяные изделия Уваровичского городища… // Рэгіянальная навуковая канферэнцыя “Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя”. Магілёў, 1995. Ч. 1; *Зверуго Я. Г.* Исследование Гораньского городища // LA. 1992. № 9; *Шадыро В.* Средневековые материалы из городища Прудники // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн., 1993]**.



▪ Жалейка з гарадзішча Дуброва (Верхнядзвінскі раён), жалезны век

Разгледзім жалейку, знойдзеную на гарадзішчы Дуброва. Яна мае 2 ігравыя адтуліны. Даўжыня знаходкі – 70 мм, дыяметр дзвюх адтулін, размешчаных на адным баку, – 2–2,5 мм, адлегласць між імі – 33 мм. Супрацьлеглая адтуліна прарэзана па цэнтру інструмента, яе дыяметр 4 мм.

Плённыя вынікі ў даследаванні першабытных інструментаў даюць лабараторныя музыказнаўчыя эксперыменты, якія атрымалі ў літаратуры назву **эксперыментальная археалагічная арганалогія** (навука пра будову інструментаў). Мэта арганалагічных эксперыментаў – выкарыстоўваючы розныя прынцыпы гуказдабывання, апісаць гукарад і, па магчымасці, вызначыць тып інструмента і спосабы яго выкарыстання.

Найлепшыя вынікі ў эксперыментах з гэтым інструментам даюць чаротавыя пішчыкі. Але наконт выкарыстання чаротавых пішчыкаў варта заўважыць, што іх прымацаванне да вузкага канца жалейкі дае кепскія вынікі. Непараўнальна лепшыя вынікі дае пастаноўка пішчыка з шырокага краю жалейкі. Мы прымацавалі да шырокага краю жалейкі пішчык з тонкага чароту з іванецкага балота (адваротны адкол язычка, натуральна закаркаваны тарэц, дыяметр пішчыка 5 мм, даўжыня язычка 23 мм, шырыня язычка 4 мм). Граючы на сярэднім ціску паветра, атрымліваем наступны гукарад: B-↑C-D#-↑F. Граючы на моцным ціску, атрымліваем гукарад, дзе дзве ніжнія ноты застаюцца тымі ж, а верхнія павышаюцца: B-↑C-↓E-↓F#.

У выніку высвятляецца цікавая акалічнасць. Гукарад гэтай дубровенскай жалейкі імкнецца да цэлатонавай гамы, якая характэрна для абрадавых спеваў Беларусі. Цэлатонавую асаблівасць беларускіх абрадавых спеваў заўважыў яшчэ ў XIX ст. А. Багдановіч, называючы гэтую гаму “кітайскай” **[*Богданович А.* Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов]**. Цэлатонавы гукарад беларускіх народных дудачак апісаў у 1928 г. Н. Прывалаў, называючы гэта “даўнімі перажыткамі арыйскай пяцітоннай гамы” **[*Прывалаў Н.* Народныя музычныя інструманты Беларусі. Мн.: Ін-т беларускай культуры, 1928]**.

**Больш за тое, строй дубровенскай жалейкі вельмі набліжаны да гукараду лепельскай дуды 1877 г. (гукарад зняты Т. Кашкурэвічам узімку 2007 г. пры эксперыментальнай працы ў Лепельскім краязнаўчым музеі). Немалаважна тое,**

**што ўсе параўнаныя аб’екты (і першабытная жалейка, і лепельская дуда) паходзяць з аднаго рэгіёна – тэрыторыі Віцебскай вобласці. Гэта нараджае сенсацыйную версію, што, верагодна, традыцыя дудаў паўночнабеларускага рэгіёна мае 2,5-тысячагадовы ўзрост!**

## Сярэднявечча

У сярэднявечнай літаратуры часта згадваюцца інструменты, якія паводле назваў цяжка вызначальныя. Класіфікацыі падлягае хіба від інструмента і чын яго гуказдабывання. Калі тэрміны “свірэль” і “сапель” адносяцца, хутчэй за ўсё, да інструментаў флейтавых, то тэрміны “пішчаль”, “пішчэлі”, “пішчалкі” і “пішчык” абазначалі інструменты язычковыя – рознага кшталту жалейкі і, магчыма, дуды. Тэрмін “пищаль” выяўлены ў самых розных рукапісных крыніцах, напрыклад у “Минее праздничной” (спіс XI–XII стст.) [***Лавровский П. А.*** **Описание семи рукописей имп. Санкт-Петербургской публичной библиотеки. М., 1859**].

Пры раскопках Ваўкавыска Я. Звяругам была знойдзена жалейка XII ст. [**Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыклапедыя. Мн., 1993**]. Даўжыня інструмента – 95 мм, дыяметр – 11 мм. Інструмент меў 4 круглыя іграві адтуліны: 3 на пярэднім баку ствала і 1 – на тыльным баку. Свісткавае прыстасаванне не захавалася. І. Назіна выказала здагадку, што свісткавае прыстасаванне было зроблена з дрэва і згніло [***Назина И. Д.*** **Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые. Мн., 1979**]. Магчыма, гуказдабыванне на гэтым інструменце адбывалася з дапамогай чаратовага ці пёравага пішчыка.

Звяртае ўвагу факт надзвычайнай насычанасці музычнымі інструментамі такога горада, як Ваўкавыск. Раскопкі Ваўкавыска даюць найбольшую колькасць інструментаў і выяў – варган, жалейка, медныя бразготкі, гліняныя грукоткі, фігурка барабаншчыка, кляймо ў выглядзе танцуючага чалавека.

Першае згадванне непасрэдна “дуды” ў старабеларускай літаратуры адносіцца да канца XV ст. У творы перакладной літаратуры “Аповесць пра трох каралёў-валхвоў” ёсць некалькі ўрыўкаў з узгадваннем дуды: “З дудами и с гоусльми оуси съ жонами и с детми от меншого аж до большого не едъше ани пивше оу ночи до преве одным оуси посполоу приходят велми покорне… але вежды кдень коли оу местех хрестіанских албо кацерьских живоут. оусегда оу неделю пораненкоу з дудами и с гусльми” [**Повесть о трех королях-волхвах в западнорусском списке XV века // ПДПИ. Т. 150. СПб., 1903**]. Звесткі з “Аповесці аб трох каралях-валхвах” дазволілі І. Назінай зрабіць выснову: “дуда была вядома ў Беларусі ўжо ў XV, а не ў XVI ст., як гэта прынята лічыць” [***Назина И. Д.*** **Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые**].

І. Назіна бачыла ў другой частцы працытаванага ўрыўка сведчанне выкарыстання дуды падчас пахавальных і хаўтурных абрадаў [**там жа**]. Тут варта заўважыць, што гэтыя абрады звычайна заканчваліся танцамі і вясёлымі забавамі, што з’яўлялася спадчынай дахрысціянскіх часоў. Таму дуда ў сярэднявечных пахавальных і памінальных абрадах не выконвала “жалобныя” мелодыі. Яна традыцыйна для сябе суправаджала танцы.

У 1972 г. расійскі этнаінструментолаг Р. Галайская знайшла ўнікальны рукапіс XV ст. умоўнарэлігійнага характару, дзе тлумачыцца механізм гучання дуды. Тэкст пачынаецца апісаннем няўрымслівай паветранай стыхіі, якая візгоча, раве і здольна ўздымаць велізарныя марскія хвалі. Калі ж яна зняволеная ў адмыслова выраблены са скуры казы рэзервуары (мяшку), гэтая паветраная стыхія “сгнетением рук” майстра накіроўваецца ў “свирели”. Так майстар настройвае дуду і яна пераўтвараецца ў “мосичьский органъ”. “Человеческая хытрость” майстра прымушае гучаць “свирели” на розныя галасы, якія нагадваюць ці “гоусльные же строуны”, ці “тимпаньскую кожу бряцающую и гоубнущую, прикосением и оударением дрьжащего” [**Народные музыкальные инструменты и инструментальная музыка : сб. ст. и матер. : в двух частях. Часть первая / под общ. ред. Е. В. Гиппиуса. М., 1987**].

У час прысутнасці нашых музыкаў пры двары караля Ягайлы беларускія



- Жалейка, г. Ваўкавыск, XII ст.



▪ Музыка з жалейкай. Фрагмент фрэскі “Хрыстос у прыторыі” з капліцы Св. Тройцы ў Люблінскім замку. Канец XIV – пачатак XV ст.

дойліды пад кіраўніцтвам майстра Андрэя зрабілі размалёўку капліцы Св. Тройцы ў Люблінскім замку з унікальнымі выявамі музыкаў. На фрагменце гэтай фрэскі (у беларускай літаратуры яна атрымала назву “Хрыстос у прыторыі”, у польскай – “Naigrawanie”) можна ўбачыць музыку, які грае на жалейцы.

Разгледзім мініяцюры Радзівілаўскага летапісу “Пляскі і ігрышчы паўночных плямёнаў” (“Пятроўскія русаліі радзімічаў, вяцічаў і севяранаў”) і “Ігрышча бесаў у келлі манаха Ісакія” **[Радзивилловская летопись : факсимильное воспроизведение рукописи. СПб. ; М., 1994]**. Яны створаны ў канцы XV ст., але паводле ранейшага, больш старога ўзору, таму датаваць дакладна яе немагчыма. В. Чамярыцкі лічыць, што, магчыма, месцам стварэння ілюстраванага спіса Радзівілаўскага летапісу быў Смаленск **[Вялікае Княства Літоўскае : энцыклапедыя : у 2 т. Т. ІІ. Мн., 2006]**, які ў той час (канец XV ст.) уваходзіў у сферу палітычнага ўплыву Вялікага Княства Літоўскага. М. Каладзінскі: “Многія элементы дазваляюць казаць аб тым, што намаляваныя чэрці робяць усё тое, што рабілі скамарохі ў час сваіх “глумаў”. З даўніх часоў скамарохі пераапраналіся ў адзенне чарцей і расфарбоўвалі твары. Усё гэта дае падставу меркаваць, што на гэтай мініяцюры паказана тыповае прадстаўленне скамарохаў з музыкай, танцамі і акрабатычнымі нумарамі” **[Гісторыя беларускага тэатра : у 3 т. Т. 1 : Беларускі тэатр ад вытокаў да кастрычніка 1917 г. Мн., 1983]**.

На гэтых мініяцюрах бачым цікавы інструмент, які з першага погляду нагадвае шалмей. М. Каладзінскі: “Гэты духавы інструмент можна аднесці да ўдасканаленага віду славянскай жалейкі, якая мела рэзервуар для паветра” **[там жа]**. Жалейка з рэзервуарам для паветра – гэта від дуды, так званая “дуда з малым корпусам”, які вырабляўся са страўніка жывёлы ці расліны. У “Энцыклапедыі музычных інструментаў свету” гэты інструмент называецца “свірэль з пухіром” ці “просты від дуды” **[Музыкальные инструменты мира : иллюстрированная энциклопедия. Мн., 2001]**.

Складанасць у даследаванні мініяцюры “Ігрышчы бесаў у келлі манаха Ісакія” ўяўляе тое, што некалькі мастакоў на працягу XV–XVI стст. “выпраўлялі” старэючыя абрысы, у выніку чаго на мініяцюру былі накладзены некалькі слаёў фарбы з несупадаючымі сілуэтамі. Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што мастакі “сціралі” некаторыя месцы перад тым, як накладаць новы малюнак. Тым не менш можна ачысціць сілуэты беса з дудой у кожным з трох слаёў, грунтуючыся на тым, што ў ніжніх слаях сілуэт прамаляваны чарнілам з вокісамі жалеза (зараз карычневага колеру), у верхнім слоі – чорным чарнілам (сярэдні слой – гэта тое, што застанецца пасля “выцягвання” ніжняга карычневага і верхняга чорнага сілуэтаў). Атрымліваем тры сілуэты беса, вылучаныя з кожнага з трох слаёў. Калі першы і трэці слаі праглядаюцца адносна выразна, то другі,



▪ Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу “Пляскі і ігрышчы паўночных плямёнаў”, XV ст.



▪ Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу “Ігрышча бесаў у келлі манаха Ісакія”, XV ст.





- “Дуда з малым корпусам” на мініяцюры “Цар Давыд” у Ноўгарадскай Сімана-Хлудаўскай псалтыры (XIII ст.), заходнееўрапейскі “хорус” IX ст. і французскі “cornemuse” XI ст.




- “Дуда з малым корпусам” на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу, XV ст.



- Умоўная схема эвалюцыі “пераддудовых” інструментаў на Беларусі

сярэдні між імі, кепска. На першым атрыманым эскізе бачым дуду, рэзервуар якой мае складкі, ён, магчыма, зроблены са страўніка жывёлы. На другім незразумела, ці то мастак дамалёўваў доўгі корпус да старога рэзервуара, ці то намаляваў свой. Трэці слой паказвае дуду з досыць вялікім рэзервуарам і ігравой трубкай у выглядзе рога, трэці бес трымае лапы не на розе, а на мяшку.

Такая дуда ў старажытнасці бытавала на беларускіх землях, яе рудыменты дажылі да XX ст., калі такую дуду на этнічнай беларускай частцы Смаленшчыны зафіксаваў і апісаў К. Квітка: дуда зробленая з пухіра, у які ўстаўленыя чаратовыя пішчыкі (Т. Кашкурэвіч прапануе бачыць у гэтым інструменце ўплыў суседніх угра-фінскіх традыцыяў).

Тэрытарыяльна і храналагічна найбліжэйшы аналаг гэтага інструмента сустракаем на мініяцюры “Цар Давыд” у Наўгародскай Сімана-Хлудаўскай псалтыры канца XIII ст. Інструментолаг У. Паветкін так апісаў выяву гэтага інструмента на мініяцюры “Цар Давыд”: трубка для надзімання паветра, мех-пухір і раструб з рога **[Древнерусский музыкальный инструментарий // “Центр культуры Поветкина В. И. “Музыкальные древности” // [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://soros.novgorod.ru]**. Заходнееўрапейскія аналагі сустракаем на сярэднявечных еўрапейскіх мініяцюрах **[Музыкальные инструменты мира : иллюстрированная энциклопедия]**. Тэрытарыяльна і храналагічна далёкімі аналагамі дуды з малым корпусам з’яўляюцца заходнееўрапейскі “хорус” IX ст. і французскі “cornemuse” XI ст., а таксама польская безбурдонная дуда “siersienka”.

Можна скласці ўмоўную схему эвалюцыі “пераддудовых” інструментаў: жалейка XII ст. з Ваўкавыска, жалейка з фрэскі “Хрыстос у прыторыі” капліцы Св. Тройцы XV ст., дуда з малым рэзервуарам з мініяцюры Радзівілаўскага летапісу “Пляскі і ігрышчы паўночных плямёнаў”, дуда з малым рэзервуарам з мініяцюры “Ігрышча бесаў у келлі манаха Ісакія” → старабеларуская/ літоўская дуда “з гукамі-самародкамі” (выразанымі з аднаго кавалка дрэва).

Н. Прывалаў: “У славян гэтаму інструменту было нададзена імя дуда, пры гэтым тут захаваліся перажыткі яго прадаўнейшай прыналежнасці да культавых абрадаў… Гэты інструмент атрымаў і другі назоў – валынка. Дзеля высвятлення гэтага назову прыпомнім, што нямецкія гісторыкі ўпамінаюць у XII–XIII стст. вялікі партовы славянскі горад на беразе Балтыйскага мора пад назовам Volin або Wollin, г. зн. перайначаны славянскі горад “Вольны”, які, мабыць, выяўляў сабой нешта кшталтам нямецкага Гамбурга. Сюды збіралася мноства народаў з поўдня і поўначы, якія вялі менавы гандаль і

адпраўлялі культавыя святы. Паводле звычаю прыходзілі на гэтыя святы тоўпы пажаданых гасцей – скамарохаў. Адзін з нямецкіх гісторыкаў быў здзіўлены велічэзнасцю гэтага свята, прытым тысячы народу на гульбішчы паказаліся яму "ап'янеўшымі ад напіткаў і песняў". Безумоўна, што валынкі – улюбёная музыка скамарохаў – панавалі над хаосам гукаў. І вось назоў горада Wollin адбіваецца на найбольш папулярным інструменце славян балтыйскага ўзбярэжжа так, што першапачатная дуда набывае з часам назоў валынка" [*Прывалаў Н.* **Народныя музычныя інструманты Беларусі**].

У XVI ст. згадванне пра дуду ў старабеларускай літаратуры сустракаем у перакладным творы "Аповесць пра Трышчана" (1580-я гг.): "Прывелъ ми Трыщан чыстое золото, и казал прывести вслкие гудбы и дуды" **[Повесть о Тристане и Изольде // ОРЯС. Т. 44. № 3. СПб., 1880]**. У XVII ст. дудар згадваецца ў беларускім "Сборнике житий святых": "Перве ся о том Святый стрывожыл иж его дудареви прыровнано, але потом шедшы нашол аднаго дударя, и пилне его пытал яко се справует" **[Арыгінальны тэкст літаратурнага помніка атрыманы ад А. Дзітрыха]**. Пад 1644 г. маем цікавы факт згадвання дуды, калі крайчы ВКЛ Тышкевіч запрасіў маршалка ў свой дом патанцаваць "пры дудах нашых сельскіх" **[там жа]**.

Пінскі шляхціч Ян Пратасовіч у паэме "Inventores Rerum" (1608) піша пра "мазавецкія дуды" ("mazowieckie dudy"), пры гэтым паведамляе, што дуды і сялянскія будыніны з трыснягу (чароту) заўжды разам: калі ў будынінах з трыснягу п'юць – "у дуды крыклівыя граюць" ("w dudy krzykliwe igrają") [***Protasowicz Jan.*** **Inventores rerum. Wrocław, 1973]**. Цікава, што Я. Пратасовіч называе дуды "мазавецкімі". Гэтаму можа быць некалькі прычын: ці аўтар меў на ўвазе сапраўды мазавецкія дуды – інструменты з Мазовіі, ці мясцовыя сялянскія інструменты Пратасовіч называе "мазавецкімі", кіруючыся нейкай аналогіяй альбо традыцыяй. Цікава, што праз усю паэму пастаянна згадваюцца "мазыры" ("хлопцы-мазыры голяць бароды") і "мазуры" ("мазур піва чуе за вярсту"). Магчыма, Пратасовіч такім чынам адрозніваў мазуроў (жыхароў Мазовіі ў Польшчы) і мазырцаў, жыхароў недалёкага ад Пінска Мазырскага Палесся.

У "Лексиконе" Памвы Бярынды падаюцца розныя назвы дуды ў XVI–XVII стст. – "сопль" і "прегудница". Калі "сопль" – тэрмін збіральны, які азначаў, апрача дуды, цэлы комплекс духавых інструментаў ("сопель", "пищалку", "флетню", "фуяру", "сурму" і інш.), то "прегудница" – гэта "дуда, шторт" (Лексикон славенороссийский. Кутейно, 1653). Дуда пад назвай "прегудница" згадваецца таксама ў Ф. Скарыны: "услышите звукъ трубы и сопелъки и гуслей и смытъца и прегудници гарфы" ("Кніга Данііла прарока").

Дудары траплялі ў афіцыйныя дакументы і нават у пералік падаткаплацельнікаў. У Лісце вялікага князя Жыгімонта Аўгуста да старасты аршанскага князя Андрэя Адзінцэвіча пералічваюцца катэгорыі людзей, якія мусяць сплочваць падаткі: "...з людей волочащих, которые без службы мешкають, и теж з медведников, дудников..." **[Литовская метрика. Книги публичных дел // Русская историческая библиотека. Т. 30]**.

А. Грыцкевіч выказаў меркаванне, што аб'яднанні дудароў, блізкія да цэхаў, існавалі на тэрыторыі Беларусі ўжо ў XVI ст. [***Грицкевич А. П.*** **Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1975]**. З канца XVI (і ажно да XX ст.) пад акампанемент дуды ішлі прадстаўленні батлейкі **[Барышаў Г. І., Саннікаў А. К. Беларускі народны тэатр батлейка. Мн., 1962]**.

Т. Кашкурэвіч: "Ёсць звесткі пра тое, што дудароў на Беларусі пахоўвалі разам з дудамі" (выступ на дударскай канферэнцыі, хутар "Барок", Валожынскі раён, 2009 г.).

У XVI ст. дуда з малым корпусам, якая паказвалася на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу, трапіла ў войска ВКЛ. У кнізе Абрахама дэ Бруйна (de Bruyn), выдадзенай у Антверпене ў 1581 г., бачым гравюру "Музыкі-русіны", дзе паказаны барабаншчык і дудар войска ВКЛ [***Szulcówna A.*** **Muzykowanie w Polsce Renesansowej. Poznań, 1959; Wielkopolska matecznikiem dud polskich. Poznań, 2005]**. За поясам у дудара зменная жалейка, на руцэ вісіць вайсковы горн. Гэтую выяву часта выкарыстоўваюць у сваіх працах польскія гісторыкі, называючы музыкаў "польскімі". Але на прыналежнасць гэтых музыкаў да войскаў ВКЛ паказвае лацінамоўны подпіс пад гравюрай: "Tympanocriba Rhutenus, vel ganeo. Ludio Rhutenus, vel circulator".

Гравюра "Музыкі-русіны" з кнігі Абрахама дэ Бруйна ў канцы XIX ст. паслужыла прататыпам для малюнка Юліуша Косака (захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі Украіны, ва ўкраінскіх выданнях называецца "Польські військові музиканти"). Аналагічных музыкаў бачым на польскай

рыціне канца XVI ст. пад назвай “Typanista Polonorum Equitum Die Trummelshlager bey die Polsche Reuter”. Пэўна адбываўся нейкі літоўска-польска-літоўскі ўзаемаабмен, як было і ў іншых сферах музычнага жыцця.

## Новы час

Дудароў сустракаем у гарадскіх юрыдычных актах. Дудары стаяць у пераліку музычных прафесій у прыватнаўласніцкіх гарадах Беларусі XVII–XVIII стст. **[*Грицкевич А.* Социальная борьба горожан... Мн., 1979]**. Паводле дакументаў Пінскага гарадскога суда, у 1699 г. разглядалася справа чараўніка Хведара Адамовіча, які быў абвінавачаны ў тым, што “перад многімі людзьмі ў мястэчку Янове падчас кірмашу граючаму на дудзе дуду зачараваў, што граць перастала, аж яго той прасіў, каб расчараваў” (Янова – сёння г. Іванава ў Брэсцкай вобласці) **[Акты Виленской археографической комиссии. Т. 18 : Акты о копных судах (1522–1707). Вильно, 1891]**. Унікальнасць гэтага паведамлення ў тым, што ў афіцыйную судовую інстанцыю можна было звярнуцца па справе чарадзейства, скіраванага на інструмент.

У той жа камедыі К. Марашэўскага дуда выступае ў ролі “весялункі”. Селянін кажа: “А мы калі збяромся да карчмы, мала яе не развалім ад гуку – столька дуд нашых” **[Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн., 1978]**. Дудар згадваецца таксама ў інтэрмедыі “Селянін і студэнт” з “Ковенскага зборніка” (XVIII ст.): “Не музык Мосць пане, а ні дудар, парою ў кулак затрублю...” **[Арыгінальны тэкст літаратурнага помніка атрыманы ад А. Дзітрыха]**. Аб бытаванні дуды ў Беларусі ў XVIII ст. пісаў і А. Маслоў, спасылаючыся на апісанне Чарнігаўскага намесніцтва, у якім адзначалася, што “литвяки (т. е. белорусы) на волынках играют” **[Музыка и жизнь. 1911. № 1–2]**.

Да гэтага перыяду адносіцца адзіная ў нашай іканаграфіі выява анёла з дудой (абраз “Узнясенне Ісуса Хрыста” з царквы в. Экімань пад Полацкам, 1743) **[Полацк музейны. Мн., 2006]**. На жаль, бурдон у гэтай дудзе не праглядаецца.

У XIX ст. дуды былі распаўсюджаны па ўсёй Беларусі ад Паазер’я на поўначы да Палесся на поўдні. Вялікая папулярнасць дуды ў беларусаў спарадзіла шматлікія згадванні пра яе ў этнаграфічнай літаратуры XIX ст. Сярод многіх прац аб побыце насельніцтва Віцебскай, Віленскай і Мінскай губерняў цяжна знайсці такую, у якой не было б якіх-небудзь звестак аб гэтым інструменце. Мяркуючы па гэтай інфармацыі, без дуды не абыходзіліся не толькі святы, гулянні і кірмашы, але і каляндарна-земляробчыя і сямейныя абрады. Этнографы XIX ст. апісваюць сітуацыю распаўсюджанасці беларускай дуды не толькі ў сялянскім асяроддзі. Магнаты і шляхта таксама бавіліся пад дуду і з цікавасцю слухалі гэты музычны інструмент.

П. Шэйн пісаў: “Дудари в старину, еще не очень далекую, пользовались большим почетом в народе; их было очень много и в иных местах (например, в Борисовском уезде Минской губернии), по свидетельству местных старожилов, они составляли целые сплоченные артели” **[*Назина И. Д.* Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые]**. М. Кулівовіч: “Сярод дудароў найбольшую папулярнасць набываюць барысаўскія дудары са сваімі дудамі, выдатныя віртуозы свайго інструменту і каларытныя беларускія выканаўцы” **[*Куліковіч М.* Беларуская музыка: Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва. БІНіМ. Нью-Ёрк, 1953. Ч. 1]**. М. Нікіфароўскі паведамляў пра тое, што мастацтва дудара было заўважнай з’явай у побыце віцебскіх беларусаў **[*Никифоровский Н. Я.* Очерки Витебской Белоруссии. Дударь // Этнографическое обозрение. М., 1892. Кн. 13–14. № 2–3.]**. Папулярнасць дуды сярод беларусаў выявілася нават у спектаклях батлейкі. Е. Раманаў пісаў, што ў адной са сцэнак батлейкі купец скардзіцца, што яго пабілі “пастух трубой, музыкант дудой” **[*Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. 5 : Заговоры, апокрифы и духовные стихи. Витебск, 1891]**.

Ч. Пяткевіч кажа, што на Рэчыцкім Палессі была вядомая “чаратоўка”, яе аўтар называе “прататыпам дуды, якая надзімаецца пры дапамозе скуранога меха”. З гэтага этнограф робіць выснову: “З усяго відаць, што дуда на Рэчыцкім Палессі не чужая, можа дзякуючы ўласным дударам у мінулым ці вандроўным з тых частак Беларусі, дзе гэты інструмент найдаўжэй захаваўся” **[*Пяткевіч Ч.* Рэчыцкае Палессе. Мн., 2004]**.

Але ў XIX ст. арэал пашырэння дуды скарачаецца і абмяжоўваецца тэрыторыяй Віцебшчыны, Віленшчыны, Жамойці і Латгаліі. М. Нікіфароўскі абгрунтавана бачыў адну з прычынаў вымірання дуды ў распаўсюджанні



Бяскорпусная дуда. Малюнак Я. Бядонік

больш таннага гармоніка [*Никифоровский Н. Я.* **Очерки Витебской Белоруссии. Дударь**]. Аб выцясненні дуды іншымі інструментамі казалі і самі дудары: калі на вяселлі з'яўлялася скрыпка, "так яна пабівала дуду" [*Назина И. Д.* **Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые**].

**Канструкцыя беларускіх дудаў.** У сярэдзіне XIX ст. этнографам Н. Анімеле было зроблена першае падрабязнае апісанне беларускай дуды: "Дуда – духовой музыкальный инструмент, обыкновенно собственного



Дуда 1877 г. у экспазіцыі Лепельскага краязнаўчага музея

изделия играющего, есть не что иное, как сшитый из кожи продолговатый пузырь, величиною с самого большого гуся и почти с такою же, как у гуся, шеею, в которую укрепляется верхним концом желейка – небольшая (вершков 6 в длину) дудочка, с загнутым широким отверстием внизу, наподобие табачной курительной трубки с чубуком: в другом конце пузыря, т. е. там, где у гуся хвост, укреплена дудка-рагавня – весьма большого размера, длиною в аршин и толщиною в руку; там же, где у гуся спина, прикреплена к пузырю маленькая дудочка вершка в три длиной и в палец толщиною, называемая "саплем". Принимаясь играть на дуде, музыкант берет мех под мышку левой руки и, надувая его посредством сапля, вместе с тем берет в обе руки желейку и производит тоны, перебирая пальцами по находящимся в ней дырочкам, которых числом семь: рагавня же висит у него между ног или лежит на коленях, беспрестанно ревет вместо баса. Дуда представляет то удобство, что играющему не надобно дуть безостановочно: надув однажды пузырь, он после того только слегка подбавляет туда духу, пожимая пузырь рукою, так, что, не прерывая игры, может проговорить несколько слов" [**там жа**].

І. Назіна: "Если верхний конец перебора вставляется в мех, то на его противоположный конец надевается "рагавень" – изогнутый раструб. Роговень, выточенный из карельской березы-чечетки и украшенный металлическим или серебряным орнаментом, весьма ценился в дударской семье и передавался по наследству... В верхнюю часть перебора вставляется пищик, сделанный из "сильного" расщепленного гусиного (индюшачьего) пера или из тростника" [**там жа**]. У народнай песні "Цяцерка" паведамляецца пра выраб пішчыка з пяра цецерука: "Я цяцерку пасу, Да ў кляновым лясу... Вырву ж я пёрачка, Да зраблю ж я дудачку, Да стану ж я граць" [*Романов Е. Р.* **Белорусский сборник. Вып. 5 : Заговоры, апокрифы и духовные стихи**].



Т. Кашкурэвіч з дудой 1877 г. Лепельскі краязнаўчы музей, 2007 г.

Паводле канструкцыі і колькасці гукаў-бурдонаў М. Нікіфароўскі вылучае 4 віды беларускіх дудаў. Самы просты – **бяскорпусная дуда**, дзе паветраным рэзервуарам служаць лёгкія дудара: пры гранні на бяскорпуснай дудзе дудар устаўляе ў рот адначасова бурдон і жалейку. М. Нікіфароўскі: "играющий берет в рот одновременно гук и перебор и играет на последнем, как на жулейке или посвирелке, а "гук только басуиць". Если есть досужий охотник "бусуваць", то это дело поручается ему, а при двух гуках – двум лицам" [*Никифоровский Н. Я.* **Очерки Витебской Белоруссии. Дударь**].

Другі від – **"аднагукавая" (аднабурдонная) дуда**, якая мае адзін "басуючы" гук.

Трэці від – **двухбурдонная дуда** (гукі даўжынёй 100 і 75 см). М. Нікіфароўскі паведамляе, што гэта была самая распаўсюджаная ў ягоны час дуда на Віцебшчыне.

Чацвёрты від беларускай дуды – шматбурдонная **"мацянка"** ("мыцьянка", "муцьянка") – "имеет сравнительно

большой корпус, соску с залогом и от трех до шести гуков сверх перебора, расположенных по обеим сторонам корпуса” **[там жа]**. “Мацянка” не мела такога шырокага распаўсюджання, як адна- і двухбурдонныя дуды з-за складанасці вырабу і настройкі. “Мацянка”, паводле Н. Анімеле, часцей сустракалася ў сялян-католікаў.

Найстарэйшая захаваная беларуская дуда захоўваецца ў Лепельскім краязнаўчым музеі. Гэта прыклад аднабурдоннай беларускай дуды, уласцівай паўночнабеларускаму дударскаму рэгіёну. Апошняе месца выкарыстання гэтай дуды – в. Верабкі Лепельскага раёна. Інструмент быў набыты ў 1877 г. у мясцовых плытагонаў. Апошні ўладар – Іван Міснік, які быў нашчадным дударом, таму ўвесь ягоны род – і дзяды, і сыны мелі мянушку “Дуда”. Інструмент быў здадзены ў Лепельскі музей пасля смерці Івана Місніка ў 1968 г. Паводле інфармацыі Уладзіміра Місніка (унука дудара Івана Місніка) дзед граў на вяселлях і хрэсьбінах **[Лепельскі край. 2006. 7 снеж.]**. Пішчыкі былі выраблены з чароту і захаваліся дагэтуль у працоўным стане.

У паўночнабеларускай традыцыі ўсе дуды багата ўпрыгожваліся інкрустацыяй волава па дрэве. Пра гэты звычай у XIX ст. паведамляў верш “Рабункі мужыкоў” Я. Баршчэўскага (пададзены ў артыкуле Рамуальда Падбярэскага “Беларусь і Ян Баршчэўскі”). Тут згадваецца пра дуду з мядзянай ці цынкавай інскрустацыяй: “І мы доўга так гулялі / Што хацелі, пілі, бралі... Цыны, медзі, колькі мог / Чым абліць дуду і рог...” **[*Баршчэўскі Я.* Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Мн., 1990]**. Лепельская дуда



- Малюнак “Беларускае вяселле” Р. Жукоўскага, XIX ст.

Дудар з малюнка “Беларускае вяселле”



- Дудар грае танцам у карчме, малюнак Р. Жукоўскага, XIX ст.



- Чорт з дудой, фрагмент малюнка Р. Жукоўскага, 1844 г.



- Прамалёўка дудара з малюнка Р. Жукоўскага “Ля карчмы”, XIX ст.



- Майстар Ю. Панкевіч з дудой-рэканструкцыяй паводле малюнкаў Р. Жукоўскага



▪ "Дудар беларускі". Малюнак П. Аненскага, 1853 –1855 гады

1877 г. таксама мае багатую інкрустацыю волава па дрэве.

Ілюстрацыямі двухбурдонных беларускіх дудаў, апісаных М. Нікіфароўскім, служаць малюнкі Рамуальда Жукоўскага (сярэдзіна XIX ст.). На малюнку "Беларускае вяселле" Р. Жукоўскага дудар грае пад танцы на двухбурдроннай дудзе (прамалёўка Я. Бядонік). Дуду з цэльнымі бурдонамі ў руках чорта бачым на іншым малюнку Р. Жукоўскага, змешчанага на франтыспісе I тома зборніка Я. Баршчэўскага "Шляхціц Завальня" (1844). На іншым малюнку Р. Жукоўскага "Ля карчмы" сустракаем яшчэ адну выяву дудара.

Адмысловым відам двухбурдоннай дуды патрэбна лічыць дуду, корпус якой выраблены з цэльнай скуры, знятай панчохай. Крой мяха пры гэтым задае не майстра-вырабнік, а прыродныя формы казляняці. Такую дуду бачым на малюнку "Дудар беларускі" П. Аненскага да кнігі П. Шпілеўскага "Путешествие по Полесью и Белорусскому краю" (1853–1855).

Такім чынам, беларускай традыцыі былі ўласцівы чатыры канструкцыі дуды (не ўлічваючы бяскорпуснай) – аднабурдонная дуда, дуда з цэльным мяшком-панчохай, дуда з цэльнымі гукамі-самародкамі і дуда-мацянка.



▪ Малюнак "У беларускай карчме", Р. Жукоўскі, XIX ст.



Дудар з малюнка "У беларускай карчме"

**Дударскі рэпертуар.** Рэпертуар дудароў быў самы разнастайны. Даследчыкі адзначалі, што ў беларускіх дудароў ёсць устойлівыя кампазіцыйныя прыёмы, якія выкарыстоўваюцца пры імправізацыі песенных напеваў. Адным з такіх прыёмаў з'яўляецца захопліванне фаршлагаў перад нотамі, што ставарае безперапынную паслядоўнасць квінтавых і актаўных




▪ Трохбурдонная дуда-"мацянка" з Люцынскага павета Віцебскай губерні і прамалёўка яе формы Т. Кашкурэвічам



▪ Чатыры канструкцыі беларускай традыцыйнай дуды. Малюнак Я. Бядонік

бурдонаў **[Белорусские народные песни. М. ; Л., 1941]**. Гэта пацвярджае і захаваная імправізацыя сямейналірычнай песні, запісаная ў 1931 г. Е. Гіпіусам і З. Эвальд ад беларускага дудара Г. Слаўчыка (гл. адпаведны артыкул дадзенага часопіса). Дудар у інтэрв'ю К. Квітку паведаміў, што грае шмат вясёлых песняў, але адну "смутную" – аб дзвюх сёстрах, убогай і багатай, а таксама бяседныя, талочныя і нават жніўныя песні **[*Назина И. Д.* Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые]**.

А. Рыпінскі прыводзіць звесткі аб асаблівай ролі дудара ў вясельным абрадзе. На вяселлі дудар быў своеасаблівай даверчай асобай: пасля вячэры разам з дружкай і свацціяй ён суправаджаў маладых у свіран, а ранкам граннем на дудзе абуджаў іх і запрашаў на сняданне **[*Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка населения Северо-Западного края. Т. 1, ч. 2. СПб., 1890]**. На сіроцкім вяселлі дудар выконваў ролю бацькі. А. Рыпінскі нават апісаў жартоўны дыялог між маладой і дударом **[*Rypiński A.* Bialorus. Paris, 1830]**.

П. Шпілеўскі запісаў успаміны аб гранні на дудах "на дзяды": "Главным распорядителем при обряде дедов сначала был жрец, а впоследствии просто какой-нибудь старик-певец, называемый Гусляром, Козляром или Дударом от имени инструментов: гуслей, козы, дуды, на которых он играл обыкновенно, когда пел" **[Пантеон. СПб, 1853. Т. 8. Март. Кн. 3]**. У адным з вясельных спеваў падаецца апісанне дудара, які водзіць карагод, магчыма, гэта згадванне старадаўняй прысутнасці дуды падчас купальскіх абрадаў: "Па гарэ дудар ходзіць / Карагод дзяўчат водзіць…" **[*Скорабагатчанка А.* Беларускія народныя музычныя інструменты XX ст. Мн., 2001]**. Асабістая экспедыцыя аўтара кнігі выявіла факт выкарыстання дуды ў даваенны час у Полацкім раёне падчас Дажынак і пасля на кірмашы.

Дудар выконваў адну з ключавых роляў падчас калядавання і валачобніцтва. Адносна найстарэйшай беларускай дуды (Лепельскі музей) майстар Т. Кашкурэвіч вызначыў, што гэты інструмент грае ў завышанай танальнасці G, а жалейка мае змешаны мажора-мінорны строй, адпаведны ладаваму строю абрадавых песняў гэтага рэгіёна. Экспедыцыйны матэрыял з в. Верабкі Лепельскага раёна (месца бытавання дуды з Лепельскага музея) сведчыць пра выкарыстанне гэтай дуды ў даваенны час для суправаджэння спеваў падчас абраду валачобніцтва.

У XIX – пачатку XX ст. многія даследчыкі адзначалі, што беларускія дуды прыстасаваны да выканання танцавальных мелодый. звярталі ўвагу, што жалейка дуды мае мажорны дыятанічны гукарад. Факт непарыўнасці дуды і танцаў неаднаразова быў адзначаны этнографамі XIX ст. (М. Нікіфароўскі, Е. Раманаў, В. Бяляеў, К. Вярткоў). П. Шэйн: "Танцы под музыку – любимейшее развлечение белорусской молодежи… Из музыкальных инструментов в прежнее старое время для танцев больше всего в ходу были дуда и скрипка, и преимущественно первая" **[*Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка населения Северо-Западного края. СПб., 1890. Т. 1, ч. 1]**.

У сваім "Нарысе Паўночнай Беларусі" (1844) Ян Баршчэўскі пісаў: "Пасля набажэнства ўсе збіраюцца ў адным месцы, дзе-небудзь



▪ Дудар Хведар Стэсь, 1930-я гг.



▪ Беларуская дуда першай паловы ХХ ст.: зверху – здымак даваеннага часу; знізу – сучасны здымак



▪ Дудар на экслібрысе “З кніг А. Шлюбскага” віцебскага мастака Я. Мініна (1930-я гг.)

паблізу карчмы, падае голас адмысловая беларуская дуда. Распачынаецца музыка (танцы) пад адкрытым небам; малады хлопец і стары дзед, падхмеленыя гарэлкай, скачуць да поту. А журботныя плакальшчыцы, якія нядаўна заліваліся слязамі над магілаю мужа і бацькі, скачуць пад мелодыю дуды і спяваюць: “Слава табе Хрысце цару / Што мой муж на цмантару (могілках) / І бяды пазбылася / І гарэлкі напілася” **[*Баршчэўскі Я.* Шляхціц Завальня]**. Ва “Успамінах пра наведанне роднага краю” Я. Баршчэўскі згадвае: “Сустракаю стагадовы дуб. Тут у святочныя дні збіраюцца сяляне з усяго наваколля. Выносяць сталы з дамоў, і старыя, сеўшы пры гарэлцы, гавораць пра мінулае жыццё, пра суседзяў, паноў і пра палітую потам зямлю. Дудар у халадку пад дубам надзімае скураны мех, моладзь пачынае свае залёты, кружыцца кола танцораў” **[там жа]**.

Выкарыстанне дуды для суправаджэння танцаў у Віцебскай губерні адзначаў таксама П. Шпілеўскі: “Если бы иному шутнику-хозяину вздумалось потешиться их пляской под дождем и в грязи, то немедленно раздадутся пронзительные звуки дуды, и толпа для удовольствия хозяина отпляшет “Камаринскую” или “Голубца”, или что-нибудь под песню о том, как ободранец с обшарпанцем пустился в танцы” **[Русский дневник. 1859. № 101]**.

**Дуда ў мастацкай літаратуры XIX ст.** У паэме “Пан Тадэвуш” А. Міцкевіч паэтычна апісаў гранне беларускіх дудароў: “І дудары старанна плячыма рухаюць, каб поўненька набрана было ў мяхах паветра для гудзення дудаў, і дзьмуць што сіл стае…” **[*Міцкевіч А.* Пан Тадэвуш. Кніга 12 // Літаратура Беларусі. Першая палова XIX стагоддзя : хрэстаматыя. Мн., 2000]**.

Звернемся да апісання дударскай традыцыі А. Баршчэўскім, які ў сваёй кнізе “Шляхціц Завальня” (1844) адлюстраваў многія характэрныя рысы музычнага светапогляду Віцебшчыны пачатку XIX ст. Паводле звестак з апавяданняў Я. Баршчэўскага, дуда займала важнае месца ў жыцці сялянскай грамады, а дудары па статусе былі прыроўненыя да чараўнікоў. Дудары, шаптуны, паляўнічыя і рыбакі лічыліся людзьмі асаблівага кшталту.

Я. Баршчэўскі, “Апавяданне пра чарнакніжніка і цмока”: “Пекная была дзяўчына, усе не могуць на яе наглядзецца, кожны любіў з ёй патаньчыць, і дудар для яе граў ахвотней… Вяселле было Бог ведае якое. Не гаварылі госці ніякіх арацый, не спявалі вясельных песняў, не паклікалі нават дудара, і моладзь не патанчыла… Паклікаў дудара, кінуў яму, нібы чыноўнік, колькі срэбранікаў і загадаў граць… Заспявалі песні, Грышка надзімае свой скураны мех, гучыць музыка і спевы. Моладзь скача…” **[*Баршчэўскі Я.* Шляхціц Завальня]**.

Я. Баршчэўскі, аповед “Рыбак Родзька”: “Вясною варталіся сяляне з паншчыны. Вечар быў ціхі, неба яснае, спявалі жаваранкі, цёхкалі салаўі. Маладыя, едучы конна, гаварылі пра свае прыгоды, старыя – пра гаспадарку. І тут нечакана пачулі музыку, нехта за лесам граў на дудзе і спяваў так гучна, што па ўсёй ваколіцы неслася рэха, а песню гэтую ўсе ведалі: “Пацяраў я дуду, іх-вох, На паповым лугу, іх-вох, А не дудка была, іх-вох, Весялуха была, іх-вох, Весяліла мяне, іх-вох, На чужой старане, іх-вох”. Мінуў лес, падыходзяць

да возера Расоны. Вада ціхая і чыстая, як крышталь. Але цуд нябачны – на спакойнай вадзе д'ябал, чорны, як вугаль, рукі даўгія, галава вялізарная, сядзіць на самай сярэдзіне возера, падкурчыўшы ногі, грае на дудзе і спявае страшным голасам. Спалохаліся ўсе, мовячы пацеры, заспяшаліся дадому; сонца ўжо схавалася, а яны яшчэ доўгі час чулі за сабою голас дуды і страшны спеў шатана" **[там жа]** (якраз на вокладцы кнігі Я. Баршчэўскага і быў змешчаны чорт з двухбурдоннай дудой).

Я. Баршчэўскі, аповед "Радзімы знак на вуснах": "У нядзелю сабралася моладзь у Праксэдзінай карчме, лоўчы прыйшоў з маёнтка. З'явіўся дудар Ахрэм, вітаюць яго, садзяць на лаве, частуюць гарэлкай. Ён у добрым настроі пачынае граць і спяваць, хлопцы запрашаюць дзяўчат у скокі… Міхась выбіў дуду з ягоных рук, кажучы такія словы: "Праўдзівы дудар – губы тоўстыя, а галава пустая"… Акружылі яго дзяўчаты і просяць, каб вясёлы танец зайграў. Ахрэм з імпэтам грае і прытупвае, кружыцца кола танцораў. Граў ноч навылёт, а яму здавалася – гадзіну…" **[там жа]**.

## XX–XXI стагоддзі

Этнограф Н. Прывалаў у 1928 г. пісаў: "Самы пашыраны ў беларусаў інструмент, які мае глыбокае народнае значэнне, гэта ёсць так званая дуда, або валынка.... Беларуская дуда з'яўляецца спадчынай паганскай старасветчыны, гэта вызначаецца перш за ўсё значэннем дудара, які з'яўляецца быццам старадаўнім паганскім святаром, прыкладам на такіх народных святах, як вяселле... Чуты мной музыка граў вельмі многа беларускіх, у большасці скочных мелодый, быў фанатычна прывязаны да сваёй дуды, лічыў гэтую музыку найзнамянітшай у свеце. Гэткай жа папулярнасцю яшчэ да нядаўна дуда карысталася па ўсёй Беларусі..." **[*Прывалаў Н.* Народныя музычныя інструманты Беларусі]**.


Дудар І. Гвозд, 1951 г.

У 1920–30-я гг. у савецкіх рэспубліках для кожнага народа быў вызначаны самы тыповы і традыцыйны інструмент. У Беларусі ім стала дуда, таму беларускія дудары ў передваенны час прадстаўлялі Беларусь на розных усесаюзных конкурсах. У канцы 1920-х – сярэдзіне 1930-х гг. супрацоўнікі Усесаюзнага радыё зрабілі гуказапісы беларускіх дудароў Хведара Стэся, Міколы Навіцкага і Сцяпана Шахаўца, якія выконвалі беларускія танцы і найгрышы.

У Полацкім музеі кнігадрукавання захоўваецца агітацыйная брашура 1920-х гг., на яе вокладцы, побач з выявамі каваля і жняі, намаляваны дудар з двухбурдоннай дудой, у якой адзін бурдон стаіць на плячы, другі ляжыць на правай руцэ, бурдоны заканчваюцца вялікімі рагаўнямі.

Змена эстэтычных ідэалаў у працэсе сацыяльна-культурнага руйнавання вёскі трансфармавала вобраз дудара, што прывяло да адмірання гэтай традыцыі.

Т. Кашкурэвіч: "Высокі статус дуды захоўваўся яшчэ да Другой сусветнай вайны, але ў гэты час ужо пачалі "раскручвацца" іншыя музычныя інструменты. Больш папулярнымі, "папсовымі" сталі ў лепшым выпадку цымбалы, у горшым – гармонік" **[Беларускае дударства : інтэрв'ю з Т. Кашкурэвічам // Радыё "Свабода". 2000. 11 траўня]**.

У передваенны час адбылася лёсавызначальная падзея для беларускага народнага інструментальнага выканальніцтва. Дзякуючы нястомнай энергіі цымбаліста віртуоза Язэпа Жыновіча і актыўнай дзейнасці ягонага аркестра, асноўным інструментам беларускай народнай музыкі і асноўнай візітнай карткай нашага этнічнага інструменталізма замест дуды былі абраны цымбалы. Сам Я. Жыновіч тлумачыў гэта тым, што дуда з'яўляецца капрызным інструментам, непрыдатным



▪ М. Караткевіч паказвае пасадку дудара і чын трымання інструмента, 2007 г.

да ансамблевага і аркестравага выкарыстання (на самай справе ўся адказнасць за гэтыя падзеі ляжыць на невядомым нам зараз музыканце, які праз сваю некампетэнтнасць не здолеў прадэманстраваць аркестру Я. Жыновіча выканальніцкія магчымасці дуды).

У выніку дзяржаўная падтрымка была скіравана на культываванне цымбалаў, а дуда была адсунута ў вясковае асяроддзе, дзе і дажывала свой век у якасці паўзабытага экзатычнага інструмента. Цымбалы ж, наадварот, – сталі распаўсюджаным інструментам. Н. Прывалаў: “Цымбалы ў Беларусі заваявалі сабе агульнанародную сімпатыю ва ўсіх слаях жыхарства” **[*Прывалаў Н.* Народныя музычныя інструманты Беларусі]**. У інструментальнай практыцы перадваеннага часу распаўсюдзіўся ансамбль цымбалы-скрыпка, дзе скрыпка імітавала гучанне дуды.

Другая сусветная вайна з’яўляецца трагічнай вяхой для дударскай музыкі Беларусі. Вялікія страты, якія панёс беларускі народ, адбіліся і на рэзкім зніжэнні колькасці аўтэнтычных вясковых музыкаў, у тым ліку і дудароў. Апошнія старыя дудары працягвалі ў вачах вясковых людзей заставацца рытуальнымі асобамі. Напрыклад, яшчэ ў сярэдзіне 1950-х гг. дудароў запрашалі на вяселлі ў якасці абрадавых музыкаў. На вяселлях былі і іншыя музыкі, у тым ліку гарманіст, але дудар з імі не граў, ён граў толькі ў рытуальныя моманты абраду. Не маючы дзяржаўнай падтрымкі, традыцыйныя беларускія дуды ў пасляваенныя дзесяцігоддзі былі адсунуты з музычнай сферы ў этнаграфічную і музейную.

Пасля вайны канчаткова аформіўся такі жанр музыкі, як прафесійнае выканальніцтва на народных інструментах. У канцы 1950-х – пачатку 1970-х гг. у БССР рэзка павялічылася колькасць музычных навучальных устаноў, і ў выніку сфарміравалася сістэма спецыяльнай адукацыі, якая давала навыкі выканання на народных інструментах. У выніку адбыўся ўздым акадэмічнага выканальніцтва на народных інструментах і ўздым аркестравага мастацтва. Дуда, будучы выключанай з гэтага працэсу, не мела глебы для далейшага існавання.

Важнай падзеяй для этнаграфічнай навукі пасляваеннага часу стала стварэнне адзінага навуковага этнаграфічнага цэнтра – Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Асноўнымі накірункамі развіцця этнаграфічных даследаванняў гэтай установы былі вывучэнне этнічнай гісторыі, традыцыйнай матэрыяльнай і духоўнай культуры.

На вячорках у 1960-х гг. вясковая моладзь яшчэ танчыла польку, вальс, абэрак, кракавяк, падэспань, факстрот і іншыя познетрадыцыйныя танцы. Але 1960-я гады – апошняе дзесяцігоддзе жыцця беларускай вёскі як носьбіта традыцыі, пасля чаго пачалася масавая міграцыя вяскоўцаў у горад. З гэтага часу захаванне фальклорнай традыцыі стала залежаць ад працы энтузіястаў. Са знікненнем многіх народных абрадаў у 1970-х гг. узнікла ў чыстым выглядзе народная музыка для слухання. Характэрнай яе асаблівасцю з’яўлялася творчая дзейнасць музыкаў ва ўмовах канцэртнай эстрады (агульнагарадскія святы, тэлевізійныя канцэрты, фальклорныя фестывалі, кірмашы, агляды і конкурсы народнай самадзейнасці).

У сваім двухтомніку “Белорусские народные музыкальные инструменты” музыказнаўца Інна Назіна піша: “В настоящее время приходится, к сожалению, констатировать, что дудари в Белоруссии исчезли окончательно. Последнее выступление белорусского дударя, 85-летнего И. Гвоздя из Ушачского района Витебской области, исполнившего “Жнiўную” и “Барыню”, состоялось в Полоцке в 1951 г.” **[*Назина И. Д.* Белорусские народные музыкальные инструменты]**. Насамрэч было крыху інакш: 24 ці 25 кастрычніка 1951 г., але не ў Полацку, а ў Мінску адбываўся Рэспубліканскі агляд мастацкай самадзейнасці, на якім выступіў 85-гадовы Язэп Гвозд (паводле іншых крыніц ягоныя ініцыялы І. Н.) з калгаса імя Красіна Ушацкага раёна, які, паводле паведамленняў газет тых часоў **[Звязда. 1951. 1 ліст.; ЛіМ. 1951. 17 кастр.]** “на старадаўняй беларускай дудзе добра выканаў беларускія і рускія танцы” (зараз дуда Я. Гвазда захоўваецца ў ягоных сваякоў у Мічурынску). Падчас працы ў Дзяржаўным кінафотафонаархіве



▪ Майстар і дудар Уладзімір Пузыня, 1982 г.

У 1982 г. Уладзімір Пузыня зрабіў першую сваю дуду. Мех быў з гладкай белай скуры, пішчык зроблены з антэны радыёпрыёмніка, а язычок – з кавалка пластыкавай лінейкі. Ягоная дуда першы раз загучала на здымках фільма "Людзі на балоце" (1983). Але нармальнага меха ў гэтай дуды яшчэ не было – ён быў зроблены з цэлафанавага мяшка. Калі У. Пузыня зайграў на здымках, паводле ягоных словаў, "уся кінастудыя зляцелася пагглядзець на такое дзіва". Неўзабаве У. Пузыня зрабіў другую дуду, якую высока ацаніў Г. Цітовіч. Потым гэтая дуда гучала на Першым сусветным фальклорным фестывалі ў Маскве (1985). Часам У. Пузыня граў на вяселлях і ля Чырвонага касцёла (у касцёл не пускалі з ігрой), у школах, дзіцячых садках – паўсюль, дзе былі фальклорныя сустрэчы. Граў таксама ўсім, хто прыходзіў у "Беларускую хатку" – вылучаную аўдыторыю ў Інстытуце культуры, якая выконвала ролю і майстэрні музейнай экспазіцыі.

У 1980-х гг. пачаў рабіць дуды з чаротавымі пішчыкамі па апісанню этнографа Е. Раманава майстар А. Лось, які жыў у в. Заручыны Смаргонскага раёна. Жывучы ў вёсцы са сваёй гаспадаркі, маючы на панадворку майстэрню і выблаяючы традыцыйныя дуды, А. Лось узнавіў усе рысы побыту аўтэнтычнага народнага майстра. Азін вясковы дзед навучыў А. Лася адмысловай традыцыйнай тэхніцы – шыць мех для дуды ніткамі з поўсці старога дзіка. У 1981 г. А. Лось зрабіў першую сваю дуду, але вельмі нізка ацаніў яе і быў незадаволены сваёй працай, таму да 1982 г. зрабіў перапынак, бо, як ён сам казаў, "не вытрымаў няўдачы". У 1982 г. А. Лось пачаў рабіць дуды з чаротавымі пішчыкамі, якія давалі голасу інструмента вельмі добры тэмбр. Далейшыя пошукі і вывучэнне традыцыі прывялі да новых вынікаў. Яшчэ лепшы тэмбр і гучанне атрымалася ў дуды з пішчыкамі з бусліных пёраў, што адпавядала аўтэнтычнай беларускай традыцыі.



▪ Гурт "Ліцьвіны"



▪ А. Лось на сваім хутары з дудой уласнага вырабу (здымак А. Белавусава)



▪ Першая копія лепельскай дуды 1877 г.


Майстар і дудар Уладзімір Пузыня, 2005 г.

У той час А. Лось узяў удзел у Кіеўскім фальклорным фестывалі, дзе сустрэўся з эстонскім дударом і, разглядаючы ягоную дуду, пазнаёміўся з пішчыкамі з накладнымі язычкамі. Пасля вяртання на Беларусь А. Лось эксперыментаваў з матэрыяламі, імкнучыся вырабіць якасны пішчык з добрымі музычнымі данымі. У выніку як найлепшы матэрыял быў абраны французскі чарот, які сучасныя майстры выкарыстоўваюць для вырабу тросцяў кларнета і саксафона. Пошукі матэрыялу і выраб новых інструментаў працягваліся да 1987 г., калі майстар супаставіў усе пошукі і на свет сталі з’яўляцца якасныя музычныя інструменты – як ён сам кажа, “добрыя дуды”.

У 1989–90 гг. пачаў рабіць свае дуды майстар Тодар Кашкурэвіч. І ў 1991 г. упершыню пасля доўгага перапынку загучалі разам дзве беларускія дуды – А. Лось і Т. Кашкурэвіч зайгралі разам. Яны выступілі разам на фестывалі ў Вільні “Skamba kankliai”. Выступ беларускіх дудароў быў адкрыццём і зрабіў на фестывалі фурор. У той час А. Лось і Т. Кашкурэвіч ездзілі выступаць у Польшчу. У пачатку 1990-х на з’ездзе фалькларыстаў у Любліне (Польшча) сустрэліся майстры-дудары У. Пузыня, які прыехаў чытаць рэферат па беларускіх народных інструментах, і А. Лось, які тады стала жыў у Польшчы.

Неўзабаве да першых дудароў далучыўся і зачараваны гэтым інструментам будучы дудар і майстар Алесь Жура, які пад кіраўніцтвам А. Ларя таксама заняўся вырабам дудаў. Асяродак павялічыўся, і вось ужо тры майстры і дудары: А. Лось, Т. Кашкурэвіч і А. Жура – збіраліся і гралі разам. Першыя дуды гэтых трох майстроў былі ў танальнасці D. Тады ж разам яны пачалі пошукі і даследаванні традыцыйнага беларускага дударскага рэпертуару.

Т. Кашкурэвіч і А. Жура заняліся навуковымі пошукамі. Яны наведалі Лепельскі краязнаўчы музей, склалі дакладнае апісанне і зрабілі ўсе замеры старэйшай беларускай дуды. Па захаванаму пішчыку і памерах жалейкі яны вызначылі танальнасць – G. Неўзабаве яны вырабілі копію гэтага інструмента. Т. Кашкурэвіч: “Калі мы першы раз з майстрам Алесем Журам паехалі паглядзець на верабскую дуду, мы не ўяўлялі, што там сустрэнем. Мы меркавалі, што гэта будзе грубы інструмент, зроблены вясковым майстрам з дапамогай сякеры, ножыка і прымітыўнага такарнага станка. Але мы ўбачылі дасканалы інструмент – у плане эстэтыкі. Звярніце ўвагу на вельмі прыгожыя лякалы раструбаў, выкшталцоную тэхніку ліцця. Дарэчы, такая тэхніка ліцця распаўсюджана ў Венгрыі,



▪ Ігар Міхно з дудой Марыса Янсанса



▪ Тодар Кашкурэвіч з першай копіяй лепельскай дуды

Польшчы і Балгарыі. І для нас тады было адкрыццём, што на Беларусі такая тэхніка таксама існавала".

У 1992 г. на Беларусь прывёз дуду Ігар Міхно. Гэта быў інструмент латышскага майстра з Рыгі Марыса Янсанса з бурдонам на плячы і адсутнасцю рагаўнёў. І. Міхно авалодаў наборам беларускіх, латышскіх і літоўскіх танцаў і граў для моладзі цэлымі вечарынамі – у Мінску, Гродне, Гомелі і іншых гарадах.

У 1993 г. актыўны дударскі рух, даследаванні дударскага рэпертуару, а таксама поспехі ў вырабе традыцыйных беларускіх дудаў падштурхнулі майстра Т. Кашкурэвіча да арганізацыі і правядзення "Першага дударскага балтыцкага фэсту". Гэты фестываль прайшоў у выглядзе цэлага шэрагу мерапрыемстваў (канцэрты, сустрэчы, канферэнцыя, танцавальныя вечарыны, рэканструкцыя абрадаў), стаў адкрыццём для беларускай публікі і выклікаў жывую цікавасць журналістаў. Упершыню гучна было абвешчана, што Беларусі ўласцівы дуды і гэта наш старадаўні і неапраўдана забыты інструмент.

У той час А. Лось працаваў далей над вяртаннем яшчэ адной важнай складаючай дударскай традыцыі – аўтэнтычнай беларускай тэхнікі грання і манеры выканання. Ён гадамі праслухоўваў і даследаваў аўдыёзапіс 1930-х гг. XX ст. сапраўднага аўтэнтычнага беларускага дудара Слаўчыка. Яму ўдалося "расчытаць" строй дуды Слаўчыка.

А. Лось: "Ёсць паняцце этнафоніі. Больш архаічная этнафонія дуды менавіта такая, калі жалейка настройвалася ў G/Gm, а бурдон настройваўся ў C. Пры гэтым гралі на жалейцы ў танальнасці Cm. На ўсёй Паўночнай Беларусі і ў Цэнтральнай Беларусі гэтая выснова пацвярджаецца характарам песняў, якія выконваліся пад дуду. Cm для нашай музыкі – больш архаічная і больш сакральная танальнасць. На гэтай дудзе можна граць на жалейцы і ў G (бурдон застаецца ў C) – паўстае адмысловы музычны свет, напоўнены цікавымі інтэрваламі і барвамі. А змена музычнай ментальнасці адбылася ў канцы XIX – пачатку XX ст. Напрыклад, паводле нашай экспедыцыі ў вёску Халхоліцы, дудары ўжо ў 20-х гадах XX ст. настройвалі свае бурдоны ў актаву. Такім чынам, этнафонія змянілася, і бурдон C пераўтварыўся ў бурдон G. Гэта ўжо пазнейшая версія, гэта іншая гармонія і зусім іншае мысленне, больш спрошчанае. На гэтай дудзе можна было граць ужо не ўсе абрадавыя мелодыі. Гэты момант этнафанічнасці вельмі істотны для тых, хто хоча больш глыбока зразумець і засвоіць дударскую традыцыю ранніх перыядаў сакральнай культуры. Гэты стык старой традыцыі Cm і новай традыцыі G/Gm – вельмі цікавы. Гэта час стварэння позняй гармоніі іншага кшталту".

Т. Кашкурэвіч: "Была адна скандальная гісторыя пра нашую экспедыцыю са спадаром Ласём (1999). Мы аб'ехалі вельмі вялікі рэгіён Паўночнай Беларусі. Пры гэтым мы не даследавалі кожную вёску – не было часу. Але разоў пяць сутыкаліся з надзвычайнай распаўсюджанасцю дуды ў ранейшыя часы. Традыцыя дударства была настолькі распаўсюджана, што пра дуды нам часта паведамлялі выпадковыя людзі. І такіх выпадковых фактаў было шмат.

І вось, у рэшце рэшт, мы наткнуліся на паведамленні, што дзесьці ляжыць дуда. Пачалі распытваць, ездзіць па ўказаных вёсках. Мы натрапілі на мясцовую легенду – тут жыў вядомы дудар, якога запрашалі выступаць нават у Маскву. Яго імя Хведар Сцесь (у вёсцы яго называлі Квецька Сцесь). Пра яго ведалі ва ўсіх навакольных вёсках. Нарэшце мы прыехалі ў адну амаль вымершую вёску. Нейкая бабуля буракі перабірае. Мы выходзім з машыны, такія










- Праца ў майстэрні Т. Кашкурэвіча



▪ А. Лось на сваім хутары з дудой уласнага вырабу (здымак А. Белавусава)

гарадскія хлопцы, і пытаемся: “Бабуля, а ці гралі ў вас на дудах?”. А яна глухаватая. Мы крычым: “Дуды!” Яна адразу павесялела і распавяла шмат чаго пра Хведара Сцеся, а потым паказала на аднаго старога і кажа, што ён добра памятае. Недалёка на бярвёнах сядзіць і грэецца на сонцы стары, гадоў 80, і знаходзіцца ў абсалютнай “нірване”. Людзі нейкія прыехалі, ходзяць там, а яго нічога не хвалюе. І таксама глухаваты. Бабуля яму крычыць на вуха: “Віця, Віця, дуда, дуда!”. Ён адразу ўсхапіўся і пачаў распавядаць пра Хведьку Сцеся: “Ён бярэ мяшок такі вялікі і ціскае яго, а тут бурдон такі раве, а ён на жалеечцы пілікае. Ой, якая прыгожая музыка была. У Маскву ж ездзіў, а калі прыехаў, яму дуду пафарбавалі прыгожа – рознымі колерамі!”
І потым раз – ізноў праваліўся ў “нірвану”. А для нас было жахліва крыўдна, што мы раней не прыехалі ў гэты раён. Музычных запісаў Хведара Сцеся мы тады яшчэ не ведалі – толькі потым нашыя хлопцы знайшлі іх у Маскве і прывезлі. А дуда Сцеся яшчэ гучыць у вушах людзей. І як выцягнуць гэтыя запісы з іх мозгаў, як пачуць гэтую музыку – невядома!

Пытаемся ў бабулі: “А дзе дуда Сцеся?” Яна кажа: “Ды там вісіць на гарышчы на ягоным хутары. Калі Сцесь памёр, то ягоны сын паказваў, калі людзі прыходзілі і прасілі паглядзець”. Мы паехалі шукаць і знайшлі часткі дуды. Гэта быў “брутальны” інструмент. Вялікага дыяметру раструбы, абабітыя скурай і мэблевымі цвікамі. Знайшлі таксама рэшткі майстэрні, сталярныя прылады і набор інструментаў. Сярод знойдзеных намі частак дуды было некалькі бурдонаў – дуда была двухбурдоннай”.

А. Лось: “Ёсць паняцце “дуда народная” (этна, фальклор), але вельмі істотна, каб народнае пераўтварылася ў нацыянальнае. Напрыклад, у Ірландыі пішуцца творы для дуды і сімфанічнага аркестра. Гэта ўжо форма нацыянальнай культуры. Я не лічу, што ў нашым Інстытуце культуры гэта магчыма. Хаця там студэнты трэцяга курса вольна граюць на дудзе з партытурнага ліста, але з-за адсутнасці густу і стылю там гэта немагчыма. Але дай Бог дажыць да таго часу, калі дуда з сімвала народнага пераўторыцца ў сімвал нацыянальны. Дуда – знакавая рэч для нашай зямлі”.

Т. Кашкурэвіч: “Дзякуй Богу, нарадзілася цэлая процьма маладых майстроў і музыкаў, выхаваных і шаноўным Алесем Ласём, і часткова мной, якія зараз робяць вельмі добрыя інструменты і вельмі ўважліва прытрымліваюцца традыцыі. Гэтае пакаленне максімальна робіць усё, што рэальна зрабіць для вяртання традыцыі. І гэта заснавана на фанатычным жаданні і энтузіязме. Я памятаю, калі першы раз звярнуўся да шаноўнага Алеся Лася навучыць мяне рабіць дуды, мне важна было проста, каб нешта пішчала пад рукамі! Жыць без гэтага не мог! Гэта проста фанатызм! Увогуле дудары – гэта трохі хворыя людзі!”

# ЭКСПАРТ: Заходняя Еўропа, Польшча, Расія, Латвія, Літва

Віталь СЁМУХА



**Заходняя Еўропа.** У XV ст. вандроўныя музыкі – "русіны" і "ліцвіны" – часта накіроўваліся ў Германію. Напрыклад, у 1429–1430 гг. яны прывандравалі ў Нордлінген і Ратызбону. У XVI ст. геаграфія выступаў беларускіх скамарохаў значна павялічылася. Акрамя Германіі, яны выступалі ў Італіі, Венгрыі і Швецыі. Пастаяннымі спадарожнікамі беларускіх скамарохаў былі мядзведзі. У "Летапіснай аповесці Малой Русі" паведамляецца, што "литвяки медведей ученых по городам водят и на трубах при этом играют". Магчыма, пад "трубамі" разумеецца ўлюбёная скамарохамі і іхнымі мядзведзямі беларуская дуда.

Далёка за межамі Вялікага Княства Літоўскага здабылі вядомасць нашыя вайсковыя музыкі. У 1515 г. пад Прэсбургам (сучасная Браціслава) і ў Вене адбыўся з'езд каралеўскіх дынастый Ягелонаў і Габсбургаў – сустрэча чэшскага, польскага і венгерскага каралёў. Пасольства ВКЛ на гэтай сустрэчы ўзначальваў ваявода віленскі і канцлер Вялікага Княства князь Мікалай Радзівіл (сын Мікалая). Ён разам з магнатам Станіславам Гаштольдам са сваімі прыдворнымі і прыватным войскам прывёз з Літвы вайсковы аркестр, які меў фантастычную для таго часу колькасць удзельнікаў – 100 музыкаў. Аркестр граў пры каралях і вельмі здзівіў немцаў і італьянцаў.

Выступ 100-асабовай "літоўскай" капэлы сведчыць пра высокую культуру параднай вайсковай музыкі Княства Літоўскага. Магчыма, гэта паўплывала на тое, што вайсковыя музыкі ВКЛ сталі вядомыя ў Заходняй Еўропе і трапілі ў заходнееўрапейскія выданні. Напрыклад, у кнізе Абрахама дэ Бруйна, выдадзенай у Антверпене ў 1581 г., бачым гравюру "Музыкі-русіны", дзе паказаны барабаншчык і дудар войска Вялікага Княства ("дуда з малым корпусам").

У 1925 г. беларускіх дудароў па прапанове ўсесаюзнага наркаму культуры СССР Луначарскага накіравалі на мастацкую выставу ў Парыж. Паводле часопіса "Полымя" (1926. № 2), у Парыж паехаў цэлы ансамбль беларускіх дудароў. Выступ гэтага ансамбля на Парыжскай выставе 1925 г. абудзіў за мяжой цікавасць да беларускага інструментальнага мастацтва – кансерваторыя італьянскага горада Пізары нават звярнулася ў Інстытут беларускай культуры з просьбай даслаць для мясцовага музея старадаўнія беларускія інструменты, у тым ліку дуду.

На міжнароднай музычнай выставе, якая праходзіла ў 1927 г. у Франкфурце-на-Майне пад дэвізам "Музыка ў жыцці народаў", дэманстравалася калекцыя беларускіх інструментаў, сярод якіх і дуда. Дапоўніла калекцыю карціна "Дудар".



▪ Барабаншчык і дудар войска ВКЛ. Гравюра "Музыкі-русіны". Антверпен, 1581 г.

Зараз беларускія дуды захоўваюцца ў музеях Англіі, Італіі і Германіі.

**Польшча.** Развіццё свецкай музыкі ў Вялікім Княстве Літоўскім паўплывала на яе актыўны экспарт у Польшчу, асабліва ў часы валадарання Ягелонскай дынастыі. І гэта не выпадкова: дзяцінства Ягайлы прайшло на Віцебшчыне, ягоны бацька князь Альгерд 25 гадоў быў віцебскім князем; пачатак Ягелонскай дынастыі Ягайла паклаў разам з беларускай князёўнай Соф'яй Гальшанскай. Калі Ягайла стаў польскім каралём, з яго дваром у Кракаў прыехалі музыкі-русіны (праваслаўныя музыкі). Увогуле, у перыяд каралявання Ягайлы і прадстаўнікоў гэтай дынастыі назіраецца пастаянная прысутнасць беларускіх музыкаў у Кракаве. Музыкі



Ліцвінская харугва з роспісу “Rolka Stokholmska”, 1606 г.



Гравюра “Karczma Polska”. XVII ст.

з беларускіх земляў працавалі і пры дварах іншых каралёў – Аляксандра, Жыгімонта I Старога, Жыгімонта II Аўгуста і Жыгімонта III Вазы.

У польскіх дзяржаўных урачыстасцях бралі сталы ўдзел не толькі нашы камерныя, але і вайсковыя музыкі. Гэта ілюструе роспіс 1606 г. “Rolka Stokholmska” – “Уезд шлюбнага картэжу Канстанцыі Аўстрыйскай і Жыгімонта III у Кракаў” (“Wjazd orszaku slubnego Konstancji Austriaczki i Zygmunta III do Krakowa”). Сярод шматлікіх харугваў адна мае выразныя ліцвінскія рысы ў адзенні і ўзбраенні. Тут побач са сцяганосцам намаляваны дудар, а справа ад яго барабаншчык, на інструменце якога намаляваны герб “Пагоня”.




Дуда паўночнабеларускага тыпу ў Латгаліі. Малюнак 1918 г. (малюнак атрыманы ад Т. Кашкурэвіча)



Дудар, Латгалія, малюнак 1918 г. (малюнак атрыманы ад Т. Кашкурэвіча)

Ёсць верагоднасць, што ў Польшчу траплялі не толькі нашыя вайсковыя дудары, але таксама вандроўныя музыкі з беларускімі народнымі дудамі. Ускосным пацвярджэннем гэтай здагадкі з’яўляецца гравюра “Karczma Polska” (XVII ст.), дзе сярод музыкаў бачым дудара, у якога дуда мае рагаўні, вельмі блізкія да беларускай традыцыі.

І зараз у Польшчы сярод выканаўцаў старадаўняй музыкі становяцца папулярнымі беларускія народныя дуды. Беларускія дуды маюць такія польскія гурты, як “Gęsba”, “Tryzna” і вядомы польскі гурт “Open folk”.

**Латвія.** Суседняя з Паўночнай Беларуссю Латгалія (усходняя частка Латвіі) была ў XIX ст. рэгіёнам, дзе латгальскія традыцыі ўзаемадзейнічалі з беларускімі. У выніку ў Латгаліі распаўсюдзіліся дуды паўночнабеларускага тыпу. Некалькі дудаў паўночнабеларускга тыпу



Дудар з в. Лынгмяны Свянцянскага павета, XIX ст.



Дуда з в. Лынгмяны Свянцянскага павета, XIX ст. (Расійскі этнаграфічны музей, С.-Пецярбург)



Дудар, Усходняя Літва, XX ст.



Трохбурдонная дуда-мацянка, Гістарычны музей, Вільня



Дудар, Усходняя Літва, XX ст.



Вітаўтас Лінкявічус, здымак П. Маскалёвай

захоўваюцца зараз у Латвіі ў горадзе Лудзу (захаваліся дзякуючы этнографам з Латгаліі). На жаль, у гэтых інструментах былі згублены мяшкі.

**Літва.** Агульная гістарычная спадчына і доўгі час знаходжання ў адзінай дзяржаве – Вялікім Княстве Літоўскім – паўплывалі на распаўсюджанне дудаў паўночнабеларускага тыпу на тэрыторыі Усходняй Літвы. Пра гэта сведчаць шматлікія фотаматэрыялы, а таксама дуды, якія зараз захоўваюцца ў расійскіх і літоўскіх этнаграфічных і гістарычных музеях.

Цікава тое, што з васьмі дудаў, якія захоўваюцца ў фондах Віленскага гістарычнага музея, шэсць паходзяць з тэрыторыі сучаснай Беларусі. Прыемна адзначыць, што ў беларускіх дудах вельмі шырока выкарыстоўвалася аздоба – ліццё металу па дрэве (захаваліся інструменты з вельмі цікавымі сімваламі, вылітымі па дрэве). Інструмент пачатку XX ст., апісаны этнографам І. Назінай, таксама захоўваецца ў фондах Віленскага музея. Дарэчы, шэраг дудаў, якія зараз захоўваюцца ў Літве, маюць пішчыкі, а гэта дае магчымасць для музыказнаўчага даследавання.

Адзіная захаваная трохбурдонная дуда-мацянка таксама захоўваецца ў Вільні (у ёй таксама захаваліся пішчыкі, таму можна высветліць строй). У музейных пашпартных даных напісана, што гэтая дуда паходзіць з беларускага горада Дзісна.

На сучасным этапе ў Літве распаўсюдзіліся дуды беларускага майстра Тодара Кашкурэвіча. Напрыклад, на дудзе Т. Кашкурэвіча грае літоўскі дудар Вітаўтас Лінкявічус.

**Чэхія.** Вядома, што беларусы стала прысутнічалі ў Чэхіі. Гэта і добраахвотнікі з ВКЛ у шэрагах гусітаў, гэта і Францыск Скарына, гэта шматлікія пасольствы ад ВКЛ (сумесна з Каронай Польскай). Зараз таксама ў Чэхіі шмат



▪ Сарнай (у цэнтры) у ансамблі чувашскіх народных інструментаў. XX ст.

беларусаў, тут працуе беларуская рэдакцыя радыё "Свабода", беларуская дыяспара ў Чэхіі адна з самых моцных у свеце. У Празе зараз жыве адзін з кіраўнікоў беларускай дыяспары, стваральнік беларускай бібліятэкі і галоўны мецэнат многіх беларускіх мерапрыемстваў, дудар Віталь Цімошчанка.

**Расія.** Беларускія скамарохі актыўна экспартавалі нашыя музычна-забаўляльныя традыцыі ў Маскоўскае княства. Дуда была адным з аб'ектаў гэтага экспарту. Больш за тое, дуда стала своеасаблівым сімвалам "ліцвінскай" прысутнасці (якую ў расійскіх дакументах XVII ст. часта блытаюць з "польскай"). Калі быў забіты Ілжэдзмітрый І, яму на грудзі баяры кінулі "польскую волынку" са словамі: "Мы тебя тешили, теперь и ты нас потешь". Атрымліваецца, што "польская волынка" была заўважнай прыкметай улады і забаўляльнага побыту Ілжэдзмітрыя І. Але ў войску Ілжэдзмітрыя асноўны касцяк складалі выхадцы з ВКЛ (беларусы) і казакі. Адсюль можна зрабіць выснову, што пад "польской волынкой" разумелася менавіта беларуская "ліцвінская" дуда.

Увогуле ў XVII ст. беларускія музыкі масавым чынам траплялі на тэрыторыю Масковіі. Сярод перасеrange у Маскву ў XVII ст. беларускіх рамеснікаў было шмат музыкаў, нездарма ў 1672 г., калі С. Полацкі адкрыў першы ў Расіі прыдворны тэатр, першымі яго акцёрамі сталі беларусы з Мяшчанскай слабады Масквы. У свае п'есы Сімяон Полацкі актыўна пераносіў таксама беларускія інструментальныя традыцыі. Элементы беларускага народнага мастацтва ў расійскіх праваслаўных містэрыях адзначаў М. Куліковіч.

Ужо з XVI ст. вайскоўцы з Вялікага Княства ўдзельнічалі ў засваенні сібірскіх прастораў Расіі, пры гэтым захоўваючы свае культурныя асаблівасці. "Літва" прымала актыўны ўдзел у закладцы Цюмені (1583), Табольска (1587), Сургута (1593), а таксама ў будаўніцтве Тары (1594) – першага кроку Расійскай дзяржавы ў глыб Азіі. "Людзі літвы" ўдзельнічалі ў разгроме войскаў хана Кучума ў 1598 г. недалёка ад цяперашняга Новасібірска. 300 чалавек "літвы" бралі ўдзел у паходзе Ермака. На працягу ўсяго XVII ст. "служылая літва" складала значны працэнт ад усяго служылага насельніцтва гарнізонаў Сібіры ажно да Мангазеі, Енісейска і Якуцка. "Служылая літва" трымала іншы, адрозны ад рускага, тып культуры, захоўвала свае манеры паводзінаў і свае імёны (Ян Валентаў, Маціас Хадзінскі, Барташ Руткоўскі і іншыя).

Другая катэгорыя беларусаў-ліцвінаў, якія траплялі ў глыб Расіі, – удзельнікі антырасійскіх паўстанняў. Здушэнне царскім урадам шляхецкага паўстання 1830–1831 гг. і паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага суправаджалася масавым высяленнем беларусаў у Сібір.

Трэцяя катэгорыя беларускіх перасяленцаў – сяляне-каланісты. У 1764–1765 гг. адбывалася масавае засяленне Барабінскага стэпу выхадцамі з Магілёўскай губерні. Напрыканцы XIX ст. беларусы ўключыліся ў аграрнае засваенне Сібіры. У 1896–1912 гг. з беларускіх губерняў у Сібір добраахвотна міґравалі 716 600 сялян. Беларускія губерні ў 1885–1914 гг. давалі 12% усіх сібірскіх мігрантаў. У XIX ст. беларусы ў якасці каланістаў траплялі ў многія аддаленыя месцы Сібіры і Сярэдняй Азіі. Напрыклад, беларусы складалі 5/6 насельніцтва Усурыйскага краю. Разам з сялянамі перасяляліся таксама мяшчане і збяднелая шляхта.

Вайскоўцы-ліцвіны падчас засваення сібірскіх прастораў Расіі, а таксама беларускія сяляне-каланісты і ссыльныя ўдзельнікі антырасійскіх паўстанняў занеслі беларускую дуду да паўночных народаў Расіі. Напрыклад, сярод чувашскіх інструментаў ёсць дуда-сарнай, якая і па знешнім выглядзе, і па тэхналогіі вырабу з'яўляецца не чым іншым, як беларускай двухбурдоннай дудой-



▪ Паштоўка “Поздравление с Новым годом”, 1847 г., гравёр Л. Серакоў



▪ Чувашскія народныя інструменты: шапар (уверсе) і сарнай (унізе)

мацянкай. Нават форма жалейкі на сарнаі абсалютна ідэнтычная жалейцы на беларускай мацянцы, якая, паводле Тодара Кашкурэвіча, захоўваецца ў Вільні. Дуда-сарнай і па канструкцыі, і па спосабу карыстання моцна адрозніваецца ад традыцыйнай чувашскай дуды-шапара. Апісанне сарная ў “Атласе музыкальных инструментов народов СССР” вельмі нагадвае апісанне беларускай мацянкі: “У адрозненне ад шапара паветраны рэзервуар сарная (мех) шыўся не з пузыра, а з вырабленай цялячай ці казінай скуры. Сарнай мае трубку з клапанам для надзімання паветра, 2 бурдонныя трубкі без ігравых адтулін і 1 меладычную трубку звычайна з 6 іграўымі адтулінамі. Усе трубкі драўляныя і нярэдка ўпрыгожваюцца арнаментам. Пішчыкі робяцца з чарота ці гусінага пяра. Бурдонныя трубкі часцей за ўсё настройваюцца паміж сабой у квінту, але магчымы і іншыя інтэрвалы, напрыклад дуадэцыма. Размяшчэнне гукавых адтулін і інтэрвалы між імі могуць быць рознымі. Гукарады звычайна дыятанічныя, але ў іх сустракаюцца і пропускі ступеняў, павялічаныя ці паменшаныя актавы, цэлатонавыя паслядоўнасці і г. д. Гук сарная напружаны і рэзкі. Граюць на ім звычайна седзячы, гучна адбіваючы рытм адной ці дзвюма нагамі”. Калі разглядзець ілюстрацыю





▪ Беларуская дуда ў экспазіцыі Музея музычнай культуры імя М. Глінкі ў Маскве: зверху – у экспазіцыі рускіх інструментаў разам з балалайкай (1960–70-я гг.), пасярэдзіне – асобна ад экспазіцыі і без жалейкі (1980-я гг.), знізу – сучасны здымак, дуда ў экспазіцыі беларускіх інструментаў



▪ Віталь Цімошчанка, Прага, здымак Сержука Тапчэўскага

“Ансамбль чувашскіх народных інструментаў”, то можна ўбачыць, што пры гранні сарнай трымаюць як беларускую мацянку – наперадзе (музыка, які стаіць у цэнтры). Цікава таксама тое, што жалейка сарная заканчваецца традыцыйнай драўлянай беларускай рагаўнёй.

У нашыя дні ў Дзяржаўным музеі музычнай культуры імя М. Глінкі ў Маскве сярод чувашскіх народных інструментаў захоўваюцца і шапар, і сарнай. Шапар у экспазіцыі размешчаны ўверсе, сарнай – унізе. Тут выразна заўважныя прынцыповыя канструкцыйныя адрозненні між гэтымі відамі дудаў. Такі аўтарытэтны даследчык беларускай дударскай традыцыі, як Тодар Кашкурэвіч, сцвярджае, што паказаны ў экспазіцыі сарнай знешне амаль абсалютна адпавядае беларускай мацянцы паводле апісання М. Нікіфароўскага.

У XIX ст. у Расіі выпускаліся паштоўкі, на якіх выяўляліся беларускія народныя дуды. Гэта, напрыклад, паштоўка 1847 г. “Поздравление с Новым годом” рускага гравёра Л. Серакова (1824–1881), дзе бачым дудара з інструментам, які мае ўсе канструкцыйныя асаблівасці беларускай традыцыі – крой меха, рагаўні, чын трымання бурдона, пасік ад жалейкі да бурдона. На сувязь з беларускай традыцыяй паказвае і прымеркаванасць паштоўкі да Новага года – менавіта на Каляды беларусы спрадвеку выраблялі дуды і гралі на іх. Магчыма, аўтар быў знаёмы з нейкім страчаным зараз ці невядомым пакуль ілюстрацыйным матэрыялам альбо сам назіраў гранне дудара беларускіх перасяленцаў.

Т. Кашкурэвіч: “Цікавая дуда з Маскоўскага музея музычных інструментаў імя Глінкі. Яна знаходзіцца ў экспазіцыі, прысвечанай чувашскім інструментам (чувашы – азіяцкі народ расійскай Поўначы). Я звярнуў на яе ўвагу, таму што яна не ўласцівая чувашскай традыцыі. Чувашы рабілі дуды з пузыра, іх дуды мелі вельмі спецыфічныя рысы і асаблівую жалейку з ражкамі. А дуда, на якую я звярнуў увагу, абсалютна адпавядае апісанням беларускіх дудаў, якія зрабілі этнографы XIX ст. Яна настолькі супадае з гэтымі апісаннямі, што можа ват быць ілюстрацыяй да іх. З іншага боку мы маем факты таго, што ў Сібір ссылалі ўдзельнікаў антырасійскага паўстання 1861 г. І ёсць факты, што перасяленцы прывозілі туды дуды. Таму ў мяне ёсць недастаткова навукова абгрунтаванае меркаванне, што такі тып дуды мог быць занесены ў Чувашыю перасяленцамі з нашых земляў”.

Сярод экспанатаў Музея музычнай культуры імя М. Глінкі ў Маскве знаходзіцца дуда, на якой граў беларускі дудар падчас выставы на ВДНГ у Маскве ў 1930-х гг.; пасля выставы дуда была набыта ў гаспадара і трапіла ў рускі музей. Інструмент мае ўсе канструкцыйныя прыкметы беларускай традыцыі – крой меха, размяшчэнне пераходнікаў, форма і канструкцыя бурдона. На гэтым экспанаце выразна заўважны патанчэнні на канцах бурдона і жалейкі – месца для прымацавання рагаўні. Характар дэкаратыўнага тачэння бурдона схіляе да думкі, што гэта інструмент барысаўска-лепельскага рэгіёна, а экспедыцыйная інфармацыя 2007 г. пераконвае, што, хутчэй за ўсё, гэта інструмент дудара Хведара Стэся, які ў той час выступаў у Маскве і вярнуўся ў вёску без дуды, бо пасля выступа яе хтосьці набыў. Гэты інструмент у 1960–70-я гг. знаходзіўся ў экспазіцыі рускіх інструментаў разам з балалайкай, у 1980-я гг. па-за экспазіцыяй (жалейка была страчана), зараз гэтая дуда трапіла нарэшце ў экспазіцыю беларускіх інструментаў.

Пяць беларускіх дудаў захоўваюцца ў Рускім этнаграфічным музеі ў Пецярбургу. Дзеля іх даследавання ў гэты музей выпраўляліся ўжо беларускія майстры Дзяніс Сухі, Юрась Панкевіч і Алесь Чумакоў.

# ІМПАРТ: нямецкі Dudelzak на ліцвінскіх землях

Зміцер САСНОЎСКІ

Калі нямецкая дуда (Dudelzak) у XV–XVI стст. распаўсюдзілася на тэрыторыі многіх еўрапейскіх краін, гэты інструмент стаў прыкметай гарадской культуры і існаваў у кожнай з краінаў паралельна з мясцовай дударскай традыцыяй. Напрыклад, у Швецыі дудэльзак існаваў адначасова з народнай шведскай sakpipa, у Польшчы – паралельна з велькапольскімі дудамі. Не абмінула "дудэльзакаўская" мода і землі ВКЛ. Многія даследчыкі спыняюцца на думцы, што дудэльзак патрапіў да нас праз вандроўных нямецкіх музыкаў.

Інструмент, вельмі падобны да дудэльзака, прысутнічае ўжо на першай беларускай выяве дуды на кафлі XVI ст. з мястэчка Мельнік (этнічная беларуская тэрыторыя, у XVI ст. была ў складзе ВКЛ, зараз Семятычскі павет Беластоцкага ваяводства). Дуду, блізкую па выглядзе да дудэльзака, бачым таксама ў ініцыяле "S" з Альшэўскага спіса Статута ВКЛ 1529 г. (польскамоўнае выданне 1550 г.).

У 1555 г. выйшла кніга шведскага падарожніка Олаўса Магнуса "Гісторыя паўночных народаў", дзе ў раздзеле, прысвечаным ВКЛ, намаляваны дудар з двухбурдонным дудэльзакам. Магнус называе такі інструмент "двухрогавая піпа". Паказальна, што ў беларускіх дыялектах (напрыклад, на Палессі) дагэтуль захавалася слова "піпа"/"піпка" для абазначэння трубак. Вылучым дудэльзак з поля гравюры.











■ Дудэльзак у іканаграфіі Германіі, Польшчы і Швецыі, XV–XVI стст.

Асноўнай прычынай распаўсюджання дудэльзака на ліцвінскіх землях патрэбна бачыць у культурных, мастацкіх, палітычных і вайсковых кантактах з Тэўтонскім ордэнам.

Т. Кашкурэвіч: "Адной з найранейшых выяваў дуды ў Малой Літве ёсць малюнак з рукапісу М. Прэторыуса "Прускія цікавосткі", дзе адлюстраваныя мужчына і жанчына ў танцы, побач з якімі грае дудар. Тып інструмента на малюнку нагадвае нямецкі dudelzak, што, мабыць, было ўласціва для Клайпедскага краю ў той час, які ўжо ў значнай ступені зазнаў нямецкія ўплывы (Dunduliene P. Lietuviu etnologija)".

Дудэльзак стаў сімвалам гарадскога свята і карнавала. Асноўнай функцыяй гэтага інструмента ў гарадскім асяроддзі было суправаджэнне танцаў. Выявы дудэльзакаў траплялі на пабытовыя прадметы. У былым мястэчку Угар пад Браславам (іншая назва –




▪ Выява дудара на кафлі XVI ст. з мястэчка Мельнік



▪ Дудэльзак у ініцыяле "S" з Альшэўскага спіса Статута ВКЛ 1529 г.



▪ Дудар з дудэльзакам, ВКЛ. О. Магнус, "Гісторыя паўночных народаў", 1555 г.



▪ Дудэльзак, ВКЛ. О. Магнус, "Гісторыя паўночных народаў", 1555 г.



▪ Дудар з дудэльзакам грае для танцораў. Гравюра "Танец польскі", Sloane Handschrift, XVI–XVII стст.



▪ Рукаятка нажа са скульптурнай выявай дудара з дудэльзакам, мястэчка Угар, XVIII ст. (экспазіцыя Браслаўскага краязнаўчага музея)

Угор'е, мястэчка мела магдэбургскае права, спыніла сваё існаванне ў XVIII ст.) была знойдзена рукаятка нажа для рэзкі паперы, у верхняй частцы якой скульптурная выява дудара з дудэльзакам (экспазіцыя Браслаўскага краязнаўчага музея).

Акрамя забаўляльна-святочнага выкарыстання ў гарадскіх корчмах і на гарадскіх святах, дудэльзакі прыйшліся даспадобы музыкам войска ВКЛ. Першы факт парадна-вайсковага выкарыстання дудэльзака на нашых землях дае роспіс, створаны пасля 1605 г., які атрымаў назву "Rolka Stokholmska" (іншая назва "Wjazd orszaku slubnego Konstancji Austriaczki i Zygmunta III do Krakowa"). На роспісе "Rolka Stokholmska" вайскоўцы розных дзяржаў прамаляваны з пільнай дбайнасцю, якая праявілася ў паказе дэталяў (вопраткі, узбраення, гербаў). Напрыклад, шведскія вайскоўцы маюць шпагі і мушкеты з падстаўкамі, начальнік шведскай харугвы нясе даўгі аркестровы скіпетр. Шведы апрануты ў панчохі, жылеты са звісаючымі рукавамі і капелюшы з шырокімі палямі. У адрозненне ад шведаў літоўскія вайскоўцы ўзброены шаблямі, алебардамі і ручніцамі, літоўскі харугвы старшына нясе булаву; ліцвіны апрануты ў кунтушы і шапкі з пер'ямі. Літоўская харугва на парадзе суправаджаецца пешымі музыкамі – дударом і барабаншчыкам. На барабане намаляваны




▪ Дудар войска ВКЛ грае на на дудэльзаку сярод харугвы. Роспіс "Rolka Stokholmska", пасля 1605 г.

герб ВКЛ "Пагоня". Як бачым, дудар ВКЛ грае на дудзе той жа канструкцыі, што і на папярэдніх выявах – на дудэльзаку.

Паводле іканаграфіі, традыцыя выкарыстання дудэльзака ў войску ВКЛ ахоплівала толькі ўрачыста-парадны бок вайсковага побыту, у адрозненне ад шатландскай традыцыі, у якой апрача парадная музыкі дуды выкарыстоўваліся і падчас бою. Але ёсць неправераныя намі звесткі з "Літоўскай метрыкі", якія паведамляюць пра тое, што войска ВКЛ выкарыстоўвала дуду і скрыпку падчас штурму Пскова ў пачатку XVII ст. Гэтую інфармацыю паведаміў у вуснай размове вядомы беларускі этнограф і даследчык Алесь Лось. Пакуль гэты факт не пацверджаны іншымі даследчыкамі і не ўвайшоў у навуковы ўжытак. Спадар Лось выказаў меркаванне, што, хутчэй за ўсё, выкарыстанне дуды і скрыпкі ў войску ВКЛ не было традыцыяй, але, напэўна, адбылося з асабістай ініцыятывы ўдзельнікаў штурму.

Магчыма, мы проста пакуль не атрымалі крыніц, якія асвятляюць баявы характар дудаў у войску ВКЛ. Але, прынамсі, украінская дуда-"каза" выкарыстоўвалася ў палкавой музыцы



▪ Танцавальная вечарына ў Дударскім клубе (клуб RE:Publik)

▪ Дудэльзак вырабу Т. Кашкурэвіча





▪ Гурт “Стары Ольса”

войска Запарожскага, пра што піша ўкраінскі даследчык Л. Чаркаскі. Украінскія казакі ў ролі адмысловых атрадаў войска ВКЛ ці ў якасці паўстанцаў-бунтароў часта прысутнічалі на тэрыторыі Беларусі.

У канцы XVIII ст. знішчэнне Рэчы Паспалітай спыніла культурную сувязь беларускіх земляў з Заходняй Еўропай, знікла войска ВКЛ і ўвесь гарадскі ўклад з магдэбургскім кіраваннем. Асяроддзе бытавання нямецкіх дудаў знікла, і традыцыя іх выкарыстання спынілася. Эпоха дудэльзака, якая працягвалася болей за тры стагоддзі, была штучна перапынена.

Аднак напрыканцы XX ст. дудэльзак зноў, як і пяць стагоддзяў да гэтага, вярнуўся на Беларусь (але ўжо ў змененым выглядзе – па ўзору шатландскіх дудаў язычок стаў падвойным, а чантар конусным). Дудэльзак зноў, як і ў эпоху Рэнесанса, заваяваў сімпатыю мясцовай моладзі, якая па ўзору сваіх пра-прапрашчураў з задавальненнем танчыць заходнееўрапейскія танцы. Найбольш актыўна дудэльзакі выкарыстоўваюць такія беларускія гурты, як “Cornu copia” і “Irdorath”, у крыху меншым памеры дудэльзак прысутнічае ў творчасці гуртоў “Стары Ольса” і “Testamentum Terrae”. Паводле гравюры О. Магнуса для гурта “Стары Ольса” дудэльзак зрабіў майстар Тодар Кашкурэвіч. Добрыя дудэльзакі вырабляе майстар Алесь Сурба.





▪ Гурт “Irdorath”





# ІМПАРТ: шатланскі “бэгпайп”, галісійская “гайта”, шведская “сакпіпа” ды ірландскі “юліанпайп”

**Карусь ВЫСОЦКІ**

Гэтак адбылося, што за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў у дударскай практыцы беларускіх музыкаў распаўсюдзіліся інструменты іншых еўрапейскіх народаў. Гэта шатланскія, галісійскія, шведскія ды ірландскія дуды. Прысутнасць шатландскіх “bagpipe” на беларускіх землях апраўдана гістарычна, іншыя дударскія традыцыі, хутчэй за ўсё, прыжываюцца ў нас упершыню.

Прысутнасць шатландскіх дудаў на беларускіх землях у XVII–XVIII стст. падаецца вельмі верагоднай. Шматлікія шатландскія іміграянты некалькі стагоддзяў жылі на Беларусі. Яшчэ ў 1503 г. Пётркаўскі сойм разглядаў праект засялення шатландскімі каланістамі замкаў на Дняпры. На працягу XVI ст. на землях ВКЛ з’яўляюцца шатландскія гандляры і вайскоўцы-найміты. З 1563 г. соймавыя канстытуцыі згадваюць шатландцаў як сур’ёзных канкурэнтаў мясцовым купцам. Шатландцы манапалізавалі гандаль многімі дробнымі таварамі, якім нават далі назву “рэчы шкоцкія”. У 1583 г. падчас паломніцтва ў Палесціну Радзівіл Сіротка пісаў пра ўбачаных ім вулічных гандляроў, што яны, “як нашы шкоты, у карабах розныя дробныя рэчы для продажу па вуліцах носяць” [Вялікае Княства Літоўскае : энцыклапедыя : у двух тамах. Мн., 2006. Т. II]. Рассяленне шатландцаў па ўсёй Рэчы Паспалітай набыло такі размах, што англійскі драматург Дж. Уэбстэр у п’есе “Белы д’ябал” (1610) згадваў пра “40 тысяч шатландскіх гандляроў у Польшчы” [там жа]. Адным з найбольш вядомых прафесараў філасофіі Віленскай акадэміі ў 1570–75 гг. быў езуіт з Шатландыі Джон Хэй. Медны шатландскі пені з 1640-х гг. быў прыняты ў манетнае абарачэнне на тэрыторыі Беларусі. Як пісаў ва ўспамінах шатландзец П. Гордан, Януш Радзівіл і яго сын Багуслаў “мелі кампанію цалкам ці пераважна з шатландцаў” [там жа]. Некаторыя з іх пры фундатарстве Радзівілаў займаліся навуковымі даследаваннямі. Напрыклад, Януш і Багуслаў Радзівілы ў 1665 г. фундавалі выданне ў Амстэрдаме кнігі “Thaumatographia naturalis” Дж. Джонстана.

Шатландцы-найміты служылі ў войску ВКЛ, напрыклад, пры аблозе Смаленска ў 1634 г. пад камандаваннем рэферэндара ВКЛ А. Гасеўскага знаходзілася шатландская драгунская харугва ў 200 чалавек. Шатландцы пасяліліся ў многіх гарадах і мястэчках ВКЛ, але асабліва вялікія іх калоніі ў XVII ст. былі ў Слуцку і Кейданах. Яны паступова асімілявaліся мясцовым насельніцтвам і прымалі беларускія імёны. Так, у рэестры пінскіх купцоў у 1620-х гг. адзначаецца 4 шатландцы з такімі імёнамі, як Таміла Аляшковіч, Пётр Шымковіч, Алешка Ахрэмовіч і Луцця Літвіновіч [там жа].

Магчыма, у той час з шатландскімі перасяленцамі і асабліва шатландскімі вайскоўцамі-наймітамі на Беларусь маглі патрапіць шатландскія дуды. У беларускай іканаграфіі ёсць цікавы малюнак, які зрабіў каля 1725 г. на эміграцыі ў Расіі беларускі мастак Васіль Корань (фрагмент плаката “Мышы пахоўваюць ката”) [Бэрк П. Народная культура Еўропы ранняга новага



■ Ягор Кацючэнка, гурт “Cornu copia”



Ягор Кацючэнка, гурт “Cornu copia”



Віталь Чавусаў, гурт “За парогам”





Алесь Жура



Алесь Чумакоў, гурт “Ceilidh ceol”

часу. Мн., 1999]. Над мышкай надпіс: “Мышь весёлая в валынку играет, песни напевает, кота проклинает”. Тут мышка ідзе наперадзе працэсіі і грае на трохбурдоннай дудзе, якая намалявана схематычна. Але нават за гэтай схематычнасцю заўважна, што тры бурдоны стаяць на плячы. Менавіта такія рысы, як гранне на хаду падчас шэсця на дудзе з трыма бурдонамі, пастаўленымі на плячо, дазваляюць выказаць меркаванне, што прататыпам для гэтай схематычнай вывы паслужыў шатландскі bagpipe.

У Новую Зеландыю ў XVII ст. перасялілася столькі шатландцаў, што зараз паводле статыстыкі там больш шанландскіх дудароў і шатландскіх аркестраў, чым у самой Шатландыі. У Новай






Андрэй Мароз, Новая Зеландыя







Віктар Мароз



Андрэй Апановіч і Сяржук Тапчэўскі

Зеландыі жыў беларус паходжанню бэкпайпер Андрэй Мароз (зараз А. Мароз пераехаў на гістарычную Радзіму).

Галісійскія "гайты" сталі папулярнымі ў Беларусі дзякуючы некаторым выдатным сваім рысам і аптымальнай прыдатнасці да выканання танцаў заходнееўрапейкіх народаў. Вялікую ролю ў папулярызацыі "гайтаў" адыграў гурт "Cornu copia" і асабіста дудар гэтага гурта Ягор Кацючэнка. Галісійская дуда выкарыстоўваецца і магілёўскім гуртом "За парогам" (дудар – Вадзім Чавус).

Шведская "сакпіпа" была ўпершыню выраблена беларускім майстрам Юрасём Панкевічам і стала вынікам асабістых эстэтычных і мастацкіх сімпатый гэтага майстра.

Ірланскія дуды "юліанпайп" патрапілі ў Беларусь праз майстра і дудара-віртуоза Алеся Журу, які вандраваў па Ірландыі, выступаў там і нават быў прыняты ў Дударскі клуб Ірландыі. Выкананне беларускіх народных мелодый на "юліанпайп" можна пачуць у альбоме "Вір" гурта "Стары Ольса", куды Алесь Жура ў 2002 г. быў запрошаны як сесійны музыка.

# ІГНАРАВАННЕ ЭСТЭТЫЧНЫХ КАНОНАЎ

## у знешнім выглядзе беларускай народнай дуды

Алесь ЧУМАКОЎ



**1. Якой мы сёння бачым эстэтыку беларускай дуды.**

Мы маем ужо з добры дзясятак майстроў, якія робяць дуды, як на ўзор лепельскай, так і мацянкі. Усталяваліся пэўныя сённяшнія традыцыі выгляду інструмента, карані якіх у прыгажосці лепельскай дуды і ў тым, як яе знешні выгляд падабаецца мастадонтам дударскага руху: А. Ласю і Т. Кашкурэвічу (ад якіх гэтыя каноны перадаюцца шматлікім вучням, ад якіх, у сваю чаргу, ідуць далей у свет).

Мне відавочна, што мы пайшлі па штучна завужанаму шляху асэнсавання традыцыйнага выгляду беларускай дуды. Я хацеў бы аспрэчыць асноўныя рысы, якія ўтвараюць сёння "непарушны канон":

1.1. Для вырабу жалеек і гукаў абіраюць толькі цвёрдае **ліставае дрэва**;

1.2. Драўляныя часткі дуды робяць выключна з дапамогай **такарнага станка**;

1.3. Аздабленне гукаў на такарным станку робіцца ў выглядзе чаргавання вузкіх і шырокіх **калечкаў**;

1.4. **Рагаўні робяць не большымі за прыкладна 15–20 см** па вялікім габарытным абрысе;

1.5. Усе **паверхні** драўляных частак **гладкія**, апрацаваныя і аднаго колеру;

1.6. **Знешні дыяметр гукаў** не большы за 3–4 см;

1.7. Арнаментальнае аздабленне гукаў і рагаўнёў выканана выключна праз паліванне **волавам (цынай)**.

**Падсумаванне:** наша сённяшняя дуда шляхетная і эстэтная. Такой яе зрабілі творцы і мастакі – нашыя айцы-настаўнікі. Гэта няблага, улічваючы, што стагоддзе таму існавала пэўная школа вырабу дудаў і падабенства некаторых асобнікаў і прафесійнасць іх выканання дае падставы лічыць, што наш беларускі інструмент павінны быць такім выкшталцоным і эстэтным.

Але да пэўнае мяжы!

**2. Выгляд тых этнаграфічных інструментаў, што я бачыў, не адпавядае канону эстэтыкі, які ўсталяваўся ў нашыя дні.**

2.1. РЭМ (Расійскі этнаграфічны музей, С.-Пецярбург): дасledаваныя рэшткі як мінімум 4 дудаў, у якіх эстэтыка лепельскай дуды як бы ёсць, але шляхетнасць не шкаліць так моцна. А некаторыя дуды шляхетнасці пазбаўленыя ўвогуле. Вялікі працэнт драўляных частак выраблены не з дапамогай такарнага



станка. Паказальна, што ў адной дуды палова гука да вобласці падстройкі стругана ўручную (!), другая палова таго ж гука пасля вобласці падстройкі вытачана на такарцы. Увогуле шмат паверхняў пасля апрацоўкі разцамі ў народных інструментаў не выроўнівалася, вельмі часта хвалі ад разцоў неверагодна добра відаць. Каб упэўніцца ў гэтым, можна пасля дудаў у тым жа РЭМе паглядзець, напрыклад, гуслі.

2.2. Адна з жалеек ад дуды, якія былі даследаваны ў РЭМе, зроблена не з масіву клёну, ці ясеню, як робяць сучасныя майстры, а з галінкі, у якой прапалены асяродак. З часам яе "павяло", ды так, што яна нагадвае лук з нацягнутай цецівой (і, дарэчы, дагэтуль больш-менш строіць па адтулінах, калі падабраць чаратовы пішчык). Трапляюцца рагаўні з тоўстымі сценкамі (таўсцей за 1 см !), вырабленыя з елкі.

2.3. "Натакараных" калечак па гуках РЭМаўскіх дудаў я не заўважыў. Паверхні гукаў пераважна роўныя, часта з рэшткамі палівання волавам (цынай), але на адным інструменце традыцыйны малюнак палівання выкананы фарбамі. Знаёмы ўсім візэрунак у выглядзе елачкі выведзены па гуку жоўтай фарбай. На адным рагаўні адтуліна, да якой мацуецца гук, узмоцнена і ў той жа час аздоблена тоўстай кляпанай стальной палоскай.

2.4. Разгледзім рагаўні дудаў паходжання Барысаў/Гарадок (арэал традыцыі лепельскай дуды). Яны не закручваюцца адразу, як рагаўні лепельскай дуды. Яны больш выпрастаны і больш даўгія. Па габарытах такія рагаўні ў разы большыя за рагаўні, якія мы бачым на лепельскай дудзе і ў дудах сённяшніх майстроў. Іншая форма рагаўнёў таксама на гуках так званай "свянцянскай" дуды. Яны з елкі, масіўныя і шырокія.

2.5. Амаль усе гукі ў беларускіх дудах РЭМа тоўстыя – як мінімум 5–6 см у дыяметры.

### 3. Высновы:

Беларуская дуда – беларускі народны інструмент. Яна мусіць выглядаць як народны інструмент. У традыцыі яна не заўседы рабілася мастакамі і звышэстэтамі!



# Ці была дуда казой?!

Андрусь ЖЭЛЯХОЎСКІ



■ Галава казы на жалейцы дуды 1877 г.

У многіх народаў (палякі, славакі, немцы) прынята ўпрыгожваць дуды казінымі галовамі і рабіць мех футрам навонкі. Гэта надавала інструменту моцнае падабенства да сапраўднай казы. Доўгі час лічылася, што гэтай традыцыі на Беларусі не было, але падчас экспедыцый Т. Кашкурэвіча і А. Лася ў 1990-х гг. было зафіксавана паведамленне пра беларускую дуду футрам навонкі і з чэрапам казы, прымацаваным над жалейкай. Дудар, які зрабіў гэты інструмент, быў вар'ятам (псіхічна хворым) і бадзяўся са сваёй дудой па розных мясцінах.

Т. Кашкурэвіч: "Некаторыя з сучасных дудароў маюць жаданне выкарыстоўваць экзатычны кшталт мяшка – поўсцю навонкі, надаючы інструменту нібыта старажытны выгляд! На жаль ці на шчасце, але мы маем толькі адзін факт існавання такога інструмента, які таксама знаходзіцца ў Віленскім гістарычным музеі. Пры гэтым мяшок тут зроблены з барсука".

На сувязь дуды з казой паказваюць шматлікія народныя песні і ўдзел дуды ў калядным спектаклі. Паводле некаторых звестак, абрадавая дуда выраблялася на Каляды са шкуры казы, якую прынеслі ў ахвяру. Нездарма найстарэйшая беларуская дуда 1877 г. (Лепельскі музей) мае інкрустацыйны візерунак знізу рагаўні жалейкі ў выглядзе галавы казы з рожкамі.

Магчыма, гэта страчаная традыцыя, якая была яшчэ жывая ў XIX ст. Нездарма ў паэме "Пан Тадэвуш" А. Міцкевіч піша пра народнага музыку з дзіўным інструментам пад назвай "казіца" [Міцкевіч А. "Пан Тадэвуш". Кніга 12 // Літаратура Беларусі. Першая палова XIX стагоддзя : хрэстаматыя. Мн., 2000]. У палякаў і ўкраінцаў захавалася да нашага дня дуда пад назвай "каза", у якой мех выварочваюць футрам навонкі.

Таму, хутчэй за ўсё, дуды, падобныя на козаў, – з галовамі, рогамі і футрам – гэта паўнавартая тутэйшая традыцыя.

Смелы эксперымент зрабіў дудар з Віцебска Слава Козак - ягоная дуда не проста кашлатая, але і мае імправізаваную галаву казы, а на рагах нават вісяць званочкі.



■ Дуда з Дзісенскага павета Віленскай губерні



■ Дуда з футрам навонак "Лабанорскага" рэгіёна

■ Дуда з футрам навонкі на першым здымку інструментаў гурта "Стары Ольса", 1999 г.



Зм. Сасноўскі (з махнатай дудой) і А. Жура (з традыцыйнай гладкай дудой), 2000 г.



Юрась Панкевіч з махнатай дудой уласнага вырабу



Васіль Верабейчыкаў, гурт Litvintroll



Слава Козак з дудой-казой

# ДУДЫ І ЖЫВЁЛЫ: рэакцыя жывых істотаў на гукі дуды

Зміцер БАЛАЙ

Акаляючыя нас хатнія жывёлы – вельмі ўдзячныя слухачы музыкі. Калі хто-небудзь з чытачоў пасвіў у вёсцы кароў, то ведае, што найлепшы дагляд за імі – музыка. Раней пастухі гралі на дудачках і жалейках, зараз уключаюць прыёмнікі. Тое ж самае адбываецца і з вольна гуляючымі свінкамі. Яны пачынаюць "падцягвацца" да крыніцы музыкі і хутка капаюць зямлю літаральна пад тваімі падэшвамі. І зусім не важна, якую музыку граць ці ўключаць. Яны любяць усё.



▪ Віталь Чавусаў грае для коняў, хутар "Барок", Валожынскі раён

Але зусім іншая справа з дудой. Яе неспакойны і актыўны гук не пакідае ў раўнавазе ніводную жывёлу. Аднойчы ў 2000 г. давялося катацца на кані па Лошыцкім парку, "калегай" па прагулцы была Арына Вячорка. Па выпадковаму збегу абставінаў за спіной аказалася дуда. Каб наблізіць сітуацыю бліжэй да старадаўняй, узнікла ідэя пайграць на хаду на дудзе. Конь вельмі спалохаўся, і супакоіць яго атрымалася не хутка. Пазней ужо дасведчаныя людзі паведамілі, што коней патрэбна прывучаць да такога гуку. І ў 2003 г. на Кіпры разам з рыцарамі з клуба "Унія: Меч і Воран" мы прывучалі звычайных коней да грукату даспехаў (атрымлівалася далёка не адразу) і паралельна да гуку дуды.



▪ Мядзведзь побач з граючым на дудэльзаку А. Бурносенкам, Мінск, парк М. Горкага

Цікавая сітуацыя з мядзведзямі. Цыркавыя мядзведзі прывучаны да гучнага грання цыркавога аркестравага суправаджэння. Гэта добра бачна ў фільме З. Сасноўскага "Старыя інструменты Беларусі", дзе мядзведзь спакойна сядзіць побач з граючым на дудэльзаку Бекарам. Але паспрабуйце ціхенька ўзяць з сабой у заапарк жалейку і, калі навокал будзе мала людзей, зайграйце пару нотаў... Мядзведзі шалеюць! Нездарма на Дударскай канферэнцыі ў Дудутках (снежань 2011 г.) Яўген Барышнікаў цытаваў шведскага падарожніка Магнуса (XVI ст.), які апісваў неспакойную рэакцыю дзікіх мядзведзяў на граючых пастухоў – гэта быў спосаб адпалохвання звяроў ад статка.



▪ Сабака Барсік спявае пад гранне Алеся Прысмакова, в. Вялікая Барздынь, Мінскі раён

Вельмі цікава рэагуюць сабакі. Яны пачынаюць вельмі прыгожа спяваць, як, напрыклад, Барсік – вельмі пазітыўны барбос дудара Алеся Прысмакова. І хай там кажуць, што сабакі спяваюць з-за болю, які ім прыносіць слуханне музыкі. Барсік прыбягаў туды, дзе грала дуда, і выў, радасна віхляючы хвастом!

Каты – жывёлы вельмі самадастатковыя, таму іхная рэакцыя на дуду вельмі залежыць ад характару канкрэтнага кацяры. Адны збягаюць падалей і нават просяцца выпусціць іх з дома. А іншыя, як котка Чарнуля на хутары Шаўловічы (Валожынскі раён), пасля грання на дудзе нават лазіць побач з дудой і вывучае гэтую незразумелую для яе істоту. Але тут трэба сказаць, што Чарнуля незвычайна смелая і ў некаторых сітуацыях вельмі агрэсіўная котка. Яна трымае вялізную тэрыторыю, на якую не адважваюцца паказвацца каты з усёй вёскі.

Ну а самымі ўдзячнымі слухачамі дуды адназначна з’яўляюцца козы і казлы. І тут пачынаеш звяртаць увагу на дахрысціянскія перакананні нашых продкаў, якія лічылі дуду жывой істотай, якая пасля рытуальнага забіцця і ахвярапрынашэння пераўвасабляецца (рэінкарнуе!) у жывы інструмент з жывым голасам. Вялізны пародзісты казёл, які жыве на сядзібе Юрыя Іванавіча Палуцкага (в. Рожава, Браслаўскі раён) не проста палюбіў гукі дуды, ён імкнуўся знайсці крыніцу, адкуль ідзе гук, і, на думку прысутных, спрабаваў нават пазнаёміцца з гэтай роднаснай істотай (не ведаю, гэта яму было патрэбна для творчых ці інтымных мэтаў)!



▪ Котка Чарнуля вывучае дуду, хутар Шаўловічы (Валожынскі раён)



▪ Казёл шукае крыніцу цікавага гуку, в. Рожава, Браслаўскі раён





▪ Казёл у здзіўленні ад дзвюх дудаў, Глыбоцкі раён

# ЖАНОЧАЕ ДУДАРСТВА: эмансіпацыя ці страчаная традыцыя?!

Андрусь ШЭЛЯХ, Вольга УГЛЯНІЦА

Беларуская народная песня "А мой дзядзька дуднік быў" распавядае пра рытуал ахвярапрынашэння казы перад дубам, потым дуду вешаюць на дуб, але штосьці зроблена не так, яна не грае. І раптам з'яўляецца невядомая дзяўчына па імені "Маня", яна развязвае "лычка" на дудзе і "дуда заграла" – дуда грае ад ветру. Хто гэтая дзяўчына? Чаму толькі праз яе дзеянні пачынае граць рытуальны інструмент? Чаму ўсе іншыя героі сюжэта не здолелі разыграць абрадавы інструмент? Можа, мы не ведаем пра нейкую частку нашай традыцыі? А калі ўзгадаць надзвычай распаўсюджаныя беларускія легенды пра "вайтоўнаў" – жанчынаў-вояў, становіцца зусім верагодна дапусціць існаванне жанчынаў-дударак.

З іншага боку сучаснае эмансіпаванае грамадства стварае ўмовы для руйнавання традыцыйнай маралі і, адпаведна, руйнавання традыцыйных стэрэатыпаў. Яна Шыдлоўская: "У Еўропе дуда досыць папулярна сярод жанчын". У некаторых краінах дуду часцей можна пабачыць менавіта ў руках дзяўчын.



▪ Алена Рамашко, здымак Паліны Маскалёвай















▪ Надзея Гапава, гурт "Irdorath"





▪ Наста Думанская



І гэта водгукі часоў Асветніцтва (XVIII ст.), калі, напрыклад, у Францыі ў асяроддзі гараджан і нават магнатэрыі лічылася нармальным жаночае музыкаванне на дудзе. Французскія мініяцюры тых часоў паказваюць далікатных жанчын, якія граюць на дудах. Але на сучасным этапе наперадзе ўсіх Эстонія, дзе зараз больш дударак, чым дудароў!

Гэтая сучасная тэндэнцыя насцярожвае кансерватыўна настроеных даследчыкаў беларускага дударства. Некаторыя "айцы" дударскага руху Беларусі выказваюцца вельмі адназначна. Тодар Кашкурэвіч: "Дуда – гэта агрэсіўны мужчынскі інструмент. Згодна з традыцыяй дзяўчаты на дудах граць не маглі. Больш за тое, дотык жанчыны да гэтага інструмента лічыўся знакам неналежных паводзін".

Праз усё больш вырастаючую цікавасць беларускіх дзяўчат да нашай дуды, нараджаюцца перасцярожлівыя думкі пра тое, што і наш край можа спасцігнуць такі ж лёс, як і Эстонію. Але гэтая небяспека вельмі эфемерная, бо хуткасць, з якой з'яўляюцца новыя дзяўчаты-дударкі, нашмат саступае хуткасці, з якой растуць і сталеюць хлопцы-дудары.

На сённяшні момант на беларускай сцэне стала прысутнічаюць і ствараюць свае прыгожыя дударскія вобразы Кацярына Радзівілава, Аксана Касцян, Марыя Шарый, Надзея Гапава, Алена Рамашко, Наста Думанская, Ліна Белавусава, Віка Дзяшкоўская, Наста Гаваркова і інш. Іх эстэтныя і часам нават гламурныя вобразы вельмі ўпрыгожваюць беларускую сцэну і творчае жыццё мужчынскай часткі беларускага дударскага руху.



▪ Наста Гаваркова



▪ Віка Дзяшкоўская

# У ВАР'ЯЦКІМ ВІРЫ
## "дудовых" скокаў

Андрон КАЛАСЯНЕВІЧ



Спачатку былі пытанні! Што вабіць людзей у танец, калі пачынае гучаць дуда? Што змушае псіхіку жвава рэагаваць на віскліўыя тэмбры гэтага інструмента? Чаму дзеці ўсіх маіх знаёмых з цікавасцю і апантанасцю выпісваюць "кандэлябры" пад дыскі "Ольсаў" і "Тэстаментума"? Чаму падвыпітыя мужыкі і ўсе дваровыя жывёлы адразу абарочваюцца ў бок зайграўшай дуды? Чаму ў адзіным рытмічным парыве на Дударскім клубе танчаць скіны, металісты, фалькларысты, гламурныя дызайнеры, электрыкі, будаўнікі, гісторыкі, гопнікі, наркаманы, бабулі, прафесары, падлеткі, эма, панкі – ды ўсе навокал!!! Што робіць з мозгам гэтае музычнае вынаходніцтва нашых дахрысціянскіх продкаў?





Нешта ёсць містычнае і незямное ў гуках дуды. Тут і голас жывёлы, і шум даўно адгрукатаўшых бітваў, і пляскі старадаўняй карчмы, і з'едлівы рогат старой вядзьмаркі. І што цікава, дуда робіцца з усіх матэрыялаў, якія ледзьве не валяюцца пад нагамі. Пры правільным прыкладанні рук можна ўзяць навакольныя рэчывы (скуру, дрэва, чарот) і пры адпаведным фармаванні атрымаецца гэты дзіўны інструмент. Карацей – дуда робіцца з зямлі, вады, дрэва і жывой істоты. Гэта сок і плоць нашай прыроды! Можа, у гэтым і ёсць разгадка яе прывабнасці і звышнатуральнага прыцягнення?!

Гукі дуды выломваюць браму перад нейкай вобласцю падкоркі, якая дазваляе амаль навідавоку ўбачыць мінулае! І справа тут не ў траўцы, грыбочках, таблетках ці "сэме", як многія могуць падумаць, а ў тым, што дуда "прачышчае" нейкія чакры і вызваляе заснулыя вялізныя пласты памяці і старыя сівыя архетыпы! А перажыць такое моцнае ўздзеянне магчыма толькі ў руху. У руху нашых старых танцаў ці проста "ў адрыве". Калі танчыш – усім целам





успрымаеш гукі і рытмы, пры гэтым натуральным і мірным чынам рэалізуецца памкненне да неадэкватных дзеянняў, да злых учынкаў, да бязглуздых здзекаў і гарэзлівай хуліганскай агрэсіі.



Вы думалі, чаму многія дудары ў нязмушанай атмасферы (не на сцэне) часта ходзяць пры гранні. Іх саміх “ламае” гэтая плыня актыўнай містыкі. Ім самім патрэбна праз рух і дзеянне “выплёскваць” тое, што яны чуюць!



Як там Сасноўскі крычыць са сцэны: “Хто не танчыць – той лось!” А я хачу скакаць і быць ласём, дзіком, аленем, зайцам, жабай, жуком, ваўком, буслом, янотам, дзятлам, гусём, барсуком, выдрай – карацей, усім жывым, толькі не самім сабой, такім гарадскім і сучасным! У скоках пад дуду я абдымаю ўсе пакаленні маіх неспакойных продкаў, чыя кроў і генная памяць вырываецца з падсвядомасці пры залівістых гуках дудовага музычна-жалеечнага монстра! І ўсе вышэйпералічаныя рэчывы мне толькі дапамагаюць у гэтым!!!





▪ Выява з “Рамана аб Аляксандру”, першага “рыцарскага рамана”, які пераказвае гісторыю Аляксандра Вялікага, XII ст.



▪ Рэканструкцыя сярэднявечнага карнавалу (танцы) ў выкананні тэатра “DiGrease’s Buffoon Theatre“, Беларусь



▪ “Сялянскіт танец”. Карціна Пітэра Брэйгеля

# ДУДА ў сярэднявечным тэатры

Аляксей БУРНОСЕНКА (“Бекар”)

**Дуда ў часы сярэднявечча была неад’емнай часткай выступаў тэатральных труп па ўсёй Еўропе. І нават зараз яна падтрымлівае выступы тых, хто займаецца рэканструкцыяй тэатра Сярэднявечча.**

Пачынаючы з X ст. дуда згадваецца ў дакументах і літаратуры розных краін. У часы “высокага Сярэднявечча” дзякуючы прыгажосці і энергічнасці свайго гуку дуда распаўсюдзілася ў Брытаніі, Гішпаніі, Германіі, і, без сумневаў, Вялікім Княстве Літоўскім – на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Гравюры, літаграфіі і нават жывапіс (напрыклад, Брэйгеля і Босха) утрымліваюць сюжэты, дзе людзі танчаць пад дуду, слухаюць яе, вяселяцца і гуляюць пад яе гукі.

Ужо ў антычныя часы артысты і музыкі выкарыстоўвалі інструмент кшталту дуды (аб гэтым сведчаць прыгадванні ў тэкстах), які гучаў на святкаваннях ды “антелланах” – кароткіх тэатральных вулічных фарсах. Але часы ранняга сярэднявечча трохі прынізілі актуальнасць тэатра і музыкі. І толькі з XII ст., пасля першых крыжовых паходаў, у Паўднёвую Еўропу былі прывезены з Афрыкі першыя факіры, агняходы і агняеды. Тады забаўляльная культура атрымала новы моцны штуршок развіцця.

У перыяд з XII па XVI ст. адбываўся хуткі прагрэс карнавальнай культуры. Усё больш артыстаў далучаліся да вулічных выступаў, пачыналі вандраваць з горада ў горад, жангляваць ды граць музыку. Выпрацаваліся асноўныя жанры цыркавога майстэрства: жангляванне, балансаванне, клаўнада і акрабатыка. У гэтыя стагоддзі з’яўляюцца шматлікія іканаграфічныя і літаратурныя крыніцы, якія ілюструюць вулічных артыстаў, шчудлістаў, танцораў, а разам з імі – музыкаў-дудароў.

Паралельна развівалася культура “трубадураў” – аўтараў-выканаўцаў, якія прыдумлялі вершы і цэлыя паэмы і выконвалі іх перад людзьмі. Нярэдка паэмы гэтыя былі прысвечаны пэўным багатым і знакамітым асобам і распавядалі пра іх дасягненні і подзвігі – як сапраўдныя, так і выдуманыя “на замову”. Дзякуючы гэтаму аўтары атрымлівалі немалую фінансавую дапамогу



▪ Выява з “Рамана аб Аляксандру”, XII ст.



▪ Рэканструкцыя сярэднявечнага карнавалу (шчудлісты) у выкананні тэатра “DiGrease’s Buffoon Theatre”, Беларусь

і абрасталі “менестрэлямі”, “жанглёрамі” і “гістрыёнамі” – музыкамі і спевакамі, выканаўцамі чужых твораў, а таксама ўвогуле зацейнікамі, блазнамі, якія забаўлялі публіку ўсім, чым былі здольныя.

Найбольшай папулярнасцю музыкі і артысты карысталіся падчас адзначэння дзяржаўных ці муніцыпальных святаў, калі па розных нагодах арганізоўваліся карнавалы на ўзроўні горада ці нават цэлага каралеўства: дні нараджэння ці вяселле манарха, перамога ў вайне, дні святых – заступнікаў горада ці знакамітага роду. Менавіта там, на шырокіх прасторах гарадской плошчы і вуліцы, стала актуальнай дуда, якая рабіла моцны бесперапынны гук, прыцягваючы да сябе ўвагу гледача. Гэткія святы з міжнародным складам удзельнікаў і спрыялі распаўсюджванню дуды па розных краінах і рэгіёнах: дудэльзакі ў Германіі, пайпы ў Скандынавіі, гайты ў Гішпаніі.

Але бліжэй да позняга сярэднявечча на ўсіх еўрапейскіх тэрыторыях, як у нас, так і на Захадзе, у “палацавай” культуры пачалі дамінаваць іншыя інструменты – лютні ды флейты, якія стваралі больш мяккія, “куртуазныя” гукі і не заглушалі вакаліста. А дуда, як інструмент штодзённага адпачынку, ва ўсіх еўрапейскіх краінах была адсунута з прыдворнай культуры ва ўжытковую сферу – суправаджэнне гарадскіх танцаў і вайсковых парадаў.

Усё гэтае мусіць улічваць асоба, якая займаецца рэканструкцыяй сярэднявечнага тэатра. Сёння ў свеце багата разнастайных эксперыментальных тэатральных труп, якія абіраюць арыгінальныя, часам дзіўныя накірункі: фізічны тэатр, Буто, перформанс ды іншыя. Да іх можа далучыцца і сярэднявечны тэатр, бо ён радыкальна адрозніваецца ад сучаснага “класічнага” тэатра, створанага Шэкспірам і Станіслаўскім.

Да сучаснай рэканструкцыі тэатра сярэднявечча ёсць розныя падыходы: адныя трупы абіраюць толькі рэпертуар, ставячы характэрныя кароткія аднаактныя спектаклі гумарыстычнага (фарсы), этычнага (маралітэ) альбо рэлігійнага



▪ Выява з “Рамана аб Аляксандру”, XII ст.



▪ Рэканструкцыя сярэднявечнага карнавалу (карнавальнае шэсце з музыкамі, шчудлістамі, жанглёрамі і акрабатамі) у выкананні тэатра “DiGrease’s Buffoon Theatre”, Беларусь




▪ Выява з “Рамана аб Аляксандру”, XII ст.



▪ Рэканструкцыя сярэднявечнага карнавалу (шчудлісты-дудары) у выкананні тэатра “DiGrease’s Buffoon Theatre”, Беларусь

(містэрыі) кшталту. Другія спекулююць ідэяй, звужаючы яе да стылізаванай харэаграфіі ў сярэднявечных строях пад адпаведную музыку. Іншыя эксплуатуюць толькі назву, выконваючы шэкспіраўскія п’есы ў рэнесансных і барочных строях альбо нават “камедыю дель’артэ”, народжаную познім Рэнесансам.

Але любы тэатр, прэтэндуючы на назву “сярэднявечны”, мусіць працаваць з музыкай. Немажліва сепарацыя драматычнага майстэрства ад танца, музыкі, цырка, калі мы кажам пра сярэднявечны перыяд. І дуда, дзякуючы апісаным вышэй асаблівасцям гучання, цалкам адпавядае патрэбам вулічнага карнавалу эпохі.

Сучасныя рэканструктары сярэднявечнага карнавалу сутыкаюцца з пытаннем: дзе і як паказваць свае выступы? Першы варыянт характэрны для “інкубатарных” труп: рабіць выступы для сцэны, для залы, куды прыйдуць падрыхтаваныя гледачы, каб паглядзець менавіта на гэты “сярэднявечны тэатр”. Прыклад: акадэмічныя студэнты мастацкіх універсітэтаў, якія трымаюць свае гістарычныя пастаноўкі для фестываляў і ў якасці дэманстрацый для малодшых курсаў. Другі варыянт – гэта рэканструкцыя, акрамя рэпертуара і стылістыкі імпрэзы, яшчэ і сродка яе “прамоўшна”: выйсці са сваім спектаклем на вуліцу і прэзентаваць яго так, як гэта рабілі нашыя еўрапейскія продкі – для простых прахожых, на плошчы. Гэты варыянт мае шмат рэгіянальных асаблівасцяў, але па большасці краінаў Еўропы абсалютна дасягальны.

І вось менавіта для гэтай, найбольш “аўтэнтычнай” версіі сярэднявечнага тэатра, якая арыентуецца на плошчу, на адкрытую пляцоўку фестывалю, дуда з’яўляецца адзіным пасуючым варыянтам музычнага аздаблення. Гучная і энергічная дуда здольна пакрыць сваім гукам вялікі пляц, і, разам з рытмічным барабанам, цалкам закрыць гукавую, музычную частку перфоманса. Дуда, як універсальны інструмент, зручная для многіх складаючых сярэднявечнага тэатра: для танцаў, і для трагічных сцэн маралітэ, і для камічных сцэн сярэднявечных фарсаў.

Сярэднявечны тэатр "Шальмоўскі Тэатр ДыГрыза" з Мінска – гэта трупа, сабраная на аматарскіх пачатках, але працуючая прафесійна ўжо больш за 6 гадоў. Яна здзяйсняе рэканструкцыю сярэднявечнай карнавальнай культуры Беларусі і іншых краін Еўропы. Эксперты тэатра пачыналі працаваць па даследаваннях Сапонава, Фамінцына і Даркевіча. Але сучасныя іканаграфічныя і літаратурныя першакрыніцы даюць больш слушныя, больш поўныя і практычныя звесткі.

Усе гады свайго існавання тэатр дэманстраваў еўрапейскаму гледачу нашае мінулае – карнавальнае шэсце з музыкамі (дударамі, бубначамі ды інш.), жанглёрамі, шчудлістамі, акрабатамі і танцорамі. У 2010 г. тэатр паставіў дудара на шчудлы вышынёй 1 м, што было прадэманстравана на фестывалі "Спатканні славян і вікінгаў у Воліне" (гл. мал. "Рэканструкцыя сярэднявечнага карнавалу – шчудлісты-дудары"). Але ўжо ў 2011 "ДыГрызы" вывелі на адкрыццё чарговых фестываляў у Даніі, Польшчы ды Нарвегіі ўжо двух дудароў на шчудлах. "Шальмоўскі Тэатр" увесь час свайго існавання выкарыстоўвае менавіта беларускую дуду, як сімвал лакальнае адметнасці і сваёй нацыянальнай прыналежнасці.

Самая падобная па духу, рэпертуару і стылю працы каманда была знойдзена артыстамі толькі ў штаце Пенсільванія, ЗША. Але амерыканскія буфоны ўвогуле не ўжываюць дуду.

Вядома, што для сапраўднага, "кананічнага" дудара ягоная Дуда – гэта самамэта, жонка і ідэал. Ён грае дзеля самой дударскай музыкі і дзеля жыцця традыцыі. Але, акрамя самамэты, дуда таксама можа быць сродкам дасягнення мэты, можа быць адной са шматлікіх частак вялікай мазаікі нашага вялікага мінулага. Як дуда дапаўняе рэканструкцыю беларускага Купалля, робячы яго непаўторным, гэткім жа чынам дуда дапаўняе выяву сярэднявечнай тэатральнай культуры. І Купалле, і тэатр могуць існаваць без дуды. Але тады яны ніколі не стануць такімі прыгожымі, завершанымі і цэльнымі, як з дудой.



▪ Рэканструкцыя сярэднявечнага спосабу – выступ на цэнтральнай плошчы г. Капенгаген, 2011 г. У складзе трупы шчудліст, танцорка-бубначка, жанглёрка-гімнастка і акрабат-дудар



▪ Строі "Шальмоўскага Тэатра ДыГрыза" адпавядаюць першай палове XIV ст. і маюць версію з блазнаўскім шэперонам



▪ Артысты "Шальмоўскага Тэатра ДыГрыза" арганізуюць для нарвежцаў традыцыйную скандынаўскую версію Купалля –"Мідсоммер". Раён Фарсанд, Нарвегія, 2011 г.



# ДУДЫ-фэнтэзі

Сяржук АХРАМЕНКА

▪ Дуда майстра І. Лычкоўскага, 1970-я гг.

У рамантычны перыяд рэстаўрацыі дударскай традыцыі (1970–90-я гг.) дуды з фэнтэзійнымі элементамі вырабляла шмат майстроў. Для прыкладу – дуда майстра І. Лычкоўскага 1970-х гг., вырабленая ў г. Чэрвень Мінскай вобласці (Музей старажытнабеларускай культуры ІМЭФ НАН). У пачатку 1980-х гг. зрабіў першую сваю дуду майстар і музыка Уладзімір Пузыня, жалейка і бурдон заканчваліся ражкамі замест рагаўнёў (як у І. Лычкоўскага). Тут мы бачым, як паводле “жалеечнага” ўзору бурдон і жалейка заканчваюцца не традыцыйнымі беларускімі рагаўнямі, а ражкамі. Але выкарыстанне жывёльных ражкоў не пацвярджаецца ніводнай іканаграфічнай ці літаратурнай крыніцай. Такія дуды працягваюць вырабляць і зараз некаторыя майстры.

Разгледзім іншыя прыклады дудаў, канструкцыя якіх не можа быць прызнана традыцыйнай. Адна з іх захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ НАН і паводле некаторых ацэнак датуецца канцом XIX – пачаткам XX ст. Другая – дуда XX ст., фотаздымак якой быў змешчаны ў “Атласе музыкальных инструментов народов СССР” (1975). Тут неўласцівым традыцыі элементам з’яўляецца “абрэзаная” рагаўня ў выглядзе “брандспойта”. І гэтая “брандспойтная” хвароба перадалася некаторым сучасным беларускім майстрам. Адсутнічаюць якія-кольвек крыніцы для пацвярджэння такой прыдумкі, як і вартыя здаровага розуму тлумачэнні “а навошта так рабіць?!” Самым лагічным тлумачэннем, чаму некаторыя майстры працягваюць упарта вырабляць такія “недадзеланыя” рагаўні, з’яўляецца хіба банальная чалавечая лянота, а таксама непатрабавальнасць музыкаў, якія набываюць такія інструменты і выходзяць з імі на сцэну (хаця магчыма дапусціць, што некаторыя майстры няздольныя выканаць патрабаванне традыцыі з прычыны недастатковага ўзроўню майстровых здольнасцяў).



▪ Дуда ў майстэрні Уладзіміра Пузыні (в. Ганалес), пачатак 1980-х гг.

Таксама, як і названыя прыклады, традыцыйнымі немагчыма прызнаць вырабленыя шматлікім накладам дуды Віктара Кульпіна са студэнцкай майстэрні Універсітэта культуры. Акрамя ўсіх вышэйпералічаных неадпаведнасцяў, дуды В. Кульпіна маюць яшчэ некалькі нетрадыцыйных элементаў: мяшкі вырабляюцца з дэрмаціну, другі бурдон прымацоўваецца на “жываце” мяшка. З-за адметнага выгляду такія дуды атрымалі нават асаблівую мянушку – “кульпінкі”.



▪ Дуда з ражком, пачатак XXI ст.

Усе рысы дудаў В. Кульпіна, а таксама жывёльныя ражкі на жалейках, мелі дуды гомельскага майстра Сяржука Вінаградава. Але гэты майстра вырабляў дуды ў той час (пачатак 1990-х), калі інфармацыя пра канструкцыі традыцыйных дудаў не была шырока даступнай, што пераўтварала майстэрскія пошукі ў інтуітыўныя эксперыменты.

У экспазіцыі Гродзенскага гістарычнага музея выстаўлена беларуская дуда XX ст. На жалейцы дуды страчана рагаўня (раструб). Мяркуючы па характары тачэння бурдона і жалейкі, а таксама па наяўнасці традыцыйнай рагаўні на бурдоне, драўляныя часткі гэтага інструмента з'яўляюцца аўтэнтычнымі, што нельга сказаць пра мех. Ягоная нетрадыцыйная і непрактычная форма выдае пазнейшую недасведчаную падробку. Напэўна, калісьці мяшок быў сапсаваны і на ягонае месца была зроблена няўдалая падробка.

У 1990-я гг. майстар Алесь Жура рабіў эксперыменты, закліканыя, паводле ягоных словаў, знізіць ціск у мяшку і зрабіць гучнейшай жалейку. У выніку сваіх пошукаў А. Жура прыйшоў да ідэі рабіць жалейкі конуснай формы, але з адзінарным язычком (для беларускіх дудаў былі ўласцівы жалейкі з цыліндрычнай формай унутранага канала). Больш за тое, А. Жура паводле заходнееўрапейскай традыцыі пачаў ставіць бурдон на плячо. Некалькі такіх дудаў "сімбіёзнага тыпу" з адзінарным язычком і конусным корпусам жалейкі трапілі ў музычную практыку беларускага дударства. Аналагічная дуда латышскага майстра Марыса Янсанса выкарыстоўвалася на вячорках суполкі "Выбранецкія шыхты" ў пачатку 1990-х гг..

- Дуды з рагаўнямі "брандспойтнага" тыпу













- Дуды В. Кульпіна – "кульпінкі"

Такім чынам, асноўнымі фэнтэзійнымі элементамі (у дачыненні да беларускіх дудаў) патрэбна лічыць:

1. ражкі жывёлаў замест традыцыйных рагаўнёў;
2. няскончаныя рагаўні “брандспойтнага” тыпу;
3. размяшчэнне другога бурдона на “жываце” мяшка;
4. неўласцівы традыцыі крой меха;
5. сімбіёзныя дуды-фэнтэзі з элементамі заходнееўрапейскай традыцыі: конусная форма ўнутранага канала жалейкі, бурдон на плячы.



▪ С. Вінаградаў з дудой уласнага вырабу



▪ Дуды з нетрадыцыйным размяшчэннем другога бурдона





▪ Дуды сімбіёзнага тыпу А. Журы





▪ Дуда XX ст. у экспазіцыі Гродзенскага гістарычнага музея



▪ Дуда сімбіёзнага тыпу латышскага майстра Марыса Янсанса

# ВЯРТАННЕ "пракаветнай эмоцыі"

Размова з **Тодарам КАШКУРЭВІЧАМ**, Ракаў, снежань 2011 г.,
запісаў **Дзяніс ШМАТКО**



### Ці ўплывае дуда на вонкавы вобраз Беларусі?

**Т. Кашкурэвіч.** Трэба прызнаць той факт, што дуда ўжо пачала фігураваць як стылістычны момант у беларускай дзяржаве, незалежна ад таго, чым займаюцца апазіцыянеры ці дзяржаўныя ідэолагі. Ён стаў у навакольных краінах адным са знакавых элементаў беларускага вобраза, якую эмануе дуда, і эмоцыі, якая здольная змяніць наш свет. Наш беларускі свет, сацыяльны, культурны, эмацыйны і палітычны. І знешні свет таксама. Нас пачынаюць успрымаць зусім па-іншаму. Да гэтага часу не вельмі вядомая Беларусь раптам узнікае на мапе Еўропы як краіна з нацыянальнай дударскай традыцыяй, сур'ёзнай эмоцыяй і сур'ёзнай еўрапейскай гісторыяй. Мы выглядаем зусім інакш.

### У чым важнасць вяртання дуды ў музычную практыку?

**Т. Кашкурэвіч.** Адраджэнне гэтага інструмента для сацыякультурнай сферы на Беларусі з'яўляецца адной з самых істотных. Сапраўды былі факты таго, што менавіта гэты інструмент быў зменены на "цымбалкі" – рамантычныя і жаноцкія – вельмі прыгожы інструмент, але які не мае волі. Не можа быць волі ў цымбалаў, воля можа быць толькі ў дуды. Тым не менш, апошні перыяд, які цягнуўся дзясяткамі гадоў, мы переажылі, не адчуваючы нашай пракаветнай эмоцыі, мы пражылі яго няправільна. У апошнія дваццаць гадоў, калі мы пачалі вяртаць дуды і дударскую эмоцыю ў нашу краіну, наша краіна пачала набываць валявы, мужчынскі, эмацыйны, эмацыйна-напружаны стыль, не горшы за той, які існаваў у Шатландыі ў пэўныя гістарычныя перыяды.

### Чым з'яўляецца дуда для сучаснай беларускай моладзі?

**Т. Кашкурэвіч.** Беларуская дуда фігуруе ўжо не толькі ў нейкіх фальклорных формах, яна пранікла ў джаз, у фолькмадэрновыя праекты і ў цяжкі рок. Гэта – наш поспех. Мы здолелі дабрацца да маладзёвых субкультур. Дуда не стала элементам субкультур ні ў Літве, ні ва Украіне, ні ў Расіі. Менавіта ў Беларусі гэта адбылося. Гэта адметнасць беларускага становішча – удзел дуды ў маладых і амбіцыйных праектах. Напрыклад, Дударскі клуб, Дударскі фэст, Інстытут культуры са сваімі захадамі. І гэта будзе працягвацца. Я таксама ствараю некаторыя кансерватыўныя праекты. У нас ідзе "варыва", нейкі "вінегрэт" вакол дуды. Такой "дзвіжухі", умоўна кажучы, няма нідзе ва Усходняй Еўропе. І таму я вельмі цешуся, бачу ў гэтым вельмі вялікі патэнцыял, патэнцыял той эмоцыіі

### Дуда можа ўдзельнічаць у барацьбе за незалежнасць?

**Т. Кашкурэвіч.** Па-першае, Беларусь ёсць аб'ектыўна незалежнай суверэннай, а не акупаванай дзяржавай. Праблема Беларусі, на маю думку, у змаганні за духоўную незалежнасць. Самае крыўднае, што нашыя апазіцыянеры і нацыяналісты на гэта "не ставяць". Варта адзначыць тое, што апазіцыя ў прынцыпе не займаецца стылем краіны. Беларуская апазіцыя не ўкладае фінансавых сродкаў у культуру, культурныя праекты, беларускую нацыянальную ідэнтычнасць і фарміраванне беларускага стылю. Там няма людзей, якія варты таго, каб эстэтычна сфарміраваць нейкі стыль. А што? Можа, Прэзідэнт забараняе? Ды не. Скажы, хоць адзін канцэрт "Старога Ольсы" забаранілі? Рабі ў культуры, што хочаш, "на карысць Айчыны!" А гэтая "касая" еўрапейская дэмакратыя з гомасэксуалістамі



▪ Здымкі дакументальнага фільма “Старыя інструменты Беларусі”, пры ўдзеле клуба “Княжы гуф”, здымкі А. Белавусава

і цярпімым стаўленнем да мігрантаў-бандытаў. Я – не за дэмакратыю, я – за дыктатуру. Дыктатуру культуры, маралі і стылю. У нашай краіны і ў Прэзідэнта ёсць унікальны шанс здзейсніць Вялікія Рэчы. Але...

Я з'яўляюся старым нацыяналістам. Тутэйшым, беларускім крыўскім і літоўскім. І ідэя нацыяналізм для мяне, для маёй сям'і – гэта істотныя крытэрыі нашага жыцця. Я ведаў Вячорку, Івашкевіча, Бяляцкага і яшчэ шэраг іншых людзей, якія пачыналі афармляць ідэалогію беларускага нацыяналізму яшчэ ў 80-х гадах. На жаль, прыйшоў час, калі гэтыя людзі, і я хачу пра гэта вельмі жорстка заявіць, здрадзілі ідэі нацыяналізму. Яны замянілі покліч “За Беларусь!” на лозунг “За дэмакратыю!”

Мае знаёмыя літоўскія нацыяналісты, якія рабілі незалежную Літву, зараз здрадзілі ідэі нацыяналізму. Іхнія дзеці раз'ехаліся з незалежнай Літвы, каб не жыць у гэтай краіне. Знакавыя людзі, якія змагаліся за незалежнасць Літвы, за сваю валюту, пашпарты і стыль краіны, не здолелі ўтрымаць сваіх дзяцей. Цяпер тое ж самае адбываецца і ў нас. Дзеці нашых нацыяналістаў таксама раз'ехаліся з краіны. За якую незалежную Беларусь змагаліся іх бацькі?

А вось мы жывём тут. Я прынцыпова жыву ў Беларусі, хаця мог бы жыць досыць заможна ў Польшчы. Але я прынцыпова вярнуўся сюды і займаюся культурніцкай дзейнасцю. Мала таго, мы з жонкай пераехалі жыць на зямлю.

## Дудар мусіць пусціць “карані ў глебу”?

**Т. Кашкурэвіч.** Для маёй сям'і гэта істотна. Я займаюся агародам і хатай, хоць гэта і стварае шмат праблем. Той жа самы агарод – мы маглі б за 50–100 даляраў набыць прадуктаў на палову года. Але мы вырошчваем самі. Таму што для нас гэта – Рэлігія! Як і дуды, і этнічная музыка, і традыцыйны светагляд. Хто як гэта ўспрымае, але для нас гэта рэлігійныя рэчы! І мы будзем жыць тут, з гэтымі перакананнямі, таму што для нас яны самыя істотныя ў жыцці! Мы можам ператрываць і беспарадкі, і нейкія складанасці, і беднае жыццё. Стыль важней за ўсё – дуда, дударская эмоцыя беларускай дзяржавы, беларускай нацыі, беларускай грамадзянскай супольнасці.

## Які вобраз мае сэнс культываваць унутры краіны?

**Т. Кашкурэвіч.** Бяляцкі кажа (неяк ехалі ў Ракаў у аўтобусе), што беларусы яшчэ не дараслі да разумення дэмакратыі. Так, мы не дараслі да таго, каб у нас гей-парады былі на праспекце Незалежнасці. Да чаго нашы людзі не дараслі? Яны ўсё вельмі мудра аналізуюць: і тое, што робіць Прэзідэнт Лукашэнка, і тое, што робяць нацыяналістычныя і дэмакратычныя партыі. Завядзі з імі размову пра апазіцыю і пра Лукашэнку – іх гэта не цікавіць. А цікавіць іх свая ідэнтычнасць. І калі я запрашу іх на дударскі канцэрт у Ракаве, гэта будуць людзі нашай краіны, нашай зямлі. Нармальныя нашыя людзі, тутэйшыя. Для іх трэба сфармуляваць прывабны вобраз краіны, пасля чаго яны яшчэ больш будуць акцэнтаваць увагу на сваім стылі. Ім будзе падабацца гэты стыль. Чаму палякі рэалізаваліся? Палякі рэалізаваліся дзякуючы стылю, таму што “поляк – то ест шляхетны чловек”, расіянін – “это есть чистый славянин и большая славянская империя”. А Беларусь нават у славянскім вымярэнні сябе не сфармулявала. Гэта “партызанскі край”.

Гэта ўвогуле ўнікальная рэч на мапе Еўропы. Беларускі


Вячка Красуля, здымак А. Белавусава

класічны балет – другі пасля расійскага ў Еўропе. Спартоўцы – біятланісты, хакеісты,тэнісісты і інш. – усе на высокім узроўні. Прадпрыемстваў у нас колькі. Белавежская пушча, урэшце. У нас столькі ёсць шансаў для фарміравання годнага стылю – дзяржаўнага, нацыянальнага. І ўсё роўна гэта не працуе на свядомасць і на стыль краіны.

## А дуда спрацуе на простага чалавека?

**Т. Кашкурэвіч.** Сто адсоткаў. На п'янчужку, на моладзь вясковую, на адмарожаную, на любую. Тут надзіва спрацоўвае нейкі архетып. Быў такі прыклад: прыехалі мы аднойчы ў вёску паўдзельнічаць у абрадзе "Жаніцьба Цярэшкі". Кіламетраў 6 ад Лепельскай трасы. Гэта Усходняя Беларусь, там усё круцей, не тое, што тут у нас, у Заходняй. Нас сустрэлі агрэсіўныя мясцовыя хлопцы. Яны п'юць, паляць цыгарэты, мацюкаюцца. Трывожна так. Гэта быў Бярэзінскі запаведнік. А мы ж з дзяўчатамі. Я ўжо думаў, мо за які кол хапацца. Але прыехаў Юрась Панкевіч, чалавек лёгкі на кантакты. Хлопцы кажуць: "А вы хто такія, з Мінска? Музыканты?" А Юрась: "Да, музыканты. Во, на дудзе граю". Хлопцы: "Ну, пакажы, што ў цябе тут такое". А ў іх у машыне хэві-метал раве на поўную моц на ўсю пушчу. І тут Юрась пачынае граць на дудзе. У Лепельскім краі! У сэрцы дударскай традыцыі! І мясцовыя хлопцы за дзесяць хвілін з агрэсіўных постсавецкіх хлапцоў ператварыліся ў ветлівых людзей, у якіх абудзілася нармальная эмоцыя. Яны слухалі, а потым кажуць: "Ух ты! Юра, ты што! Ты граеш на дудзе?! Давай табе чарку нальём! Юрка, вось ты сволач, канечне, але вось ты граеш, а ў мяне ногі аж самі топчуць пад тваю музыку". Хлопцы вясковыя, якія ўвогуле не слухаюць такую музыку, але іх дуда прабрала. Яны сталі нашымі сябрамі, удзельнічалі ў абрадзе, карагоды танчылі, спявалі. Дуда зрабіла з іх іншых людзей. Якім вось іншым інструментам – скрыпачкай, цымбаламі – гэта можна было б зрабіць? Перабіць постсавецкі сацыякультурны кантэкст.


Фестываль "Крывіа этерна", Мінск, 2010 г.

## Ты жывеш у Ракаве, ці ўспрымуць тут дуду, калі наладзіць канцэрт дударскай музыкі?

**Т. Кашкурэвіч.** Перакананы. Усе мае шаноўныя суседзі – пані Яня, пані Лёня, спадары Янушкевічы, паны Тамара і Віктар, пан Эдуард Станіслававіч (Эдзік) і шмат іншых добрых ракаўскіх людзей з вялікай радасцю прыйдуць на нашыя канцэрты.

**Час ісці да нашых людзей!**


Стары Ольса ў 120-й гвардзейскай брыгадзе, 2010 г. , здымак А. Белавусава

# Вяртанне ДУДЫ

Інтэрв'ю са **Зміцерам САСНОЎСКІМ**,
запісаў **Алег БЕЛАВУСАЎ**

**Дуда** – духавы язычковы інструмент, які згадваецца ў старабеларускай літаратуры ўжо з XV ст. Выраб яе лічыўся справай сакральнай. У XIX ст. дуда стала адным з самых папулярных беларускіх інструментаў. Тып "беларускай" дуды быў пашыраны не толькі на тэрыторыі ўласна Беларусі, але і ў Літве і Латвіі.

**Зміцер Сасноўскі** – кіраўнік гурта "Стары Ольса", прадзюсар фестывалю "Дударскі фэст", вучань латышскага майстра народных інструментаў Д. Вуцыса, выпускнік гістарычнага факультэта Гомельскага ўніверсітэта, у 1996–2000 гадах выкладаў філасофію ў Полацкім універсітэце, у 1997 г. скончыў курсы РІВШ (Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы, Мінск), у 1998-м стажыраваўся ў Мадрыдскім каталіцкім універсітэце (Madrid University "Comillas", праграма Tempus/Tacis), у 2004 г. стажыраваўся ў Польшчы ў "Kolegium Europy Wschodniej" (Вроцлаў, праграма "Muzyka dawna"), у 2006 г. стажыраваўся ў ЗША (праграма International Visitor Leadership Program/United States Department of State). Аўтар чатырох кніг па гісторыі музычнай культуры Беларусі і дакументальнага фільма "Старыя інструменты Беларусі".



▪ Здымак А. Белавусава

**Зміцер, спачатку давай вызначымся: што такое дуда?**

**З. Сасноўскі.** Гэта духавы язычковы інструмент, корпусам якога служыць скураны мяшок, па-руску называецца "волынка", па-англійску – bagpipe, па-шведску – sakpipa, па-нямецку – dudelsak, а па-беларуску – дуда. Ён вядомы практычна ўсім народам Еўропы – нарвежцам, шведам, немцам, французам, італьянцам, палякам, чэхам, балгарам. У кожнага народа дуда мае свае канструктыўныя і меладычныя асаблівасці.

**Чаму слова "валынка" ў большасці людзей выклікае асацыяцыю**

### з Шатландыяй? Адкуль такая папулярнасць шатландскай валынкі?

**З. Сасноўскі.** Асацыяцыя ўсіх валынак з Шатландыяй – гэта стэрэатып. Гэты інструмент нарадзіўся лакальна ў розных краінах Еўропы (у тым ліку і ў Беларусі). Шатландская валынка стала вядома ва ўсім свеце дзякуючы вайсковым аркестрам Брытанскай імперыі, якія гучалі ў яе калоніях на ўсіх кантынентах. Папулярнасць шатландскай валынкі працягваецца і зараз – падчас многіх гарадскіх святаў у Амерыцы гучаць аркестры шатландскіх валынак, вельмі развіта традыцыя вайсковых аркестраў валынак у Новай Зеландыі.

### Раскажы, чым беларуская дуда адрозніваецца ад шатландскай валынкі?

**З. Сасноўскі.** Канструкцыя беларускай дуды мае асноўныя рысы інструментаў гэтага тыпу, а таксама выразныя адрозненні – своеасаблівы чубук, якім заканчваліся і жалейка, і басавыя трубкі, ён называўся “рагавень”. Беларускія дуды адрозніваліся таксама сваім адметным строем і своеасаблівай манерай грання.

### Якое месца ў жыцці беларускага народа займала дуда?

**З. Сасноўскі.** Гэты старажытны музычны інструмент раней вызначаў жыццё кожнага беларуса. Без дуды не адбываўся ніводны абрад ці свята. Дуда на Беларусі была моцна ўпісана ў міфалогію і мела вялікае рытуальнае значэнне. Яна гучала падчас розных абрадаў – Калядаў, валачобніцтва, радзін. Гукі дуды суправаджалі таксама жніво і Купалле. У час заручын малады прыязджаў са сваім дударом, а маладая сустракала яго са сваім. У XIX ст. беларуская эліта ўсведамляла дуду як сімвалічны інструмент. Адзін са сваіх зборнікаў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч назваў “Дудар беларускі”, а Францішак Багушэвіч – “Дудка беларуская”. Псеўданім паэта Аляксандра Дайлідовіча – “Дудар”.

### Зараз дуда амаль нідзе не гучыць на канцэртах і фальклорных фэстах. Як такое магло атрымацца?

**З. Сасноўскі.** Аж да сярэдзіны XX ст. беларуская дуда была самым распаўсюджаным інструментам і актыўна выкарыстоўвалася ў беларускай народнай музыцы падчас танцавальных вечарын, на кірмашах і розных святах. Беларускія дуды трапілі ў музей музычнай культуры імя М. Глінкі, у сховішчы і этнаграфічныя ўстановы Вільні, Масквы і Санкт-Пецярбурга. У 30-х гг. у савецкіх рэспубліках для кожнага народа вызначаўся самы традыцыйны інструмент. У Беларусі ім стала дуда. Беларускія дудары прадстаўлялі сваю культуру на ўсесаюзных конкурсах. У канцы 20-х – сярэдзіне 30-х гг. супрацоўнікамі Усесаюзнага радыё былі зроблены гуказапісы беларускіх дудароў Хведара Стэся, Міколы Навіцкага і Сцяпана Шахаўца, якія выконвалі беларускія танцы і найгрышы. У 1925 г. беларускіх дудароў па прапанове наркама культуры Луначарскага накіравалі на мастацкую выставу ў Парыж. Выступленне ансамбля беларускіх дудароў абудзіла за мяжой цікавасць да беларускага інструментальнага мастацтва – кансерваторыя італьянскага горада Пізары



нават звярнулася ў Інбелкульт з просьбай даслаць для мясцовага музея старадаўнія беларускія інструменты. На міжнароднай музычнай выставе, якая праходзіла ў 1927 г. у Франкфурце-на-Майне, дэманстравалася і калекцыя беларускіх інструментаў, сярод якіх і дуда. Дапоўніла калекцыю карціна “Дудар”. Але ўжо ў даваенны час на змену дудзе прыйшлі цымбалы і гармонік. У другой палове XX ст. дуды сталі актыўна адцясняцца з музычнай сферы ў этнаграфічную і музейную. На шчасце, з 70-х гг. паступова пачалося адраджэнне гэтага інструмента. Майстры сталі вырабляць дуды паводле старых музейных экспанатаў, фальклорныя калектывы пачалі ўключаць іх у свой інструментарый. З канца 80-х гг. гэты рух пашырыўся. У 2007 г. прайшла першая міжнародная канферэнцыя “Захаванне дударскай традыцыі на Беларусі”, дуду пачалі вывучаць у Беларускім



дзяржаўным універсітэце культуры, расце колькасць майстроў і музыкаў, якія прысвячаюць сваю дзейнасць гэтаму інструменту. Былі створаны “Беларускі дударскі клуб” і “Дударскае брацтва Св. Васіля”. Рыхтуецца да выдання першы нумар альманаха “Dudar”. З 1992 г. у Мінску праводзіцца міжнародны “Дударскі фэст” (з 2006-га ён стаў штогадовы). Гэта адзінае мерапрыемства ва Усходняй Еўропе, прысвечанае дудзе. Цікавая акалічнасць: традыцыйна лічыцца, што дуда – гэта мужчынскі інструмент. Але на “Дударскім фэсце” ўсё часцей з дудамі выступаюць жанчыны.

## Ці ёсць у нас майстры, якія займаюцца вырабам гэтага старадаўняга інструмента?

**З. Сасноўскі.** Так, і Гомель тут не выключэнне. У канцы 90-х гг. у Гомелі працаваў майстар Сяржук Вінаградаў, тады ж першую (і, на жаль, апошнюю) сваю дуду ў Гомелі зрабіў Дзяніс Міхасёў. І я пачаў рабіць свае дуды менавіта ў гэтыя гады. Дарэчы, беларускія майстры вырабляюць таксама інструменты іншых традыцый – шведскую säkpipa і нямецкі dudelzak. Адзначу, што сёння самая старая беларуская дуда (1877) захоўваецца ў Лепельскім музеі, і ўсе сучасныя майстры робяць дуды па яе ўзору.

## Ці можа, на твой погляд, беларуская дуда заняць вартае месца ў сучаснай рок-культуры?

**З. Сасноўскі.** Беларускія дуды зараз пачынаюць гучаць у музыцы самых розных стыляў – ад сярэднявечча і фольк-джаза да цяжкага року і сімфанічнага авангарда. І гэтым цікавы цяперашні час. Паказальнымі тут з’яўляюцца імітацыі дуды на гітары славутага гомельскага гурта Gods Tower і актыўнае выкарыстанне беларускай дуды ў мінскіх рок-гуртах “Зніч” і “Нейра дзюбель”. Дуду выкарыстоўваюць фольк-мадэрновыя гурты “Осіміра” (Віцебск) і “За парогам” (Магілёў). На “Дударскіх фэстах” вельмі ўдала выступае гурт фольк-металовага накірунку “ЛітвінТроль”, у музыцы якога беларускім дудам адводзіцца роля сольных інструментаў. Тодар Кашкурэвіч запісаў кампазіцыю сумесна са славутым гуртом “Vicious Crusade”, дзе выканаў сольную партыю на дудзе.
І ёсць шмат іншых прыкладаў. У выніку атрымліваецца досыць арыгінальнае спалучэнне, якое выклікала вялікую цікавасць сярод прыхільнікаў экстрэмальных музычных накірункаў.

## Што ты параіш жадаючым спасцігнуць мастацтва грання на дудзе?

**З. Сасноўскі.** Прыехаць хаця б на адзін “Дударскі фэст”, пазнаёміцца з музыкамі і майстрамі, паразмаўляць, параіцца і нават паспрабаваць упершыню пайграць на гэтым інструменце. Незабыўныя эмоцыі гарантую! А там зацягне так, што і не выберашся!

## І апошняе пытанне. Раскажы, чым цябе асабіста зацікавіла дуда?

**З. Сасноўскі.** Інтанацыяй гучання, у якой адчуваецца само дыханне нашай старадаўняй зямлі і яе славутай гісторыі. А таксама агрэсіўным экспрэсіўным тэмбрам, які асаблівым чынам уздзейнічае на мой мозг. Гэта наркотык: калі падсядзеш “плотна” – кайф на ўсё жыццё!








# ДУДАРСКІ ФЭСТ
## гісторыя

**Кастусь ЗЯМКЕВІЧ** паводле сайта dudar.info
Здымкі **А. Белавусава**

Дударскі рух у пачатку 1990-х гг. дасягнуў значных поспехаў, што падштурхнула да правядзення ў Мінску першага фестывалю дуды (1992). Паводле распрацаванай канцэпцыі Дударскі фэст мусіў аб'ядноўваць традыцыі дудаў рэгіёна Балтыйскага мора, куды геаграфічна і гістарычна ўваходзіць і Беларусь. Таму фэст атрымаў назву "Дударскага балтыцкага фэсту". "Дударскі балтыцкі фэст – 1992" уключаў шэраг імпрэзаў – канцэрты, сустрэчы, танцавальныя вечарыны, канферэнцыю і рэканструкцыю беларускіх абрадаў. Канцэрты і мерапрыемствы дударскіх фэстаў выклікалі рэзананс сярод шырокага кола этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў і шматлікіх аматараў. У фэсце ўдзельнічалі дудары Беларусі, Літвы, Латвіі і Шатландыі. Фестываль меў такі поспех, што ў наступным, 1993 г. быў праведзены "Дударскі балтыцкі фэст – 1993". Ініцыятарамі і арганізатарамі дударскіх фэстаў у 1992–1993 гг. былі Цэнтр этнакасмалогіі "Крыўя", фірма "Ваўкалака" і "Фонд развіцця традыцыйнай этнічнай культуры".

У 2002 г. у Заслаўі адбыўся фестываль дударскай музыкі "Заслаўскі дуднік", які стаў натуральным працягам першых дударскіх фэстаў. Дударскі фестываль прайшоў у межах фестывалю сярэднявечнай традыцыі і культуры "Заслаўскі набат". У 2002 г. у Заслаўі мастацтва валодання дудой паказвалі 15 айчынных музыкаў. Дудары выступалі ў розных намінацыях – сольнае выканальніцтва на дудзе, дударскае гранне ў акампанеменце з іншымі інструментамі, дудовае суправаджэнне спеваў. У 2003 г. на фэсце "Заслаўскі дуднік" выступіла ўжо 20 беларускіх дудароў, з якімі прыехалі і іншыя музыкі для суправаджэння дударскай музыкі. У будынку Заслаўскай школы мастацтваў адбылася канферэнцыя на тэму традыцыйнасці і манеры грання на беларускіх дудах з дакладам А. Лася і У. Пузыні. У 2003 г. на адкрытай канцэртнай пляцоўцы прайшлі паказальныя выступленні ў 2 намінацыях: 1) дуда сола і 2) дуда ў капэле. Гралі дудары


▪ Гурт «Келіх кола», 2006 г.


▪ Тодар Кашкурэвіч, 2006 г.


▪ Хведар Караленка, 2006 г.


Клуб Стэп, 2007 г.

з Беларусі: У. Пузыня, А. Жура, З. Сасноўскі, В. Калацэй, У. Бярбераў і інш. Ініцыятарам і арганізатарам фэсту "Заслаўскі дуднік" быў дудар Васіль Грынь (Заслаўе).

У 2006 г. наспела патрэба адрадзіць дударскія фэсты – штогод ладзіць вялікую сустрэчу музыкаў і аматараў дуды. Абмен досведам музыкаў, спатканні майстроў і даследчыкаў фальклору, дэманстрацыя інструментаў і манераў грання, нязмушаная атмасфера клуба і магчымасць параўнаць інструменты розных краінаў – неабходнасць усяго гэтага змусіла аднавіць ідэю дударскіх фэстаў. У новай сітуацыі з'явілася патрэба ўдзелу ў фэсце дудароў іншых краінаў для асэнсавання адметнасці беларускай дударскай традыцыі на еўрапейскім кантыненце і ў балтыйскім культурным рэгіёне.
Па ініцыятыве Зміцера Сасноўскага быў створаны аргкамітэт фэсту, у які быў запрошаны арганізатар першых дударскіх фэстаў Тодар Кашкурэвіч. Дзякуючы працы ў аргкамітэце Т. Кашкурэвіча ўдалося захаваць творчую і канцэптуальную пераемнасць паміж першымі фэстамі і дударскім фэстам, адроджаным у 2006 г.

На "Дударскім фэсце – 2006" гучалі беларускія, галісійская, шатландскія і латышскія дуды. Гралі Тодар Кашкурэвіч, "Стары Ольса", "Litvintroll", "Келіх кола", "За парогам", "Ліцьвіны", "Ліцьвінскі хмель" і шмат інш. Фестываль быў падзелены на тры часткі: неафолк, традыцыйны фальклор, музыка стылю медыеваль (сярэднявечная музыка). Фестываль выклікаў вялікую ўвагу СМІ. На канцэрце прысутнічалі здымачныя групы 6 тэлеканалаў (беларускія АНТ, БТ, СТБ, ЛАД, маскоўскі ТВЦ і агульнарасійскі ОРТ), журналісты 5 радыёстанцый і 12 газет. Пасля фэсту канал АНТ зняў дадаткова праграму пра беларускіх дудароў і майстроў гэтага інструмента; расійскі канал ОРТ вырашыў зняць цыкл перадач пра беларускі рух дудароў. Прафесійны аўдыязапіс фестывалю выйшаў на CD пад назвай "Дударскі фэст" (мастэрынг – DP-records, выданне – BMA-group).

Многія ўдзельнікі фестывалю выказалі жаданне зрабіць фэст штогадовым. І вось у красавіку 2007 г. адбыўся "Дударскі фэст – 2007", які стаў ужо міжнародным – у фэсце ўдзельнічалі дудары з Польшчы, Літвы, Расіі і Балгарыі. У межах "Дударскага фэсту – 2007" адбыліся


Стас Зубцоў, С.-Пецярбург, 2007 г.


Стась Чавус, здымак Алены Вальковіч, 2007 г.


Юрась Панкевіч, 2007 г.

прэс-канферэнцыя, канцэрт у КЗ ”Мінск”, Міжнародная навуковая канферэнцыя пад назвай “Традыцыі захавання дударскай музыкі”, вялікі танцавальны канцэрт у клубе “Стэп”. У межах фэсту прайшоў конкурс маладых дудароў. Відэаматэрыялы фэсту ўвайшлі ў дакументальны фільм “Старыя інструменты Беларусі”.

Кожны з гуртоў, якія ўдзельнічалі ў фестывалі, падрыхтавалі для выступу нешта адметнае. Гурт “Стары Ольса” выканаў сярэднявечныя еўрапейскія танцы і старадаўнія беларускія песні. Рок-гурт Litvintroll выступіў з шатландскай дудой. “Келіх кола” прадставіў публіцы беларускі і латгальскі фальклор 30-х гг. – беларускія дуды ў спалучэнні з нямецкім акардэонам. Дзяніс Сухі прадставіў рэканструкцыю аўтэнтычнай беларускай манеры грання на дудзе. Магілёўскі гурт “За парогам” прадставіў галісійскую дуду. Гурт “Ліцьвінскі хмель” і “Testamentum terrae” (Мінск) выступілі на фестывалі з праграмай, дзе была прадстаўлена і беларуская, і еўрапейская дударскія традыцыі. У фэсце ўдзельнічаў самы стары беларускі майстар па вырабу дуды Алесь Лось, які са сваёй капэлай выканаў дударскую музыку розных рэгіёнаў Беларусі. Гурт Ceilidh Ceol сыграў традыцыйную ірландскую і шатландскую музыку, выкарыстоўваючы шатландскую дуду. Фальклорны гурт “Кудзьмень”


▪ Аляксей Беляковіч, 2007 г.


▪ Ліанэ Барбо (Эстонія) , 2008 г.


▪ Дударская канферэнцыя, хутар Барок, 2008 г.


▪ Сяржук Тапчэўскі, 2008 г.


▪ Эдуардс Клінтс, гурт “Abra” (Латвія) , 2008 г.


▪ Ютака Бан (Балгарыя), 2008 г.

▪ Дударскае шэсце, хутар Барок, 2009 г.

пазнаёміў публіку з беларускай дударскай музыкай у спалучэнні з традыцыйнымі беларускімі мужчынскімі спевамі. Выступалі таксама беларускія гурты “Стара Літва”, “Ліцьвіны”, “Расалія”, “Джамбібум”. Юрась Панкевіч прадэманстраваў гранне на шведскай дудзе – sakpipa. Сваю дударскую традыцыю прадставілі аўтэнтычныя музыкі з Польшчы (капэлы “Dudziarzy Wielkopolski”, “Kapela kozlarska Benia Kaspra z Przyprostyni”), Літвы (Вітаўтас Лінкявічус), Балгарыі (Ютака Бан) і Расіі (Стас Зубкоў). Канцэрты заканчваліся сумесным выкананнем гімну фэсту – аўтэнтычнай беларускай песняй “Зайграй мне, дударочку”. “Дударскі фэст” стаў адзіным мерапрыемствам у сваім родзе ва ўсёй Усходняй Еўропе. Адпаведна з распрацаванай канцэпцыяй, фэст паказаў беларускую музычную традыцыю ў агульнаеўрапейскім кантэксце – на фестывальных сцэнах прагучалі беларускія, галісійскія, шатландскія, шведскія і латышскія дуды. На фестывалі была


▪ Адам Кайзэр і Леанард Сліва “Kapela kozlarska Benia Kaspra z Przyprostyni”, 2009 г.


▪ Бернард Фронцэк, гурт “Dudziarzy Wielkopolski” (Польшча), 2009 г.

прадстаўлена дударская музыка ўсіх накірункаў – ад традыцыйнага фальклору да рок-музыкі. Пры перававе маладзёжнай публікі, фэст прыцягнуў увагу людзей розных узростаў і паходжання. Хоць правядзенне фэсту з'яўляецца прыватнай ініцыятывай, але выклікала ўвагу і паспрыяла супрацоўніцтву з дзяржаўнымі структурамі – ансамблямі і майстрамі Дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і прадстаўнікамі Міністэрства культуры.

У "Дударскім фэсце – 2008" да ранейпералічаных удзельнікаў далучыліся гурты "Яварына", "Баламуты" і "Кашлаты Вох". Ганаровая роля адкрыць фэст была даручана музыку, які многія дзесяцігоддзі культывуе беларускую дударскую традыцыю, гэта самы стары дудар Беларусі спадар Уладзімір Пузыня. Пасля яго зайграў самы малады ўдзельнік фестывалю 7-гадовы Павел Макоўскі (выканаў народны танец "Юрачка"). У 2008 г. беларускія дударскія традыцыі пачалі стала перадавацца дзецям, што пацвердзіў выступ дзіцячага гурта "Рарог" (Івянец) пад кіраўніцтвам Кацярыны Радзівілавай. З традыцыйнымі беларускімі мелодыямі для дуды выступіў дуэт Наталлі Валынец і Дзяніса Сухога. Унікальнае спалучэнне мясцовых традыцый і твораў заходнееўрапейскага паходжання, уласцівае Вялікаму Княству Літоўскаму, прэзентаваў мінскі гурт старадаўняй музыкі "Testamentum Terrae". Тодар Кашкурэвіч і гурт "Essa" паказалі ўнікальныя здольнасці ў перадачы аўтэнтычных беларускіх спеваў пад дуду паўночнага рэгіёна Беларусі. Традыцыі ансамблевага грання дуды са скрыпкай, гармонікам і


Васіль Верабейчыкаў і Андрэй Апановіч, 2009 г.


Гурт "Гальярда", 2009 г.


Гурт "Рада", 2009 г.

басэтляй прадставіў заслаўскі гурт "Рада". З нямецкімі дудэльзакамі выступалі У. Калач, А. Сурба і З. Шыманскі.

Спецыяльным госцем фэсту была ўдзельніца славутага гурта "АУЛІ" эстонская дударка Ліанэ Барбо. Латвію на Дударскім фэсце прадстаўляў вядомы латышскі майстар Эдуардс Клінтс і музыкі латышскага гурта "Abra". Агульнаеўрапейскія


▪ Зміцер Сідаровіч, 2009 г.


▪ Леанард Сліва, гурт “Kapela Gdynia” (Польшча), 2009 г.


▪ Сумеснае выкананне гімна фестывалю, клуб Стэп, 2009 г.

музычныя традыцыі XIV–XV стст. на фестывалі прадставіў вядомы польскі гурт “Mozaik”. З шатландскай дудой выступіў бэгпайпер з Новай Зеландыі, беларус па паходжанню Андрэй Мароз. 27 красавіка 2008 г. адбылася заключная дударская вечарына ў клубе “Катакомбы”. Традыцыйна ў сумесным выкананні напрыканцы канцэртаў гучаў гімн фэсту “Зайграй мне, дударочку”.

На хутары Алеся Лася прайшла канферэнцыя, дзе прагучалі даклады: “Архіўныя аўдыёзапісы дудароў першай паловы XX ст.” – Дзяніс Сухі (Беларусь); “Традыцыі дуды Польшчы, Германіі і Швецыі” – Zofia Janiczek (Польшча); “Захаванне і развіццё традыцыі балгарскіх гайд” – Ютака Бан (Балгарыя); “Шатландскія bagpipers у гарадскіх аркестрах Новай Зеландыі” – Андрэй Мароз (Новая Зеландыя); “Практыка навучання дзяцей гранню на дудзе” – Зм. Сасноўскі (Беларусь) і шмат іншых.

8-ы Міжнародны фестываль “Дударскі фэст – 2009” прайшоў 24–28 красавіка 2009 г. У 2009 г. Дударскі фэст меў не менш насычаную праграму. 14 красавіка адбылася прэс-канферэнцыя ў страўні “Камяніца”. 24 красавіка – канцэрт-адкрыццё ў клубе “Рэактар”, дзе сярод сталых удзельнікаў фэсту (“Стары Ольса”, “Testamentum terrae”, “Расалія”, “Ceilidh Ceol”, “Келіх кола”) выступілі Дзяніс Сухі і гурт “Дзевясіл”, беларускі гурт “Cornucopia”, а таксама польскі гурт “Kapela ziele”. 27 красавіка прайшла традыцыйная ўжо навуковая канферэнцыя “Захаванне дударскай традыцыі на Беларусі” (хутар А. Лася, Валожынскі раён). 28 красавіка быў заключны дзень фэсту. Ён адзначыўся вялізным канцэртам (13.00–18.00) на вольным паветры ў музейным комплексе “Дудуткі”: “Сахор”, “Гальярда”, “Крэва”, “Кашлаты Вох”, “Бі-фолк”, “Філ”, “Яварына”. Цікавым эксперыментам стаў сумесны выступ беларускага гурта “Келіх кола” з музыкам дацкага гурта “GNY” Л. Рунэ. Усе дні фэсту ў скокі запрашаў, вучыў беларускім і еўрапейкім старажытным танцам усіх ахвотных гурт “Гістрыён”.

Адной з асаблівасцяў “Дударскага фэсту – 2009” яго арганізатары абвясцілі тое, што ў гэтым годзе слухачы змогуць пазнаёміцца з будучым беларускай дуды: пачуць, як гучыць гэты інструмент у “металічным” рок-гурце. Дзеля справядлівасці заўважу, што гэта ідэя не новая, але дуда ў складзе рок-гуртоў раней выкарыстоўвалася фрагментарна. Напрыклад, у музыцы маладога гурта “ESPRIT”, які прапанаваў свае каверы і песні ў суправаджэнні шатландскай і беларускай дуд. У выпадку з гуртом “Litvintroll”, які на гэтым канцэрце прэзентаваў свой дэбютны альбом “Rock-&-Troll”, справа зусім іншая – тут беларускія дуды гучаць заўжды ў якасці асноўных сольных інструментаў.

У 2010 г. была працягнута традыцыя супрацоўніцтва з музейным комплексам

“Дудуткі”. Непадобнасць гэтага фестывалю на іншыя была ў насычанай праграме і фольк-мадэрновым ухіле стылістыкі выступоўцаў. 15 траўня 2010 г. тут прайшло беспрэцэдэнтна шмат дударскіх імпрэз: камерны канцэрт “Адраджэнне аўтэнтычнай традыцыі”, канцэрт старадаўняй танцавальнай музыкі “Сярэднявечны баль” і канцэрт фольк-мадэрновых выканаўцаў “Псіха-фольк”, у межах якога прайшоў конкурс імправізацыі на дудзе ў суправаджэнні DJ Паўла Бальцэвіча. Асноўнай ідэяй было паказаць дударскую традыцыю Беларусі ў сучасным мадэрновым прачытанні. Заключны канцэрт фестывалю прайшоў у парку Чалюскінцаў 19 траўня 2010 г., дзе сярод традыцыйных выканаўцаў выступілі таксама гурты “Зніч” і “Унія”, якія паказалі выкарыстанне беларускіх дудаў у рок-музыцы.

У 2011 г. прайшоў юбілейны, X “Дударскі фэст”. Ягонай адметнасцю стаў прыезд трох замежных зорак сярэднявечнай і фальклорнай музыкі – гуртоў “Fidelius” (Германія), “Hedningarna” (Швецыя) і “Open Folk” (Польшча). 12 траўня 2011 г. прайшоў канцэрт-адкрыццё: “Essa”, “Стары Ольса”, “Litvintroll”. 13 траўня адбыўся сольны канцэрт “Hedningarna”. 14 траўня на хутары “Шаўловічы” (Валожынскі раён) адбылася канферэнцыя “Захаванне дударскай традыцыі на ўсходзе Еўропы”. У праграме афіцыйнай часткі канферэнцыі былі даклады даследчыкаў, а неафіцыйная частка адзначылася сумесным нямецка-шведска-беларускім джэм-сэйшнам на вольным паветры. 15 траўня ў апошні дзень фестывалю прайшлі два канцэрты: удзень у музейным комплексе “Дудуткі” канцэрт гуртоў “Fidelius” (Германія) і “Irdorath” (Беларусь); увечары – заключны канцэрт фэсту ў клубе “Рэактар” (апошні дзень існавання клуба!): “Стары Ольса”, “Кашлаты Вох” “Бона Сфорца”, “Яварына”, “Testamentum terrae” і спецыяльныя госці – гурты “Fidelius” (Германія) і “Open Folk” (Польшча).



Томаш Кіціньскі, гурт “Kapela z Zakopanego” (Польшча), 2009 г.



Шымон Бафія , гурт “Kapela Gdynia” (Польшча), 2009 г.



Хутар Барок, 2009 г.

## СМІ пра фэст

Вечеринка – под волынку. Сегодня в Минске проходит давно забытый фестиваль “Дударскі фэст”. Правда, звуки, которые издают древние инструменты, скорее настраивают не на танцы, а приводят в легкий транс. Отличить голос белорусской дуды от галисийской, шотландской или, к примеру, латышской, в силе только тщательно настроенному музыкальному уху. Волынка перекочевала на “квартирники”, фестивали средневековой культуры и стихийные встречи в парках. Сами инструменты – практически точные копии тех времен. Их делают вручную единицы, а желают купить сотни. Неискушенный зритель песню волынки слушает с любопытством. Ощущение, что время вернулось вспять, придает живой звук.

Тэлеканал ОНТ, 5 мая 2006 г.



Алесь Жура, камерны канцэрт, комплекс Дудуткі, 2010 г.



Гурт "Баламуты", Універсітэт культуры, Мінск, 2010 г.



Гурт "Mozaik" (Польшча), 2010 г.

Последнее подобное мероприятие проходило 13 лет назад. Теперь традиция больших встреч музыкантов, фольклористов и любителей волынки возобновляется. Дуда (волынка) – один из самых древних и мистических белорусских инструментов. Интерес к ней сегодня возрождается, как и сама волынка. Фестиваль объединил лучших молодых и бывалых белорусских волынщиков.

Паводле газеты "Ва-банкъ"

В нашей стране возродили традицию проведения фестиваля волынки. В стильную средневековую вечеринку превратился "Дударскі фэст". Публике, собравшейся в клубе, пришлись по вкусу необычный, завораживающий звук этого старинного инструмента, красивые мелодии. Зрители смогли приобщиться и к танцевальным традициям наших предков. В планах организаторов – проводить фестивали волынки ежегодно.

Газета "Минский курьер", 10 мая 2006 г.

Стало очевидно, что белорусская дуда (национальная разновидность волынки или bagpipe) находит все больше приверженцев среди молодежи, вновь широко звучит на концертных площадках. В начале мая дудари со всей Беларуси съехались на свой традиционный фестиваль. Это придало празднику исполнителей на белорусской дуде черты национального музыкального форума. Возрожденный "Дударскі фэст" показал, что за время, которое прошло с момента проведения последнего фестиваля, в стране выросла целая плеяда самобытных исполнителей на белорусской дуде. Значит, можно говорить о возрождении национальной школы игры на этом старинном инструменте.

Паводле часопіса "Jazz-квадрат"

"Дударскі фэст" – это продолжение дела по возрождению волынки (дуды) и попытка вернуть подобные фестивали в белорусское общество. К сожалению, по финансовым причинам в нынешнем фестивале волынки не примут участие мастера из других стран, хотя организаторы мероприятия получили многочисленные предложения от латышских, польских и даже шотландских волынщиков.

Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН

Адна з найбольш цікавых музычных імпрэзаў у Беларусі пачатку траўня — “Дударскі фэст”. Больш чым праз дзесяць гадоў ад першых “Балтыйскіх дударскіх фэстаў” найлепшыя дудары краіны збіраюцца разам. Уладзімер Бярбераў — адзін з найбольш вядомых ня толькі ў Беларусі выканаўцаў на дудзе. Уладзімер Бярбераў: “Дуда ёсць нечым большым, чым пэўныя погляды — гэта ўжо штосьці агульнанацыянальнае. Яна проста паступова вяртае сабе сваё месца пад сонцам”.

Паводле радыё “Свабода”

У пачатку траўня зь вялікім посьпехам прайшоў адроджаны пасьля трынаццаці гадоў маўчаньня “Дударскі фэст”. Ягоныя вынікі паставілі пытаньне рубам: для далейшай папулярызацыі беларускай дуды насьпела неабходнасьць выданьня адмысловага дыска з музыкай для гэтага старажытнага інструмэнта. Неабходнасьць такога выданьня зразумелі і самі арганізатары “Дударскага фэсту-2006”. “Дударскі фэст” выклікаў надзвычайную цікаўнасьць да дуды, асабліва сярод моладзі. Адпаведную цукаўнасць выкліча і гэты дыск.

music.fromby.net

Уже несколько десятков лет независимые исследователи, мастера народных инструментов и фолк-музыканты ведут напряженную работу по возвращению в национальный культурный контекст одного из самых таинственных и уникальных музыкальных инструментов — белорусской дуды. Особое место в ряду подобных усилий, несомненно, занимает прошедший недавно фестиваль “Дударскі фэст”. Высокий исполнительский уровень молодых музыкантов, их продуманный и сбалансированный репертуар говорят о том, что на нашей постфолковой и медиевальной сцене ветеранам есть достойная смена, которая видит в белорусской дуде уже состоявшийся национальный инструмент и источник вдохновения для новых творческих поисков.

“Белорусы и рынок”, 7–14.05.2007


▪ Зміцер Сасноўскі і DJ Павел Бальцэвіч, 2010 г.


▪ Сумеснае выкананне гімна фестывалю, комплекс Дудуткі, 2010 г.

Трехдневный международный съезд волыночников всея Европы в Минске – вещь беспрецедентная. Фестиваль продемонстрировал две основные тенденции. Одни (их большинство) стремятся воссоздать аутентику не только музыкальными, но и театральными средствами; другие концентрируются всецело на музыке. Не менее серьезное отношение к традициям продемонстрировали и польские гости фестиваля. Из гостей больше всего поразил японец из Болгарии Ютака Бан.

“Белгазета”, 23.04.2007

“Дударскі фэст” – фестываль недзяржаўны, бюджэтнай фінансавай падтрымкі не мае. Але, нягледзячы на гэта, цікавасць да самабытнага інструмента расце, як на дражджах.

“ЛіМ”, 04.05.2007

...Возрождение волынки в Беларуси с каждым годом набирает обороты, увеличивается количество людей, которые хотели бы вернуть в обиход один из самых древних белорусских инструментов – дуду (белорусская



Гурт “Fidelius” (Германія) – Roman Scholz, Diego Scholz, Piers Roger Ford, хутар Шаўловічы, 2011 г., здымак Аніка Ціко

волынка). Больше всего организаторов фестиваля радует, что большинство почитателей волынки – молодые люди.

БЕЛТА, 09.04.2007

У беларускіх дудароў вельмі арыгінальны рэпертуар. Як у сярэднявеччы, так і на пачатку ХХ стагоддзя Беларусь была дударскім краем. А сёння, вяртаючы сабе гэтае імя, першай ва Усходняй Еўропе праводзіць міжнародныя фестывалі. Спецыфіка беларускай дуды ў тым, што яна была знакавым інструментам падчас абрадаў – Каляды, валачобнікі, радзіны, вяселле. Існавала і адмысловая манера ігры. Лічаныя людзі могуць аднавіць яе. Гэта Юрась Панкевіч і Дзяніс Сухі, якія граюць сёння па ўзору старога беларускага дудара Слаўчыка… Не абышлося і без поўнай авантуры, калі ўсе дудары з беларускімі дудамі і ўсе барабаншчыкі паспрабавалі выканаць без рэпетыцыі будучы гімн фестывалю “Зайграй мне, дударочку!”.

Радыёстанцыя “Deutsche Welle”, 25.04.2007

У фестывалі бяруць удзел амаль два дзясяткі каманд... Цікавая акалічнасць: традыцыйна лічыцца, што дуда – гэта мужчынскі інструмент. Але на “Дударскім фэсце” сапраўдны фурор учынілі жанчыны – удзельніцы польскага гурту “Дудзяжы Велькапольскі” і беларуска Аксана Касцян.

Радыё “Свабода”, 20.04.2007

“Дударскі фэст” праходзіў у Мінску ўжо другі раз. “СтараЛітва”, Litvintroll, “Келіх кола”, “Ліцьвінскі хмель” – пад такую музыку сапраўды можна сысці ў нірвану. Дзякуй Богу, што аўтэнтычнай музыцы ёсць месца ў сучасным свеце, значыць, не забыліся мы на сваё мінулае.

“Переходный возраст”, май 2007

На “Дударскім фэсце – 2007” музыкі “Літвінтроль” прадставілі слухачам medieval-metal. Досыць арыгінальнае спалучэн-

Дударская канферэнцыя, хутар Шаўловічы, 2011 г., здымак Аніка Ціко





Piers Roger Ford, гурт “Fidelius” (Германія), 2011 г.



Беларуска-шведскі джым-сэйшн, хутар Шаўловічы, 2011 г., здымак К. Гусева



Гурт “Hedningarna” (Швецыя), 2011 г., здымак Аніка Ціко



Гурт “Open Folk” (Польшча), 2011 г., здымак Аніка Ціко

не, якое выклікала вялікую цікавасць і энтузіязм сярод прыхільнікаў экстрэмальных музычных кірункаў... Сапраўднай сэнсацыяй Дударскага фэсту стаў японец Ютака Бан. Слухачы адзначылі яго надзвычай шчырымі воплескамі.

Газета беларускай дыяспары ЗША “Беларус” (Нью-Ёрк), чэрвень 2007

В Минске начался “Дударскі фэст – 2008”. Постепенно наша страна становится центром культуры волынки Восточной Европы.

Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, 25.04.2008

Для беларуса гук дуды з’яўляецца натуральным і спрадвечным. Традыцыя дуды нагэтулькі ўпісаная ў беларускі фальклор, што маем усе падставы лічыць дуду не імпартным інструментам, як цымбалы ці скрыпкі. І каб не злы лёс нашай краіны, дуда магла б стаць такім жа сімвалам нашага краю, як тое атрымалася ў Шатландыі.

“Polskie radio”, 01.04.2008

Адно з важкіх дасягненняў беларускіх дудароў – гэта тое, што больш спрактыкаваныя выканаўцы і майстры перадаюць маладым дударам свой бясцэнны вопыт, назапашаны дзясяткамі гадоў. Неафіты беларускай дуды прагнуць спасцігнуць гэтую навуку як мага больш дакладна, з мэтай яшчэ шчыльнейшага набліжэння да аўтэнтычных узораў. Адным з такіх дапытлівых і карпатлівых выканаўцаў – дудар Юрась Панкевіч, першы вучань знакамітага майстра-дудара Тодара Кашкурэвіча.

Газета беларускай дыяспары ЗША “Беларус” (Нью-Ёрк), сакавік 2008

В последние годы музыканты все чаще обращаются к колоритному звучанию народных инструментов. И тут впереди многих оказалась волынка, которая становится по-настоящему популярной.

“БГ – Деловая газета”, 24.04.2008




Дударская канферэнцыя, хутар Шаўловічы, 2011 г., здымкі К. Гусева

За последний год немало сделано. Создан "Дударский клуб", начало действовать "Дударскае братэрства св. Васіля" – орден хранителей национальной исполнительской школы игры на дуде... Особых зрительских симпатий удостоились самые маленькие участники "Дударскага фэсту" – семилетний Павел Маковский и детская группа "Рарог" из Ивенца.

"Белорусы и рынок", 5–12 мая 2008

Традыцыйна лічыцца, што дуда – гэта мужчынскі інструмент. Але на "Дударскім фэсце" ўсё часцей сваё майстэрства дэманструюць жанчыны.

www.vitebsk.ws, 24.04.2008

Арганізатары не баяцца так званай "фемінізацыі" фэсту, бо любая дзяўчына імкнецца навучаць дзяцей, а сярод вучняў заўсёды будзе больш хлопчыкаў. Дзявочы гурт "Расалія" яшчэ раз напомніў пра сённяшнюю значную ролю ў дударскім руху жанчын.

UFF-by.org

Кожны "Дударскі фэст" для яго арганізатараў і ўдзельнікаў – своеасаблівы экзамен. Сёлетні "Дударскі фэст" быў праведзены пад знакам "Полацкага сшытка". Сапраўды, на пачатку фэсту, пасля аўтарскіх кампазіцый гурта "Кашлаты Вох", беларускамоўных апрацовак ірландскага фальклору ў выкананні гуртаў "Келіх кола" і "Ceilidh Ceol" загучалі апрацоўкі з "Полацкага сшытка". З гэтым жа рэпертуарам выйшаў на сцэну гурт "Разалія". За "Разаліяй" тэму "Полацкага сшытка" працягнулі ветэраны айчыннай медыевальнай сцэны Беларусі гурт "Стары Ольса". Выступ гурта "Litvintroll" быў дакладна прадуманым крокам арганізатараў. Бо сустрэцца з такімі моцнымі па гучанню і прафесіяналізму музыкамі хочацца яшчэ і яшчэ!

"Новы час", 10.05.2009

Рух айчынных выканаўцаў, якія мараць пра адраджэнне традыцый сярэднявечнага музыцыравання, што былі пашыраны на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, набірае моц і нясе слухачам новыя адкрыцці і імёны. У красавіку распачаў сваю гісторыю фэст пост-фолкавай музыкі "Crivia Aeterna" ("Крывія назаўжды"). На пачатку траўня з вялікім поспехам прайшоў адроджаны з ініцыятывы Тодара Кашкурэвіча і Змітра Сасноўскага "Дударскі фэст".

music.fromby.net



"Стары Ольса", 2011 г., здымак А. Белавусава



# Дударскі клуб Беларусі

Андрэй ПЯТРЭНКА паводле ўспамінаў “дударскіх ветэранаў”

## “Корч”

Рэзкае павелічэнне колькасці дудароў прывяло ў 2007 г. да першых стыхійных дударскіх вечарын. Спачатку ў парку Я. Купалы пачалі збірацца дудары і танцоры, адначасова гралі на 2–3 беларускіх дудах. Як і любы жывы і стыхійны рух, дударскія вечарыны не мелі праграмы, не мелі кіраўніка і былі багата аздоблены ўжываннем піва.



▪ Адкрыццё Дударскага клуба



▪ Сустрэча ўдзельнікаў Дударскага клуба з У. Пузынем

Пазней дударскія сустрэчы перамясціліся ў яблыневы сад на станцыі метро “Усход”. З-за таго, што месцам была абрана палянка з вялізным паваленым бервяном, сустрэчы пачалі называць “Корч” (ці “Коряга”). Паступова на першае месца ў адносна беспарадкавым кіраванні ўсім працэсам вылучыўся дудар Юрась Панкевіч. Асноўнымі складнікамі сустрэч стала ўласна



Стасункі з супрацоўнікамі міліцыі складаліся вельмі парознаму. Некалькі сустрэч былі перапынены стражамі парадку, але працэс ужо пайшоў і спыніць яго было немагчыма нават разгонам асобных сустрэч. На гэтыя вечарыны прыходзілі ўсе зацікаўленыя. Збіраліся і металісты, і жанглёры агнямі, і фальклярысты, і проста “піўныя абалдуі”.



Віктар Кульпін



Грае Стась Чавус





Гурт "Гальярда", клуб "Бастыён"



Аляксей Яскевіч, клуб "Сфера"

дударская музыка, народныя танцы і шмат-шмат піва. Моладзь усіх магчымых творчых і жыццёвых накірункаў пачала штотыднёва збірацца "на Карчы" на танцавальныя вечарыны пад дуду. Зноў жа жанглёры агнямі, металісты і постаці нявызначанага паходжання дапаўнялі палітру стыхійнасці. Здараліся нават слабага накалу дробныя канфлікты на глебе рознага разумення стылістыкі дударскіх вечарын. Але важна адзначыць, што згуртаваныя сумесным спажываннем піва стройныя шыхты дудароў ніколі не дапускалі канфліктаў сярод сваіх братоў. Непаразуменні ўзнікалі хіба толькі між дударамі, з аднаго боку, і аматарамі безгустоўнага "брынчання" на гітары – з другога.

## Дударскі клуб

На зімовы сезон у 2007/08 гг. "Корч" папрасіўся на зімоўку ў клуб "Катакомбы". Для стварэння адпаведнай творчай і традыцыйнай атмасферы клуб "Катакомбы" быў аздоблены фотаздымкамі беларускіх дудароў XIX–XX стст., а Юрась Панкевіч, Тодар Кашкурэвіч і Зміцер Сасноўскі ў куце цэнтральнай залы стварылі своеасаблівы алтар, дзе пад шклом з падсветкай вісела копія лепельскай дуды. Сумесныя джым-сэйшны музыкаў з розных гуртоў, танцавальны вэрхал, традыцыйная бязмежная колькасць піва, журналісты, прадзюсары – усё стварала пачуццё свята. Вось менавіта тады і паўстала ідэя аб'яднаць усіх дудароў у своеасаблівую творчую арганізацыю – Дударскі клуб Беларусі. Было абвешчана, што Дударскі клуб – гэта аб'яднанне майстроў і музыкаў, якія займаюцца адраджэннем усіх відаў дуд, традыцыйных для тэрыторыі былога ВКЛ. Аўтарамі ідэі выступілі майстры Тодар Кашкурэвіч, Юрась Панкевіч, Зміцер Сасноўскі і Дзяніс Сухі. Кіраўніком клуба абраны майстар і музыка, кіраўнік гурта "Testamentum terrae" Юрась Панкевіч. Ініцыятыву падтрымалі гурты "Стары Ольса", "ЛітвінТроль", "Гальярда", "Келіх кола", "Ліцьвінскі хмель", "Яварына", "Расалія" і шмат іншых.

Пры бясспрэчнай перавазе традыцыйнай беларускай дуды, на вечарынах клуба гучала дударская музыка іншых еўрапейскіх народаў (шатландская, нямецкая, галісійская, шведская, латышская) і розных стыляў – ад традыцыйнага фальклору да рок-музыкі. Дзейнасць Дударскага клуба была моцна паяднана з планамернай падрыхтоўкай Дударскага фэсту. Мэта ўсяго беларускага (ліцвінскага) дударскага руху – развіваць ідэю аб вяртанні дуды ў якасці асноўнага музычнага інструмента Беларусі. Як і Дударскі фэст, дзейнасць Дударскага клуба стала ўнікальнай для Усходняй Еўропы.

А потым зноў быў "Корч" з усімі "выцякаючымі"... (штосераду з 19 да 22 гадзін)!!! На зімовыя перыяды 2008/09 і 2009/10 гг. дударскія спатканні былі перанесены ў кавярню "Бастыён". Гучанне беларускіх народных інструментаў, спевы і танцы, атмасфера сярэднявечнай карчмы, стравы беларускай кухні і смак піва, майстар-класы па народных і сярэднявечных танцах ад гурта "Гістрыён" – традыцыя квітнела і развівалася. Увесну адбывалася традыцыйнае вяртанне клуба на вольнае паветра "на Корч".

Зімовы перыяд 2010/11 гг. з поспехам прайшоў у клубе "Сфера". На першыя пазіцыі ў адміністраванні стыхійным працэсам "дударска-танцавальнага вар'яцтва" паступова выйшаў дудар Яўген Барышнікаў. З ягонай ініцыятывы на дударскіх вечарынах праходзілі розныя конкурсы і цікавыя спатканні. Адзін з найбольш удалых конкурсаў быў прысвечаны творчаму "сутыкненню" дудароў аўтэнтычнай народнай школы Беларусі і дудароў, якія граюць сярэднявечную музыку. Наведвальнікі галасавалі тым, што выстаўлялі пустыя бутэлькі ад піва на бок той партыі, якая ім найбольш спадабалася. З вялізным адрывам перамагла народная партыя, што вельмі здзівіла Зміцера Сасноўскага, які аддана выступаў за сярэднявечную партыю.

З лета 2011 г. узнікла яшчэ адна дударская пляцоўка (штопанядзелак з 19 да 22 гадзін). Зноў жа ў яблыневым


▪ Аляксей Яскевіч


▪ Грае Стась Чавус


▪ Дзяніс Сухі


▪ Вечарына Дударскага клуба ў клубе RE:PUBLIC


Антон Гліністы


Яўген Барышнікаў


Вячаслаў Калацэй


Юрась Панкевіч

садзе, але ўжо ў Лошыцкім парку, дудар гурта "Тутэйшыя" Дзяніс Шматко збіраў сяброў для сумесных рэпетыцый, але паступова пачалі прыходзіць туды і танцоры, і слухачы. Атмасфера вельмі нагадвала "Корч". Сам Дзяніс Шматко паведаміў, што маецца і надалей працягваць свае дударска-танцавальна-піўныя вечарыны.

Увосень 2011 г. Дударскі клуб з гасціннасцю прыняў новы клуб Мінска – RE:PUBLIC (вул. Прытыцкага, 62, ст. метро "Кунцаўшчына"), за што кіраўнікі Дударскага клуба вельмі ўдзячны асабіста дырэктару клуба RE:PUBLIC Андрэю Старцаву (былы дырэктар былога клуба "Рэактар"). Паводле многіх думак гэтае супрацоўніцтва працягнецца і надалей, бо нават персанал клуба RE:PUBLIC, не кажучы пра кіраўніцтва, вельмі спагадліва ставіцца да дудароў і беларускай дударскай музыкі.

## Дударскае братэрства

Улетку 2009 г. на хутары "Барок", які належыць майстру і дудару Алесю Ласю адбылася сустрэча старэйшых дудароў. Мэтай было абмеркаванне пытання па стварэнню ордэна захавальнікаў беларускай традыцыі, якому далі назву "Дударскае братэрства", патронам арганізацыі быў абраны самы ўшанаваны ў старой Беларусі святы Васіль, таму поўная назва пачала гучаць як "Дударскае братэрства святога Васіля". Патрэба такога таварыства паўстала ў сувязі з тым, што на той час ужо 5 дудароў былі ў стане граць у беларускай традыцыйнай манеры. Гэта дало магчымасць казаць пра тое, што ў Беларусі фактычна аднаўлена нацыянальная школа грання на дудзе. Узнікла неабходнасць вызначыць каноны і асноўныя патрабаванні да ўсіх, хто будзе далучацца да нацыянальнай школы. Быў створаны працоўны варыянт Статута, ці па-старабеларуску – Вілкер (слова нямецкага паходжання).

## ВІЛКЕР Дударскага братэрства св. Васіля

### Адпаведнасць маральным крытэрыям:

- Сталае пражыванне на тэрыторыі этнічнай Беларусі (уключна з Віленскім краем, Заходняй Смаленшчынай, Паўднёвай Латгаліяй і Беластоцкім краем).
- Вольнае валоданне беларускай мовай.
- Прызнанне беларускай (старалітоўскай) культуры сваёй роднай.
- Вызнаванне Беларусі сваёй Радзімай.

**Абранне аднаго з відаў традыцыйных старалітоўскіх дудаў:**



Заразанне казляняці і здыманне скуры ў рытуальных умовах.

Нарыхтоўка чароту, выраб чаратовых пішчыкаў.

**Авалоданне традыцыйнай манерай і тэхнікай:**

- закрытая манера;
- строй G першай актавы – С малой актавы.



**Авалоданне традыцыйным дударскім рэпертуарам *:**

- "Дудар" ("Цяцерка");
- Найгрыш Г. Слаўчыка;
- "А мой дзядзька дуднік быў";
- "Зайграй мне, дударочку";
- Валачобніцкая "Хрыстос уваскрос сын Божы";
- Мелодыі сямейнай абраднасці: любая 1 радзінная, 1 хрэсбінная і 1 вясельная.

* У кожнай мелодыі абавязковы паказ здольнасці да імправізацыі.



- Вячка Красулін



- Зміцер Сасноўскі



- Стась Чавус





- Тодар Кашкурэвіч

# ДУДА як атрыбут сакралізацыі і дыянісійства

**Алесь СУРБА,** майстар, дудар, аспірант кафедры беларускай і сусветнай мастацкай культуры БДУКіМ


▪ Здымак А. Белавусава

На сённяшні дзень дударская традыцыя Беларусі заслугоўвае большай увагі, чым гэта здаецца на першы погляд. Неабходнасць яе дасканальнага вывучэння і пераасэнсавання, з сучасных навуковых і аматарскіх пазіцый, прыводзіць даследчыка да пастаноўкі ўсё большай колькасці пытанняў, звязаных з узнікненнем і матывацыяй, бытаваннем і ўспрыманнем, а таксама са знікненнем і прычынамі вяртання дударскага феномену.

А ці можна на самай справе сцвярджаць пра феномен "дударскай традыцыі"? Для гэтага трэба спачатку разгледзець само паняцце "традыцыя". Традыцыя – гэта ўніверсальная форма захавання жыцця сацыяльнай арганізацыі, культуры, духоўных сіл чалавека. Інакш кажучы, традыцыя – форма духоўнага быцця. Мабыць, дударская традыцыя і ёсць культурны і сінкрэтычны феномен, які ўключае міфалогію, фальклор, звычаі, а таксама непасрэдна форму і канструкцыю самой дуды. Такім чынам, можна казаць пра наяўнасць дзвюх асноўных складаючых "дударскай традыцыі": **форма** і **змест**. Пад формай трэба разумець тыпалогію, канструкцыю і дэкор, а пад зместам – шырокае кола напрамкаў, звязаных з дудой, ад гісторыі да міфалогіі і рытуалу.

Бадай кожны чалавек, які больш-менш знаёмы з дудамі свету і ў прыватнасці з беларускай дудой, напэўна задаваўся пытаннем: што прывяло да знікнення гэтага інструмента на пачатку XX ст.? Тут ужо існуе шмат версіяў. Яшчэ М. Я. Нікіфароўскі тлумачыў знікненне дуды з "распушчанасцю моладзі", а як следства – укараненнем у культуру гармонікаў і кларнетаў.

Мы зірнём на гэтае пытанне з іншага боку. Паспрабуем адсачыць пэўныя тэндэнцыі, якія маглі паспрыяць развіццю і забыццю дударскай культуры і традыцыі. Таму, каб наблізіцца да іх разумення, неабходна зазірнуць у мінулае не толькі Беларусі і Еўропы, але нават і Антычнасці.

Для таго каб уявіць эвалюцыю дударскай традыцыі, неабходна звярнуцца не толькі да гісторыі, якая з'яўляецца толькі "ценем, які мы бачым на сцяне пячоры,




а сапраўдныя рэчы застаюцца непазнанымі", як казаў Платон, але і да псіхааналізу, філасофіі і мастацтвазнаўства.

Адной з універсальных мадэляў гістарычных тэндэнцый, якую мы скарыстаем, будзе **сакральнасць** і **секулярнасць**.

**Сакралізацыя** (ад лат. sacrum-святое, супрацьпастаўленне мірскому, матэрыяльнаму) – надзяленне прадметаў, аб'ектаў, працэсаў і інш. святым сэнсам, звязаным з асаблівай праявай Боскай волі. **Секулярызацыя** – адваротны працэс; працэс разумення рэлігійнасці як спецыфічнай сістэмы палітыкі, якая будуецца на прынцыпах дэмакратыі.

Першымі яскравымі прыкладамі такога падзялення з'яўляюцца, па меркаванню прафесара Т. Ф. Зялінскага, гісторыя Антычнасці і, у прыватнасці, гісторыя антычных рэлігій. Ён заўважае, што філасофская і сацыяльная думка, а таксама мастацтва мяняюць свае кірункі ў залежнасці ад часу, што наводзіць на думку аб глабальных архетыпічных пачатках у грамадстве. Сапраўды, на працягу Антычнасці адбываліся важныя змены то ў бок секулярнасці (гамераўскі перыяд), то ў бок сакральнасці (з'яўленне хрысціянства і неаплатанізму), а таксама з'яўленне самага містычнага сакральнага культу Дыяніса. Па меркаванню А. Меня, гэтая рэлігія досыць хутка заняла свае пазіцыі ў грэчаскім грамадстве. Дзяўчаты амаль без вопраткі збіраліся па начах, палілі вогнішчы, танцавалі пад гукі аўласаў (язычковы музычны інструмент, які мог быць умантаваным у мех і ўтвараў дуду), цімпанаў (барабанаў) і кімвалаў (талеркаў). Цікава, што ролю выканаўцы на аўласе адыгрываў мужчына, які ўвасабляў самога Дыяніса. З цягам часу з такіх "містэрый" паўсталі дыфірамбы (Дыянісу), а потым і тэатр у сучасным яго разуменні. Усё гэта прывяло да з'яўлення цэлага комплексу атрыбутаў, звязаных з культам Дыяніса: віно, экстаз, моц прыроды, інтуіцыя, падсвядомасць, ілюзія, транс і інш. Варта адзначыць, што гэты сакральны кірунак рэлігіі акцэнтаваў сваю ўвагу на духавых інструментах. Насуперак рэлігіі Дыяніса, рэлігія Апалона культывавала струнную кіфару, альбо ліру. Паспрабуем

разабрацца ў матывах, якія прывялі да такога жорсткага падзелу.

Ф. Ніцшэ ўвёў такія паняцці, як **дыянісійскі** і **апаланічны** пачатак. Апалон – сын Зеўса, носьбіт ягонага тварэння, утварае сонечны пачатак: "Апалон – бог усёй моцы, творачы вобразамі, ёсць, у той жа час, і бог, які кажа ісціну, прарочыць будучыню". Такім чынам, апаланічны пачатак увасабляе пластычнасць, сузіральнасць, прыгажосць і інш. Дыяніс, насупраць, – пачатак зямнога, бог урадлівасці, гаспадар расліннасці, земляробства, вінаграднай лазы і вінаробаў, стыхійнай моцы зямлі, бог весялосці, радасці і буйства. Дыянісійскі пачатак увасабляе эмоцыю, непластычнасць, стыхію і экстаз. Па меркаванню К. Керэн'і "дыянісійская ахвярная цырымонія з яе складанай строгай унутранай логікай з'яўляецца асновастворным фактам грэчаскай рэлігійнай гісторыі". Становіцца відавочна, што ў эпоху секулярызацыі дамінуе архетып Апалона, а ў эпоху сакралізацыі – архетып Дыяніса.

Трэба заўважыць, што хоць нам гістарычна вядома пра выкарыстанне духавых інструментаў у дыянісійскіх культах, але асноўны націск варта зрабіць на міфалогіі. Па меркаванню В. Іванова, дыянісійства ўвасабляецца ў некалькіх міфалагічных персанажах: Дыяніс, Пан, саціры, менады. Адным з першых сімвалаў дыянісійства стаў Пан, казлападобны сацір, які граў на флейце-сірынзе.

Але як жа звязана дуда з дыянісійскім культам? На падставе вывучэння міфалогіі мы сцвярджаем, што ўзнікненне дудаў і духавых інструментаў звязана з архетыпам Дыяніса, альбо эпохай сакралізацыі. Сапраўды, флейта Пана, паплечніка Дыяніса, з'яўляецца ў міфах адначасова з міграцыяй культу Дыяніса з усходу ў Грэцыю, дзе ўжо прысутнічалі прадыянісійскія культы. На сённяшні момант невядома, што дакладна зрабіў Пан з трыснягу (сірынгу альбо аўлас), але ўсё роўна мы можам лічыць гэты факт за ўзнікненне прататыпа дуды ў Заходняй цывілізацыі.

Увесь абшар Еўропы захаваў рэшткі ад былога грэчаскага сакральнага дыянісійскага культу ў розных выглядах: сярэднявечнае паляванне на вядзьмарак, містычныя плыні хрысціянства, а таксама дударская культура. Нездарма ў часы ранняга хрысціянства былі забаронены духавыя інструменты (у тым ліку і дуды) як атрыбуты д'ябла. Важным фактарам тут можна лічыць факт грання імператара Нерона на дудзе (па сведчаннях Гая Светонія Транквіла), які меў д'ябальскую рэпутацыю ў хрысціянскім свеце. Дарэчы, адбывалася гэта на фоне набіраючай моц секулярызацыяі Рымскай імперыі. Потым у часы высокага і позняга сярэднявечча дуды і дудары з'яўляюцца ў свецкай і духоўнай іканаграфіі, але часцей у выглядзе быка, казла, свінні альбо сабакі. Нездарма вялікі містык І. Босх маляваў дуды ў пекле альбо атаясамліваў іх з полавай распустай.

Эпоха Рэнесанса прынесла пэўныя змены: пачала нараджацца навука, з'яўляецца свецкая філасофія, мастацтва. Эпоха вяртаецца да былой секулярнасці. З'яўляюцца мастакі (А. Дзюрэр, П. Брэйгель і інш.), якія з радасцю малююць дудароў, дуды, а таксама выкарыстоўваюць міфічныя вобразы.

Беларуская іканаграфія перыяду Рэнесанса і Новага часу дэманструе наяўнасць такіх жа самых тэндэнцый. Але вось што цікава, усе формы інструментаў нагадваюць агульнаеўрапейскую дуду з адсутнасцю сакральнага дэкору. Даныя, сабраныя даследчыкам Зм. Сасноўскім, пераканаўча даказваюць, што дуда на Беларусі перажывала некалькі стадыяў, як і па ўсёй Еўропе. Напрошваецца цікавая думка: а што калі дуды таксама падзяліліся ў эпоху сярэднявечча на сакральныя і секулярныя? Можа, таму мы маем столькі супрацьпастаўленых фактаў адносна эвалюцыі беларускай дуды?

Беларуская іканаграфія дудаў захавала яшчэ некалькі тыпаў, якія больш вядомы нам па XIX ст. Першае, што кідаецца ў вочы, – гэта канфлікт духавой формы (дуды) са струннай (скрыпкай). Хутчэй за ўсё гэтыя два пачаткі (струнны і духавы) служаць розным мэтам, у прыватнасці архетыпам Апалона і Дыяніса. Дадзенае супрацьпастаўленне яскрава апісана ў працы М. Я. Нікіфароўскага "Дудар і музыка", аўтар мае на ўвазе дудара і скрыпака, але свядома выкарыстоўвае тэрмін "музыка", відавочна, ад кораня "муза" (спадарожніца Апалона). Такім чынам, характар супрацьпастаўлення пластычнага (секулярнага) і экстатычнага (сакральнага) меў на Беларусі яскрава выражаны характар.

Дык што ж яшчэ звязвае беларускую дуду з Дыянісам? Напэўна, татэм казы, які сустракаецца на дудах па ўсёй Усходняй Еўропе. Гэта можа быць выява як у натуральным выглядзе, так і ў выглядзе драўлянай галавы казы замест перахадніка-стока на жалейцы. Таксама ў

гэтым адлюстраванні могуць знаходзіцца рудзіментныя рожкі, выррабленыя з дрэва, альбо сапраўдныя, устаўленыя ў пераходнік, і г. д. Беларуская дуда таксама мае такія атрыбуты. Арнамент "ліцця" ражка жалейкі ў дуды з'яўляецца таму пацвярджэннем. Ён уяўляе сабой стылізаваную галаву казы, дапрацаваную тэхналагічнымі патрабаваннямі замкнёнасці ліній.

Беларуская сакральная дуда не стала выключэннем і арганічна ўпісваецца ў традыцыю Усходняй Еўропы, але мае і свае нацыянальныя асаблівасці, аб чым сведчаць агульныя міфы пра казу, якая пераражаецца з адной постаці ў другую. Напрыклад, адна з беларускіх баек пра тое, як мужыкі, ідучы па лесе, сустрэлі чорта, які граюў на балоце на дудзе і "роў" нечалавечым голасам. Аналогія з дыянісійствам відавочная: Селен-Пан-Дыяніс-Чорт, флейта Пана-аўлас-дуда, лес-балота. Сам дэкор беларускай дуды носіць сінкрэтычны характар і ўвасабляе некалькі функцый. Тэхналагічная функцыя яго зразумела сучаснаму даследчыку, а дэкаратыўная з'яўляецца ўжо эстэтычным пачаткам і носіць агульначалавечы характар імкнення да прыгожага. Сакральная ж функцыя застаецца пакуль нераскрытай, і яе глыбінны семантычны сэнс застаецца адкрытым пытаннем.

Стадыі знікнення сакральнай (дыянісійскай) традыцыі дударства пачаўся ў ХІХ ст. і пераканаўча фіксуе замену дуды скрыпкамі, гармонікамі, кларнетамі і г. д. Ужо вядомы нам М. Я. Нікіфароўскі заўважае, што моладзь замест народных пачалі прываблівацць фабрычныя інструменты. Землі Беларусі на той час уваходзілі ў склад Расійскай імперыі, якая тады набірала моц на міжнароднай арэне. Як і Рымская імперыя ў часы найбольшай магутнасці і моцы, яна знаходзілася на стадыі секулярызацыі (у тым ліку і царквы). Тут трэба прыгадаць і еўрапейскія тэндэнцыі: навукова-тэхнічную рэвалюцыю, рост пазітывісцкай навукі, дамінаванне рацыяналізму. У такіх умовах сакральныя матывы размываюцца і "ад былога зместу застаецца толькі форма". Так адбылося і з дудой. Дударская музыка пачала выкарыстоўвацца больш для "танцаў", пераняўся "скрыпічны рэпертуар": полькі, кадрылі і інш. У такіх умовах канкурэнцыя сакральнага зместу дуды з "секулярнымі інструментамі" (скрыпкі, гармонікі), якія насілі свецкі забаўляльны характар і мелі больш тэхнічных магчымасцяў, была проста немагчымай. Неаднаразова ўпамінаюцца дудары "нелюдзімыя", якія жылі "самі па сабе", відаць, не знаходзячы таго самага "сакральнага прымянення". Савецкі час зрабіў сваё: за асноўны нацыянальны інструмент Беларусы былі ўзяты цымбалы. Струнны секулярны інструмент апаланічнага пачатку (цымбалы) падаўляў натхненне, эмоцыю і экстаз, ён падпарадкоўваў усіх адной мэце – вертыкалі ўлады. Дуды і дударская культура знікалі.

Але пачынаючы з 70-х гг. ХХ ст. па ўсім свеце актывізавалася цікавасць да дудаў. Беларусь не стала выключэннем. З'явіліся навукоўцы, майстры, аматары. Прычыны гэтага феномену хутчэй за ўсё ляжаць на ўзроўні архетыпаў Апалона ды Дыяніса. Матывацыяй для аднаўлення гэтага інструмента стала "містычнасць", а можа нават і "містэрычнасць". Такая фармулёўка з'яўляецца





- Традыцыйны (сакральны) арнамент "ліцця" ражка беларускай дуды

своеасаблівай антытэзай да крызісу пазітывісцкай навукі, рацыяналізму, якая прыводзіць да новага вітка сакралізацыі.

Такім чынам, трэба адзначыць, што працэсы асэнсавання і вывучэння феномена сакральнай і секулярнай традыцыйнай культуры дуды носяць прынцыпова важны характар. Разуменне гэтага "коду" з'яўляецца важнай часткай ідэнтыфікацыі беларускай культуры як унутры, так і па-за яе межамі. Сам факт "паўтору", звароту да каранёў прыводзіць да думкі Ф. Ніцшэ аб "вечным вяртанні" існага. Магчыма, "сакральнае кола" будзе "круціцца", пакуль мы не зразумеем глыбінны сэнс. Але зразумець дударскую традыцыю можна толькі непасрэдна яе перажываючы. Экстаз дударскага "дурману", лёгкі хмель, эратычны пачатак – усё гэта частка адной містычнай плыні сакралізацыі. Толькі калі мы зразумеем гэта, адбудзецца падзея, якую мы падсвядома жадаем: з'яўленне сапраўднага сакральнага дударскага зместу (як надбудова над формай), альбо, кажучы міфалагічнай мовай, – нараджэнне ці пераражэнне пакутуючага бога Дыяніса.

# АНЕКДОТЫ пра дудароў

Падборку склаў **Алесь ЧУМАКОЎ**

Негкадумнае вар'яцтва дудароў дае падставы людзям жартаваць з іх. Аб'ектам з'едлівых кпінаў становіцца і сам дудар (смешны выгляд пры гранні, шалёныя паводзіны), і гук ягонага інструмента (вісклівасць настройкі, дудовыя рэпетыцыі, нянавісць навакольных людзей). З іншага боку, дудары – людзі далёка не спакойныя, таму самі ствараюць жарты адзін пра другога. І вось што дзіўнае, жарты пра дудароў і пра дуды маюць амаль аднолькавыя сюжэты па ўсім свеце! Прапануем некаторыя з найбольш тыповых.

**Пытанне.** Калі вы згубіцеся ў пустыні, у каго з трох сустрэчных вам трэба запытаць дарогу: у дудара з расстроенай дудой, у дудара з настроенай дудой ці ў Дзеда Мароза?



**Правільны адказ.** У дудара з расстроенай дудой, бо два астатнія – персанажы вымышленыя і проста прымроіліся.

**Пытанне.** Чаму ў дудароў так шмат дзяцей?

**Правільны адказ.** Проста жонка дудара гатовая на ШТО ЗАЎГОДНА, толькі б ён менш часу настройваў сваю дуду...

– Мама! Мама! Я, калі стану дарослым, хачу быць дударом!

– Не, сынок, у цябе атрымаецца ці першае, ці другое...

Жанчына прыходзіць да лекара. І пасля абследавання ёй паведамляюць, што ёй засталося жыць не болей за шэсць месяцаў... Жанчына пытае ў лекара, што ёй рабіць.



– Ну, – кажа лекар, – вы маглі б выйсці замуж за дудара.

– А хіба я тады пражыву даўжэй?

– Не, але тады гэтыя шэсць месяцаў пададуцца вам шасцю гадамі.

Каля дарогі стаялі двое: адзін дудар, другі таксамма без грошаў.

Размаўляюць два дудары:

– Учора быў на дні нараджэння ў лютніста – тры гадзіны няспынна граў там на дудзе!

– Правільна зрабіў! Я таксама цярпець яго не магу!

Ішоў неяк беларускі гісторык ля Лідскага замка, і раптам каля яго з'яўляецца здань і прапаноўвае выканаць любое ягонае жаданне. Гісторык парыўся ў кішэні – дастае мапу ВКЛ XVI стагоддзя і кажа:

– Глядзі, якая была вялізная і моцная дзяржава... Не мог бы ты яе адрадзіць?

– Гэта вельмі складана, – кажа здань. – Давай замест аднаго складанага жадання я выканаю два простыя.

– Добра, – кажа хлопец. – Я хацеў бы мець заўжды настроеную дуду і добра граць на ёй...

– Чакай, чакай, – перапыняе яго здань, – давай лепш паглядзім на тваю мапу...

Сустракаюцца два людаеды:

– Я ўчора злавіў лютніста... Упітаны, тлусценькі, сэрца такое вялікае – проста далікатэс!

– А мне ўчора дудар патрапіўся. Чорствы, сухі, сэрца зморшчанае... але пячонка... Якая ў яго была пячонка!!!

Да дудара прыходзіць гаспадар суседняй кватэры:

– Калі вы не спыніцеся граць на дудзе, я хутка звар'яцею!

– А я ўжо гадзіны дзве як не граю...

Сустракаюцца два сябры.

– Як справы?

– Ды добра, фірму адкрыў, раблю добры бізнес. Дастаўляю дуды, стрэльбы і труны...

– А чаму такі дзіўны асартымент?

– Ну, спачатку ў адну кватэру прадаеш дуду, потым у некалькі суседніх прадаеш стрэльбы, а потым хутка і труну падвозіш...





Дзяніс Шматко, здымак А. Ждановіча

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі.*
Вёрстка *Я. Мальдзіс.*

Падпісана да друку 16.01.2012.
Фармат 60×84 1/8. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 14,93.
Ул.-выд. арк. 10,3. Наклад 1000 ас. Заказ 20.

Падрыхтавана да друку ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ПУП «Джи энд Ди».
Ліцэнзія № 02330/0150065 ад 05.06.08.
Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, Мінск.

"Дуда справядліва магла б стаць сімвалам нашай краіны, накшталт дуды (bagpipe) у Шатландыі, так шырока вядомая і такая блізкая яна была кожнаму чалавеку, незалежна ад належнасці да пэўнага стану."

Тодар Кашкурэвіч

